

*Данатэла.*
*Св. Ян Хрысціцель.*
*1457 г., бронза, выш. 185 см.*
*Сабор у Сіене.*




*Хрыстус запаўняе духоўную пустку сваім Боскім Евангеллем, утаймоўвае схільнасці да дрэннага сваімі сакрамэнтамі, мірыць і яднае людзей сваёю запаведдзю любіць бліжняга, як сябе самога, супакойвае і суцяшае засмучаных у малітве, якой навучыў, умацоўвае слабых і сілкуе сваім Целам у святой Камуніі тых, хто адчувае духоўны голад, і сваім уваскрасеннем дае надзею на жыццё вечнае.*

*Такім чынам, калі ўсе і ўсё падманвае, Езус Хрыстус гатовы ў любы момант нашага жыцця прыйсці да нас на дапамогу з паратункам, бо Ён — наш Збаўца, Сын Божы, Бог!*

Кардынал Казімір Свёнтэк.
З казання на ўрачыстасць
Божага Цела. 2003 г.



**У нумары 3/2014**

НАША ВЕРА



# ВІНШАВАННЕ З РАДЗІМЫ

20 кастрычніка спаўняецца 25 гадоў біскупскай сакры Мітрапаліта Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. Біскупскае пасвячэнне Яго Эксцэленцыя атрымаў у 1989 г. у базыліцы св. Пятра ў Рыме з рук сёння ўжо святога папы Яна Паўла ІІ і стаў першым за ўвесь пасляваенны час Апостальскім Адміністратарам Мінскай дыяцэзіі для католікаў Беларусі. Пасля было нялёгкае, але якое ж плённае апостальскае служэнне ў Расіі, а ў 2007 г. — вяртанне на радзіму ў статусе Мітрапаліта Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Чвэрць веку самаадданай пастырскай працы на Божай ніве. За гэты час вельмі шмат зроблена, ды ў пераліку гэтага зробленага няма патрэбы, бо праца працягваецца, а яна і яе вынікі навідавоку. Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч — заўсёды энергічны, шчыры, адкрыты, як ён сам кажа: «Стараюся прымаць усіх і з усімі размаўляць». Ён чалавек медыйны, часта выступае ў друку — каталіцкім і свецкім, на радыё і тэлебачанні, яго стыхія — інтэрнэт-прастора.

З ім любяць кантактаваць журналісты, якія ахвотна прыходзяць на ўсе прэс-канферэнцыі з яго ўдзелам. Арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча можна сустрэць не толькі ў касцёле ці ў курыі, але й на мінскіх веладарожках. Ён любіць спорт і падарожжы. Нашага арцыпастыра ведаюць у блізкім і далёкім замежжы — ён сапраўдны апостал-вандроўнік. Дзякуючы яму ў свеце ведаюць пра Касцёл у Беларусі...

Але з усіх вандровак чалавек вяртаецца на радзіму і найперш туды, дзе, па словах Яна Паўла ІІ, «усё пачалося». Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч таксама імкнецца, калі дазваляюць час і абставіны, у свой родны Адэльск — старажытнае мястэчка непадалёк ад Гародні. Тут 3 студзеня 1946 г. ён нарадзіўся, тут яго хрысцілі ў мясцовым касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, тут ён прыняў Першую святую Камунію і сакрамэнт канфірмацыі, у гэтым касцёле служыў міністрантам, адсюль, з бацькоўскай зямлі, выплывае крыніца яго святарскага паклікання. Вось як сам ён сказаў пра гэта ў адным з інтэрв'ю: «Кліча Бог. Аднак трэба пачуць гэты голас. Таму не памылюся, калі скажу, што найперш мне дапамаглі яго пачуць мае бацькі. Ведаю, што бацька маліўся і неаднойчы пытаўся ў мяне, ці я не адчуваю паклікання да святарства. Але найбольшае ўражанне зрабіла мама. Аднойчы, калі працаваў у Вільні інжынерам, я прыехаў дадому. Была нядзеля. Узяў

малітоўнік, думаючы, што гэта мой, бо ўсе яны выглядалі аднолькава. У касцёле, аднак, заўважыў, што гэта быў не мой, а мамін. У ім я знайшоў абразок з малітвай маці аб святарскім пакліканні для сына. Я зразумеў, што мама, якая не сказала мне пра гэта ніводнага слова, малілася ў гэтай інтэнцыі...»

Напярэдадні біскупскага юбілею нашага арцыпастыра захацелася і нам пабываць на яго радзіме, убачыць тыя мясціны і тых людзей, якія яго памятаюць, для якіх ён найважнейшы, якія ім ганарацца, моляцца за яго і заўсёды чакаюць так, як чакаюць толькі блізкіх і родных...

У Адэльску, на вуліцы, што носіць імя мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, стаіць бацькоўскі дом, у якім нарадзіўся будучы іерарх. У доме цяпер жывуць іншыя гаспадары: бацькі арцыбіскупа Ігнацы і Ганна адышлі ў вечнасць і спачываюць на мясцовых могілках. І гэты родны мітрапалітаў дом, і магілы бацькоў ды родных арцыбіскупа Тадэвуша нам ласкава паказаў пробашч мясцовай парафіі ксёндз Віталій Нароўскі. Але гэта было крыху пазней, бо спачатку ў Адэльску мы наведалі касцёл і трапілі акурат на ранішнюю святую Імшу, якую цэлебраваў ксёндз Віталій разам з ксяндзом Альгірдасам Паўлікасам.

У касцёле XVIII ст., у галоўным алтары — абраз Маці Божай Адэльскай; адэльская ж парафія, як і само мястэчка, адлічвае ўжо шостае стагоддзе. У касцёле мы заўважылі таксама мемарыяльную дошку, прысвечаную мітрапаліту Тадэвушу Кандрусевічу, — відочны знак пашаны мясцовых парафіянаў да свайго славутага земляка і знак удзячнасці за яго Пану Богу.



Касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Адэльску.

Пасля Імшы мы паразмаўлялі з некаторымі з іх і адчулі, з якою сардэчнаю цеплынёю яны згадваюць пра арцыбіскупа Тадэвуша, наколькі ўдзячныя яму за яго хоць і не такія частыя, як ім хацелася б, візіты на радзіму. У размове з намі парафіяне ўспаміналі апошні па часе прыезд арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча ў Адэльск у нядзелю 3 жніўня, калі ён цэлебраваў у мясцовым касцёле Імшу падзякі за 25 гадоў біскупскага служэння. Марыя Кандрусевіч, жонка стрыечнага брата Яго Эксцэленцыі, прыгадала, што ў той дзень арцыбіскуп расчулена дзякаваў сваім бацькам, блізкім і ўсім жыхарам Адэльска за хрысціянскае выхаванне, за прыклад веры. «Ён такі сардэчны і просты, — казала пані Марыя, — зусім такі, як быў раней, як бы і не выяз-



З хлебам-соллю сустракаюць землякі арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча і ардынарыя Гродзенскай дыяцэзіі біскупа Аляксандра Кашкевіча.



Бацькоўская хата мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.

джаў ад нас. Ён нікога не міне, паразмаўляе з кожным — і са старым, і з малым. Любіць таксама пабыць адзін, пахадзіць, памаліцца каля касцёла, заўсёды адведвае могілкі... Нам хочацца, каб ён памятаў, што мы яго любім і шануем, што ганарымся ім і заўсёды чакаем дадому. На жаль, ён прыязджае не так і часта. Мы разумеем, што ён вельмі заняты, мае шмат працы і клопату. Здаецца, што з Масквы ён прыязджаў да нас нават часцей... Усе мы молімся за яго і жадаем яму найперш здароўя і шмат сілы для такой важнай працы ў Касцёле. Жадаем Божай ласкі і апекі нашай Божай Матачкі Адэльскай...»

На ранішняй Імшы ў адэльскім касцёле было няшмат вернікаў — яно й зразумела: звычайны працоўны дзень. Але, як заўсёды, Эўхарыстыю ўпрыгожвала сваёю ігрою на фісгармоніі 80-гадовая арганістка Зоф'я Грынь. Яна тут іграе ўжо 30 гадоў і таксама захоплена гаварыла пра свайго земляка — арцыбіскупа Тадэвуша. Яна пажадала яму, «каб ён заўсёды быў святаром паводле Сэрца Езуса...»

Пасля Імшы ксёндз Віталь запрасіў нас на плябанію, на філіжанку кавы. Утульны дамок з густоўнаю гасцёўняю і добраю каваю, за якою цікава і прыемна размаўлялася з маладым, сардэчным гаспадаром. Пасля святарскага пасвячэння ксёндз Віталій служыў у катэдры імя Францішка Ксавэрыя ў Гродне і запомніўся там менавіта сваёю адкрытасцю і сардэчнасцю. Ён казаў нам пра асаблівую адказнасць служыць у роднай парафіі арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, тым больш што гэта старажытная парафія мае сваю багатую гісторыю і сваіх славутых людзей: апрача мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, яна дала Касцёлу яшчэ трох біскупаў: у Адэльску ў XVII ст. нарадзіліся біскуп Яўстафій Катовіч, біскуп Аляксандр Катовіч і біскуп Караль Панцажыньскі...

Адчувалася, што ксёндз Віталій добра ведае гісторыю адэльскай парафіі і ганарыцца ёю. Ён захоплена апавядаў нам пра сваіх папярэднікаў, святароў, якія ў розныя гады тут служылі. Асабліва — пра ксяндза прэлата Пятра Барташэвіча, які працаваў у адэльскай парафіі ў 1947–1963 гадах і славіўся сваімі казаннямі і актыўнаю працаю з моладдзю — прывіваў ёй любоў да Бога і да актыўнага стылю жыцця, гуляў з маладымі людзьмі ў футбол. Ксёндз Пётр сабраў у касцёле вялікае кола міністрантаў, сярод якіх быў і будучы арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Нядаўна ў Гродзенскай дыяцэзіі адзначалася 100-годдзе з дня нараджэння кс. Пятра Барташэвіча, і мітрапаліт Тадэвуш




Магіла бацькоў Тадэвуша Кандрусевіча — святой памяці Ігнацыя і Ганны — на мясцовых могілках у Адэльску.

Кандрусевіч сказаў, што для яго ксёндз Пётр стаў духоўным настаўнікам, які моцна паўплываў на яго чалавечую фармацыю...

Ксёндз Віталій распавёў таксама пра сённяшняе жыццё адэльскай парафіі, што налічвае цяпер каля тысячы вернікаў. Гэта вельмі ахвярныя парафіяне, якія памятаюць пра свае традыцыі, шануюць сваю гісторыю і сваіх продкаў. Ніколі, нават у самыя страшныя гады ваяўнічага атэізму, яны не далі зачыніць свой касцёл і заўсёды дбалі і дбаюць пра яго стан.



Пробашч адэльскага касцёла кс. Віталій Нароўскі
і паэтка Данута Бічэль.

Ксёндз Віталій прызнаўся, што спачатку, пасля прызначэння ў Адэльск, вельмі хваляваўся: такая адказнасць — служыць у роднай парафіі арцыбіскупа Кандрусевіча! Цяпер хваляванне амаль прайшло, але засталася адказнасць.

«Многія думаюць, — кажа малады святар, — што калі я служу ў Адэльску, то ў мяне няма праблем, бо ва ўсім дапамагае мітрапаліт Кандрусевіч. Так, сапраўды дапамагае: найперш малітвай. І за гэта мы яму вельмі ўдзячныя. Я хачу пажадаць Яго Эксцэленцыі, каб ягоная ахвярная праца на Божай ніве прыносіла як найбольшы плён, каб ставала яму здароўя, адвагі і сілы. Хачу пажадаць святла Духа Святога на доўгія шчаслівыя гады апостальскага служэння...»

Перакрыжаванне вуліц Адэльска ахоўвае скульптура святога Антонія з маленькім Езусам на руках. Культ гэтага святога з даўніх часоў развіты ў адэльскай парафіі, і не трэба доўга хадзіць па мястэчку ды распытваць, каб пераканацца ў тым, што кожны жыхар Адэльска памятае: калі якая бяда здарыцца, памаліўшыся да Маці Божай Адэльскай і святога Антонія, можна яшчэ звярнуцца па дапамогу да свайго земляка — тэлефон арцыбіскупа Тадэвуша адэльчане маюць. Яны ведаюць, што Бог узнагародзіў іх за малітвы іх продкаў, і самі памнажаюць малітвамі Божую ласку...

Мы вярталіся з Адэльска з ціхім святлом, якое пакінула ў нашых сэрцах радзіма арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. Ехалі па старой, амаль бязлюднай бетонцы сярод чыстых, прыгожых пагоркаў і ўспаміналі цяпер ужо гістарычную падзею, што адбылася 28 кастрычніка 1989 г. у фарным касцёле ў Гародні. Прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі стаялі тады ў скверы перад касцёлам з расцяжкамі: «Божа, благаславі Беларусь!» і «Вітаем каталіцкага біскупа Беларусі!».

У час урачыстай Імшы Яго Эксцэленцыя гаварыў сваю прамову па-беларуску. Ён паведаміў усім сабраным, што і Святы Айцец Ян Павел II у Ватыкане таксама па-беларуску сказаў наступнае: «Маю вялікую радасць надзяліць поўняю святарства дарагога мансіньёра Тадэвуша Кандрусевіча, якога я прызначаю Апостальскім Адміністратарам Мінскай дыяцэзіі для католікаў усёй Беларусі. З бацькоўскай любоўю жадаю яму поспехаў у вядзенні пастырскай працы на гэтай тэрыторыі і ўпрошваю Божага благаслаўлення яму і ўсім вернікам, дaвераным яго пастырскай апецы...»

І фота з таго дня засталося: біскуп Тадэвуш Кандрусевіч выходзіць з машыны і благаслаўляе народ Беларусі, сабраны перад касцёлам... Якая светлая, прыгожая хвіліна, благаслаўлёны ранак, можна сказаць — досвітак жыцця, досвітак адраджэння Касцёла ў нашым Краі! Паміж гэтымі датамі — шмат ахвярнай пастырскай працы Яго Эксцэленцыі мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, які мудра нам усім нагадвае: «Найлепшая праграма быць шчаслівым — гэта жыць паводле Божых запаведзяў...»

*Данута Бічэль*
*і Крыстына Лялько.*

*Адэльск — Гродна — Мінск.*

*Фота Крыстыны Лялько*
*і з архіва парафіі.*

# Кардынал Станіслаў Дзівіш пра святасць Яна Паўла II

«Касцёл Яна Паўла II — гэта адкрыты Касцёл, які жадае служыць чалавеку. Ён прагне паказваць людзям евангельскі шлях жыцця», — сказаў у размове з Каталіцкім інфармацыйным агенцтвам (KAI) кардынал Станіслаў Дзівіш, Кракаўскі Мітрапаліт. Былы сакратар Папы расказаў шмат новага пра асабістае жыццё Яна Паўла II, пра яго духоўны свет і яго святасць.

Прапануем чытачам інтэрв'ю з кардыналам Станіславам Дзівішам.

— *У чым праяўлялася святасць Яна Паўла II?*

— Святасць напаўняла ўсё жыццё Яна Паўла II. Яе можна было заўважыць і ў адносінах Папы да Пана Бога, і ў яго стаўленні да іншага чалавека. Святасць праяўлялася ў вельмі моцнай унутранай дысцыпліне і ў вялікай любові. Менавіта любоў была галоўным стымулам яго ўчынкаў.

Знешняю праяваю святасці Папы была яго малітва. Ян Павел II сапраўды быў чалавекам вялікай малітвы. Аднойчы падчас сустрэчы з моладдзю Святы Айцец сказаў, што малітва — гэта размова з Богам і слуханне Бога. Чым часцей малітва становіцца слуханнем Божае волі, тым больш яна становіцца кантэмпляцыяй.

— *У які момант Вы пераканаліся, што маеце дачыненне да святога?*

— Я пазнаёміўся з кардыналам Вайтылам, тады — святаром і біскупам, падчас вучобы ў духоўнай семінарыі ў Кракаве. Ужо пасля першай нашай сустрэчы ў мяне склалася ўражанне, што ён — выключны чалавек. Ён вылучаўся вялікаю пабожнасцю і глыбокаю малітваю.

З'яўляючыся клерыкамі першага курса тэалогіі, мы дзівіліся з таго, як ён маліўся. На доўгіх перапынках, паміж лекцыямі, ён засяроджана, на каленях, маліўся ў семінарыйнай капліцы. Памятаю яго доўгія валасы, якія спадалі ў яго на твар. Так ён прабываў на малітве. Калі вяртаўся ў аўдыторыю на лекцыю, у нас стваралася ўражанне, што ён прыходзіць з сустрэчы, з размовы з самім Панам Богам.

Ужо тады мы былі пераканаmaking ныя ў тым, што гэты спакойны прафесар, які мог жартаваць падчас заняткаў са студэнтамі, жыве іншым жыццём, што ён з'яднаны з Панам Богам. І так было на працягу ўсяго яго жыцця, ажно да апошняй хвіліны.

— *Што значыць наследаваць яго святасць?*

— Наследаваць святасць Яна Паўла II — значыць быць адкрытым на Бога і на бліжняга гэтак жа, як быў адкрыты ён. Ісці да іншага чалавека без страху і боязі. Паказваць яму веліч Божай любові, любові, якая прабачае, падае руку нават таму, хто замахнуўся на тваё жыццё. Для мяне Ян Павел II — прыклад чалавека, які адказвае на заклік Пана Бога і ахвотна ідзе за гэтым заклікам.

Ён зразумеў, што яго пакліканне — быць пастырам, і стараўся выканаць абавязкі, якія вынікаюць з гэтага паклікання, споўніць тое, чаго патрабуе ад яго Пан Бог.

— *Як Вы ахарактарызавалі б паняцце «Касцёл паводле Яна Паўла II»? Якое апірышча для такой мадэлі найбольш істотнае?*

— Касцёл для Яна Паўла II — гэта Касцёл Другога Ватыканскага Сабору, Касцёл канстытуцыяў *Lumen gentium* і *Gaudium et spes*. Гэта боска-чалавечая рэчаіснасць. У ёй прысутнічае Хрыстус, які аб'яўляе любоў Бога, і чалавек, адкуплены Хрыстом. Хрыстус прысутны ў сакрамэнтах, у Божым слове, у малітве. Чалавек жа — гэта найвялікшае Божае стварэнне, якое мае вобраз і падабенства самога Бога. Таму Касцёл павінен берагчы гэтае боскае вымярэнне, застаючыся верным Божым наказам. Яны — нібы ўказальнікі, якімі трэба кіравацца, каб не заблукаць і не адысці ад Бога. Касцёл Яна Паўла II — гэта адкрыты Касцёл, які жадае служыць чалавеку. Ён прагне паказваць яму евангельскі шлях жыцця. Гэтае заданне Касцёл выконвае па-рознаму: праз біскупаў, святароў, кансэкраваных асобаў або праз свецкіх людзей. Касцёл навучае годнасці чалавека і сям'і, абараняе жыццё ад зачацця да натуральнай смерці.

Праз сваіх пастыраў Касцёл сцеражэ чысціню веры, бароніць ад небяспекі, часам настаўляе. Ён служыць чалавеку таксама і ў матэрыяльным вымярэнні: падтрымлівае школы, дзіцячыя садкі, прытулкі для старых, бедных і бяздомных людзей. Касцёл прагне служыць з дапамогаю таго, чым валодае. Можа, гэта не заўсёды атрымліваецца, але, тым не менш, такое ў яго пакліканне. Ён прагне быць святым Касцёлам.

*— Гавораць, што Папа быў містыкам. Ці перажываў ён якія-небудзь надзвычайныя містычныя станы, бачанні?*

— Так, ён быў містыкам, гэта значыць чалавекам, з'яднаным з Панам Богам. Ён умеў размаўляць з Панам Богам, але перш за ўсё — умеў слухаць, чаго патрабуе ад яго Бог, і выконваць гэта. Усё яго жыццё было адной вялікаю малітваю. Кожны дзень ён уставаў вельмі рана. Свой дзень распачынаў малітваю: медытацыя, разважанне, потым — святая Імша, падзяка. Без спешкі... Імша для яго таксама была медытацыяй. Увесь яго дзень праходзіў у малітве, адарацыі, духоўным чытанні...

Штодзённа ўвечары Святы Айцец падыходзіў да вакна, каб благаславіць Рым і ўвесь свет, пастырам якога ён быў. Надзвычайных з'яваў я не бачыў. Шматразова быў сведкам таго, як ён уставаў ноччу і ішоў у капліцу. Здаралася, калі ён быў у ёй адзін, напаўголаса прамаўляў да Бога, часам нават спяваў... Калі ён быў маладзейшы, маліўся, лежачы крыжам у капліцы ці ў сваіх апартаментах.

*— А як Папа дзяліў час на малітву і на іншыя справы пры такой вялікай колькасці абавязкаў?*

— Ён свайго часу не дзяліў. Папа маліўся падчас кожнага занятку і выканання кожнага абавязку. Ідучы на аўдыенцыю, ён маліўся за людзей, якіх павінен быў там сустрэць. Маліўся таксама за іх пасля аўдыенцыі. Я заўважыў, што ён маліўся таксама падчас аўдыенцыі, калі хтосьці прамаўляў. Такою была яго духоўнасць — няспыннае яднанне з Панам Богам.



Ян Павел II са сваім сакратаром кс. Станіславам Дзівішам.

*— Часцей за ўсё свае рэкалекцыі біскуп Вайтыла перажываў у абацтве бэнэдыктынаў у Тыньцы; бываў ён таксама ў камедулаў у кракаўскіх Бялянах, у кракаўскай семінарыі і ў Закапанэ. Чым яны адрозніваліся ад рэкалекцый у Ватыкане?*

— Як біскуп ён выбіраў тыя месцы, якія найбольш спрыялі засяроджанасці і кантакту са Стварыцелем, — месцы з прыгожымі краявідамі, дзе можна было б адасобіцца, пабыць сам-насам з Богам, напрыклад, як у Тыньцы ці ў кракаўскіх Бялянах. У Ватыкане ён перажываў рэкалекцыі разам з супрацоўнікамі Рымскай курыі. Рэкалекцыі працягваліся шэсць дзён. У гэтыя дні Папа захоўваў поўнае маўчанне, быў засяроджаны, у тым ліку падчас ежы. Ён нікога не прымаў, маліўся ў прыватнай капліцы. Для яго гэта былі святыя дні. Дні, поўныя яднання з Панам Богам.

*— Як Ян Павел II перажываў сваё цярпенне, якога ў яго было нямала? Як выглядала гэтае штодзённае нясенне крыжа, асабліва ў апошнія гады Понтыфікату? Ці не пратэставаў ён, ці не падаў духам? Ці адчуваў асаблівую еднасць, салідарнасць з іншымі людзьмі, якія перажываюць цярпенне?*

— Святы Айцец адразу ж пасля замаху на яго жыццё, застаючыся яшчэ ў прытомнасці, прабачыў чалавеку, які спрабаваў яго забіць. Прабачыў так, як Хрыстус прабачыў людзям, што ўкрыжавалі Яго. Тое ж самае Папа зрабіў тады, калі апрытомнеў (у шпіталі). Ён шмат разоў гаварыў, што ўдзячны Пану Богу за гэтае цярпенне, за тое, што Ён можа ахвяраваць сваю кроў за Касцёл, за свет. Ян Павел II усведамляў, што праз сваё цярпенне ён дапаўняў цярпенні Хрыста.

Папа прымаў цярпенні як ласку. Калі прыйшлі новыя цярпенні (пералом рукі, сцегнавой косці), ён ніколі не наракаў. Можна сказаць, што апошнія гады былі для Святога Айца суцэльнаю паласою цярпення. Уявіце, якім вялікім цярпеннем для яго было тое, што ў апошнія дні свайго жыцця ён увогуле не мог гаварыць. Будучы чалавекам натрэніраваным, у апошнія

месяцы ён быў прыкуты да крэсла. У апошні Вялікдзень ён прыйшоў у абедзенную залу, каб благаславіць велікодныя стравы і па традыцыі з'есці супольны сняданак, але не мог праглынуць нават сліны. Аднак Святы Айцец ніколі не наракаў.

У Велікодную нядзелю, калі ён адышоў ад вакна, з якога павінен быў прамаўляць да людзей, але не змог, ён толькі ўдзяліў благаслаўленне. Потым сказаў: «Калі не магу ні цэлебраваць святой Імшы, ні прамаўляць і быць з народам, то лепш, каб я памёр», але тут жа дадаў: «*Totus Tuus* — увесь Твой». І больш не сказаў ні слова. У апошні дзень свайго жыцця ён толькі напісаў: «*Totus Tuus*», і гэта былі яго апошнія словы.

*— Здаецца, кожнаму сапраўднаму святому ўласцівае пачуццё гумару...*

— Святы Айцец любіў смяяцца, жартаваць, але ніколі — з кагосьці. Падчас візітацый, калі ён быў яшчэ біскупам, любіў слухаць жарты, якія распавядалі святары. Аднак ён нікога не высмейваў. Любіў таксама сустрэчы з моладдзю, спакойныя вечары ў аазісе руху «Святло — Жыццё». Любіў спяваць маладзевыя песенькі. Быў чалавекам радасным і спакойным. Гэта дапамагала яму і ў духоўным жыцці.

Калі Альбін Малысяк, ужо памерлы дапаможны біскуп Кракаўскі, выбіраўся ў Ватыкан, то збіраў жарты з усёй дыяцэзіі, каб развесяліць Святога Айца сваім аповедам. І сапраўды, калі ён прыязджаў, заўсёды распавядаў штосьці жартоўнае падчас ежы. Папа любіў на вячэры паўспамінаць даўнія часы, паспяваць і пажартаваць.

*— Чым былі для Яна Паўла II фацімскія аб'яўленні? Калі ён даведаўся пра трэцюю таямніцу, ці атаясамліваў сябе з ёю і ў якой ступені?*

— Святы Айцец не займаўся Фацімаю да замаху на сваё жыццё. Ён ведаў фацімскае набажэнства і цаніў яго пашырэнне ў парафіях, бо яно прыносіла вялікую карысць для духоўнага жыцця вернікаў. Не думаю, што Папа быў вельмі засяроджаны на фацімскіх аб'яўленнях. Ён пачаў адкрываць іх для сябе менавіта пасля замаху.

13 мая — гадавіна аб'яўленняў у Фаціме, якія адбываліся на працягу 1917 года. Гэта таксама гадавіна біскупскай сакры папы Пія XII, якая адбылася 13 мая 1917 года. Гэтыя падзеі пераканалі Святога Айца ў тым, што Фацімская Божая Маці ўвайшла ў яго жыццё.

Ужо ў шпіталі ён папрасіў прывезці яму тэксты фацімскіх таямніцаў. Дакументы прывёз арцыбіскуп Марцінэс Самала, намеснік у Дзяржаўным сакратарыяце. Я быў сведкам перадачы гэтых дакументаў у паліклініцы Джэмэллі. У шпіталі Папа пазнаёміўся з фацімскімі таямніцамі, у тым ліку з трэцяю, якая да гэтага не раскрывалася. Тады ён пераканаўся, што Маці Божая засланіла яго ад кулі. Усё-такі замах быў зроблены з мэтаю забіць Святога Айца.

Цяжка апісваць усе падзеі, звязаныя з замахам, але несумненна адно: ён быў дэталёва падрыхтаваны. Святы Айцец павінен быў загінуць. Куля прайшла навылёт... Нягледзячы на гэта, Папа выжыў. У шпіталі мы перажывалі жахлівыя хвіліны. Перад аперацыяй доктар прыйшоў да мяне і сказаў, што трэба ўдзяліць Святому Айцу намашчэнне хворых і разграшэнне, бо ціск падае і ёсць небяспека смерці. Пасля аперацыі Папа быў абяскроўлены, таму яму зрабілі пераліванне крыві, але кроў не прынялася. Усе абставіны стваралі вялікую небяспеку для жыцця. Святы Айцец ужо пасля аперацыі ўсвядоміў, што нейкая незвычайная моц захавала яму жыццё. Так у яго з'явілася перакананне, што ён быў цудоўным чынам ўратаваны Фацімскаю Божаю Маці.

*— Караль Вайтыла, Ян Павел II, быў вялікім абаронцам культу Божай міласэрнасці. Калі пачалося яго захапленне аб'яўленнямі сястры Фаўстыны? Як ён разумеў гэтыя аб'яўленні? Калі нарадзілася ідэя ахвяравання свету Божай міласэрнасці? Якое значэнне меў факт гэтага ахвяравання для Яна Паўла II? Ці звязваў ён з гэтым надзею на які-небудзь пералом?*

— Караль Вайтыла, малады студэнт і працаўнік Кракаўскага содавага завода *Solvay*, ксёндз, біскуп і Папа, не паддаваўся эмоцыям. Ён ніколі не ўспрымаў справы веры ў катэгорыях сенсацыі. Як філосаф і тэолаг ён разважаў над таямніцаю Божай міласэрнасці, а аб'яўленні ў Лагеўніках і іншыя дапамагалі яму спасцігаць таямніцу Божай міласэрнасці.

Як святар і біскуп ён абвяшчаў, што праўда пра Божую міласэрнасць — адна з галоўных для збаўлення чалавека. Ўласнымі сіламі чалавек не можа збавіцца, таму звяртаецца да Божай міласэрнасці. Святы Айцец даверыў сябе, Касцёл і ўвесь свет Божай міласэрнасці, бо менавіта ў міласэрнасці Бога бачыў ўратаванне для свету. Ён здзейсніў гэты акт даручэння ў Лагеўніках, за што мы яму вельмі ўдзячныя. Праз Лагеўнікі Папа адкрыў Божую міласэрнасць і ахвяраваў гэтае адкрыццё ўсяму свету. Сваё жыццё і служэнне на пасадзе святога Пятра ён цалкам звязваў з Божаю міласэрнасцю.

*— На кленчніку ў сваёй капліцы Папа захоўваў інтэнцыі,*

*якія скіроўвалі да яго з усяго свету з просьбаю, каб ён звярнуў на іх увагу падчас сваіх малітваў. Ян Павел II жадаў, каб яны кожную хвіліну былі ў яго памяці, нават калі не маглі быць літаральна паўтораныя кожны дзень. Ці шмат такіх просьбаў прыходзіла да Папы?*

— Сапраўды, гэтых інтэнцый было вельмі шмат. Людзі з усяго свету прысылалі просьбы да Святога Айца ў розных справах. Пісалі і біскупы, і звычайныя людзі, просячы аб малітве ў хваробах і цяжкіх справах. Святы Айцец наказваў перапісваць і складаць усе гэтыя інтэнцыі на яго кленчніку ў ватыканскай капліцы. Молячыся, ён браў іх у рукі і прадстаўляў Богу. Папа ніколі не пакідаў просьбаў аб малітве без адказу. Ён зачытваў іх некалькі разоў на працягу дня, уваходзячы ў капліцу, ідучы ў абедзенную залу ці вяртаючыся адтуль. Усе просьбы былі для яго ўнутраным наказам для малітвы. Гэтых просьбаў заўсёды было шмат, і мы таксама навучыліся ўспрымаць малітву такога кшталту з вялікаю адказнасцю. Навучыліся паважаць такія просьбы і давяраць іх Богу.

*— Вядома, што розныя навуковыя працы, у тым ліку філасофскі твор «Асоба і чын» (1969), кардынал Вайтыла пісаў перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам, у капліцы дома арцыбіскупа ў Кракаве. Ці рабіў ён гэтаксама падчас свайго Пантфікату?*

— Капліца ў Кракаве была месцам яго вялікай малітвы і адначасова працоўнаю майстэрняю. Ён маліўся раніцаю і вечарам. Працаваў у капліцы дома біскупа перад прыёмам святароў і свецкіх. Часам ён ляжаў крыжам. Сёстры часта бачылі яго ў познія вячэрнія гадзіны. Пры алтары ў яго быў кленчнік і маленькі столік, на якім ён пісаў.



Усе яго кнігі былі прадстаўленыя Богу ў малітвах.

Гэтак жа было ў Ватыкане, дзе яго студыя знаходзілася побач з капліцаю. Можна сказаць, што ўсе яго прамовы, дакументы, публікацыі былі напісаныя з Панам Богам, на каленях. Калі ён рыхтаваў нейкі дакумент, браў пяро (не пісаў ні на друкарскай машынцы, ні на камп'ютары) і накідваў праект. Перад гэтым шмат чытаў. Чытаў падчас адпачынку і ў вольны час. <...> Праца Папы ў Ватыкане вымагала ад яго моцнай дысцыпліны.

*— Ян Павел II гаварыў пра «вясну Касцёла». З чым ён звязваў надзеі на будучыню Касцёла і як ён яе сабе ўяўляў?*

— Святы Айцец быў перакананы, што ў Касцёле ёсць унутраныя сілы, якія спрыяюць таму, што ён няспынна адраджаецца. Такою асноўнаю сілаю з'яўляецца Езус Хрыстус, прысутны ў сакрамэнтах і ў сваім слове. Ён — Галава містычнага Цела. Святы Айцец глыбока верыў, што Хрыстус заўсёды з ім і вядзе яго. Таму ён з надзеяй глядзеў у будучыню.

Папа таксама цешыўся, калі ў Касцёле з'яўляліся знакі аднаўлення. А такія знакі былі. Памятаю сустрэчу з духавенствам у Францыі, у Парэ-ле-Маньяль. Маладыя клерыкі і маладыя святары, якія слухалі яго і разумелі, якія атаясамлівалі сябе з тым, што ён казаў, былі для яго знакам адраджэння Касцёла. Падобнымі да гэтай былі іншыя сустрэчы з моладдзю свету. Таму нараджаліся словы, поўныя пераканання: «Вы — надзея Касцёла. Вы — надзея свету». Гэта былі не пустыя словы. У 2000 годзе Святы Айцец казаў моладзі ў Рыме, што яна — заранка, якая прадвяшчае цудоўны дзень. Яна — прадвеснік будучыні грамадства, а таксама яснага дня для Касцёла. Ян Павел II быў чалавекам надзеі. Зразумела, ён перажываў з-за сумных здарэнняў, якія датычыліся Касцёла ці грамадства, але быў чалавекам надзеі.

*— Якія былі ў яго надзеі на экуменізм? Падчас свайго першага візіту ў Канстанцінопаль у 1979 годзе Папа выразна гаварыў пра надзею на супольнасць алтара з братамі праваслаўнымі. Як гэтая надзея развівалася? Што прынесла Святому Айцу найбольшы боль на гэтым экуменічным шляху?*

— Ян Павел II быў біскупам і Папам Другога Ватыканскага Сабору. Сабор быў скліканы Янам XXIII і скіроўваўся да аднаўлення Касцёла і дастасавання яго да новага часу. Я шмат разоў чуў, як Святы Айцец Ян Павел II казаў, што энцыкліка «Ut unum sint» вельмі важная, бо еднасць вучняў Хрыста — гэта здзяйсненне наказу Настаўніка. Таму экуменізм — здзяйсненне наказу Хрыста незалежна ад таго, ці адкрываюцца іншыя на гэтую ідэю. Гэта таксама ажыццяўленне пастанаўленняў Другога Ватыканскага Сабору.

Таму Святы Айцец зрабіў ідэю экуменізму цэнтральным пунктам праграмы свайго Пантыфікату, асабліва ў адносінах да праваслаўя і пратэстантызму. Аб'ектыўна трэба сказаць, што плён яго намаганняў у гэтай галіне вельмі вялікі. Цэрквы, асабліва праваслаўныя, вельмі наблізіліся да Каталіцкага Касцёла. Плён экуменічных сустрэчаў больш бачны ў галіне душпастырства, чым на іерархічным ці тэалагічным узроўні. Там праца вымагае большых намаганняў, даўжэйшага навучання, але поспех вельмі вялікі. Ян Павел ІІ клапаціўся пра тое, каб падчас усіх падарожжаў адбываліся сустрэчы з прадстаўнікамі іншых Цэркваў, а таксама дыялог з іншымі рэлігіямі.

Дыялог з іншымі рэлігіямі стаў бачны асабліва ў адносінах да габрэяў. Святы Айцец здзейсніў падарожжа — можа, найдаўжэйшае ў гісторыі Касцёла — у рымскую сінагогу, з Ватыкана на другі бераг Тыбра. У гэтым простым руху праявіўся незвычайны поспех у дыялогу з габрэямі, якіх мы называем старэйшымі братамі па веры. Потым было падарожжа на Святую Зямлю, якая зноў зблізіла хрысціянаў і габрэяў.

Гэтак жа ў адносінах да іншых рэлігій. Ян Павел ІІ бачыў, што ў адносінах да ісламу адзіным шляхам да супакою з'яўляецца дыялог: на ўзроўні культуры і клопату пра чалавечыя каштоўнасці. У наш час гэты дыялог дапамагае многім людзям зразумець адзін аднаго. Ян Павел ІІ вёў дыялог таксама з вялікімі рэлігіямі Усходу. Толькі ён, душою адкрыты на дыялог, мог запрасіць усіх лідараў сусветных рэлігій у Асізі, калі спакой у свеце ў перыяд халоднай вайны знаходзіўся пад пагрозаю. Ён лічыў, што рэлігіі могуць ствараць настрой братэрства і атмасферу спакою. Безумоўна, сустрэчы ў Асізі спрычыніліся да змяншэння напружанасці ў свеце, выклікаavнай «зорнаю вайною» і нейкім чынам аслабленаю. Гэтак жа было падчас вайны на Балканах. Святы Айцец абвяшчаў свету, што рэлігія ніколі не павінна быць прычынаю вайны і смерці. Рэлігія і вера ў Бога павінны яднаць, весці да спакою.

*— А якія былі перспектывы ў дыялогу з рэлігіямі і якія намеры меў Папа ў гэтай справе? Растлумачце, калі ласка, якія стымулы і прычыны пабуджалі яго да склікання міжрэлігійных сустрэчаў у Асізі? Чаму Ян Павел ІІ у пэўны момант пацалаваў Каран? Ці не супярэчыла гэта хрысціянскай ідэнтычнасці?*

— Скліканне прадстаўнікоў усіх рэлігій свету ў Асізі было асабістаю ініцыятываю Святога Айца. Гэта быў не рэлігійны сінкрэтызм, а сход прадстаўнікоў усіх рэлігій і супольная малітва. Кожны маліўся паводле ўласнай рэлігійнай традыцыі. Хрысціяне — асобна, прадстаўнікі іншых рэлігій — у сваіх групах. Аднак усе былі з'яднаныя адной і той жа ідэяй спакою, які тады знаходзіўся пад вялікаю пагрозаю, бо між сабою сутыкнуліся два блокі: капіталістычны і камуністычны. Камуністычны, марксісцкі блок, дамінаваў на Усходзе. Капіталістычны блок — на Захадзе. Існавала рэальная пагроза «зорнай вайны». Некаторыя кіраўнікі хацелі выкарыстаць рэлігіі для распальвання канфлікту паміж народамі і кантынентамі, паміж Усходам і Захадам, паміж Поўначчу і Поўднем. Ян Павел ІІ хацеў паказаць свету, што рэлігіі не з'яўляюцца прычынаю канфліктаў паміж дзяржавамі. Ён з адвагаю наведваў мусульманскія супольнасці. Памятаю цудоўную сустрэчу ва ўніверсітэце ў Каіры, які з'яўляецца своеасаблівай «інтэлектуальнаю Меккаю» ісламу. Там прымалі яго як сябра. Гэтак жа было і ў Марока, дзе адбылася сустрэча з моладдзю на стадыёне. Тады шмат дыскутавалі пра тое, што Папа скажа гэтай мусульманскай моладзі. Святы Айцец сказаў супрацоўнікам: «Я не буду пазбягаць нашых тэмаў, бо яны ведаюць, хто я такі. Буду гаварыць пра Езуса Хрыста». І яго цудоўна прынялі, бо мусульмане былі перакананыя, што Папа — шчыры. Ён быў шчыры ў адносінах да чалавека і шанаваў іншыя рэлігіі, шанаваў чалавека і ўсё, што звязана з яго рэлігіяй. Ці пацалаваў Святы Айцец Каран? У сродках масавай інфармацыі з гэтага зрабілі вялікую праблему. Я асабіста не бачыў, каб ён пацалаваў Каран. Але калі б нават пацалаваў, то ўсё ж ніколі не атаясамліваў сябе з Каранам. Ён шанаваў святую кнігу мусульманаў, але гэта не значыць, што ён атаясамліваў сябе з ісламам.

*— Якое месца займае Ян Павел ІІ у Вашай асабістай малітве? Ці можаце Вы прыадчыніць заслону таямніцы дзейснасці гэтых малітваў?*

— Я часта звяртаюся ў малітвах да Святога Айца. Ён быў і застаецца для мяне айцом, як і для многіх людзей, якія будуць чытаць гэтыя радкі. Я звяртаюся да Святога Айца асабліва тады, калі маю цяжкасці. Кажу яму: «Ойча Святы, мне патрэбна твая дапамога». І справы нейкім чынам вырашаюцца. Я перакананы, што ён дапамагае мне. Заахвочваю таксама іншых да малітвы праз заступніцтва Святога Айца Яна Паўла ІІ. Ён яшчэ пры жыцці выпрошваў шмат ласкаў. Веру, што цяпер ён таксама блізкі да кожнага чалавека, блізкі да нас усіх. <...>

*Размаўляў Марцін Пшэцішэўскі.*

*Пераклала з польскай мовы Ганна Шаўчэнка.*

*Паводле: http://www.niedziela.pl*

## Да 100-годдзя святой памяці кардынала Казіміра Свёнтка



Від на касцёл у Пружанах. 1939 г. Фота ксяндза Казіміра Свёнтка.

# «АХ, ГЭТЫЯ ПРУЖАНЫ...»

«Ах, гэтыя Пружаны, так глыбока яны ўвайшлі ў маё жыццё...», — сказаў кардынал Казімір Свёнтэк падчас урачыстай святой Імшы ў пружанскім касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі 15 жніўня 2009 года. У той незабыўны дзень патранальнага свята парафіі ўдзячныя пружанцы дзякавалі Богу за 70 гадоў святарскага служэння свайго былога вікарыя Казіміра Свёнтка. Тут, у пружанскай парафіі, у 1939 годзе ён распачаў свой святарскі шлях, тут цэлебраваў сваю прыміцыйную Імшу, тут разам з парафіянамі перажываў драматычныя падзеі Другой сусветнай вайны... Праз 70 гадоў, стоячы каля алтара пружанскай святыні, 95-гадовы кардынал коратка і проста прыгадваў перажытае, звязанае з Пружанамі. Ён называў тады толькі факты, якія прамаўлялі самі за сябе: «21 красавіка 1939 года я стаў вікарыем у касцёле ў Пружанах. А 17 верасня таго ж года савецкія войскі ўступілі ва ўсходнюю частку Польшчы, у тым ліку і ў Пружаны. Толькі 5 месяцаў мая душпастырская праца працягвалася ў нармальных умовах. Настаў час панавання савецкай сістэмы, якая абапіралася на матэрыялізм і атэізм. Вынікаў гэтага панавання не давялося доўга чакаць...

21 красавіка 1941 года, у другую гадавіну маёй працы ў Пружанах, ноччу НКУС забраў мяне менавіта з гэтай плябаніі (што знаходзілася з другога боку касцёла). Мяне завезлі ў Брэст, кінулі ў вязніцу — адразу ў камеру для асуджаных на смерць, дзе я прабыў два месяцы. З 21 на 22 чэрвеня я неспадзявана выйшаў на волю — „дзякуючы“ нападу гітлераўскіх войскаў на Савецкі Саюз і захопу горада Брэста. Іронія лёсу! Сваім выратаваннем ад расстрэлу чэкістамі я «абавязаны» ... гітлераўцам. Калі б яны не ўварваліся ў той час, мяне б цяпер тут не было.

30 чэрвеня 1941 года я ў першую чаргу паехаў у Пружаны. Ах, гэтыя Пружаны, так глыбока яны ўвайшлі ў маё жыццё: вязніца — Пружаны, Пружаны — вязніца... Плябанія, пра якую я згадваў, была занятая, а на яе дзвярах я ўбачыў картку з надпісам па-нямецку: „Занята гестапа“. Я трапіў з агню ды ў полымя. <...>

Аднак я зноў нёс душпастырскае служэнне ў пружанскай парафіі да 16 ліпеня 1944 года, пакуль гестапа не загадала вывезці мяне ў лес і расстраляць. Другі раз іронія лёсу... Гэтым разам „выратаваў“ КДБ*...

Я зноў вярнуўся ... у Пружаны, але ненадоўга, на шэсць месяцаў. 17 снежня 1944 года з гэтай жа плябаніі мяне зноў забраў КДБ і вывез у Мінск, дзе пасля 7-мі месяцаў зняволення, 21 ліпеня 1945 года, вядомая сваімі жорсткімі прысудамі савецкая „тройка“ асудзіла мяне на 10 гадоў зняволення з адбыван-

* Тут і далей Яго Эмінэнцыя меў на ўвазе супрацоўнікаў дзяржбяспекі.



Ксёндз Казімір Свёнтэк з міністрантамі каля пружанскага касцёла. 1939 г.

нем кары ў ГУЛАГу. Я ўздыхнуў з палёгкаю — на гэты раз не было смяротнага прысуду...»

Ксёндз Казімір Свёнтэк выжыў і выстаяў у тых нялюдскіх умовах савецкіх лагераў, каб стаць сведкам веры і жывым яскравым прыкладам дзеяння Божага Провіду ў лёсе чалавека, як ён сам не стамляўся паўтараць, «нават у сітуацыях, безнадзейных з чалавечага пункту гледжання...».

Памятаецца, што ў той святочны жнівеньскі дзень 2009 года кардынал не спяшаўся ад'язджаць з Пружанаў. Пасля ўрачыстай св. Імшы ў двары касцёла, каля грота Маці Божай, Яго Эмінэнцыя сустрэўся з парафіянамі і з тымі, хто даўно жыве далёка ад радзімы, але ўсе гэтыя гады ўдзячна згадвае свайго «вясёлага, дасціпнага» вікарыя і хто знарок прыехаў для таго, каб пабачыцца з ім. І ён, памаладзелы, разам з усімі спяваў, успамінаў, слухаў словы віншаванняў з юбілеем святарства, жартаваў... А пасля абеду ў гасцінным дамку гаспадара парафіі, калі ўсе сабраліся ад'язджаць, Эмінэнцыя нечакана прапанаваў наведацца да «яго» крыніцы і набраць у дарогу вады... Адчувалася, што яму хочацца яшчэ тут пабыць, пахадзіць сцежкамі маладосці, паказаць іх нам... Тое светлае перажыванне засталося ў душы назаўсёды, як смак халоднай, крыштальна чыстай вады з «ягонай» крыніцы...

*Туды, дзе вытокі ракі Мухавец,*
*дзе б'е з-пад зямлі крыніца,*
*прыйдзе аднойчы стамлёны жнец*
*гаючай вады напіцца.*

*І дакрануцца да гэтай зямлі,*
*на якой усё пачалося...*
*Тут ворагі скончыць сяўбы*
*не далі,*
*ды Бог узрасціў калоссе.*

Калоссе жывой веры, зерне якой руплівa і дбайна сеяў на пружанскай зямлі малады і няўрымслівы вікарый Казімір Свёнтэк...

Прапануючы нашым чытачам артыкул пра гісторыю пружанскага касцёла, хочацца прыгадаць словы кардынала, сказаныя ім 14 жніўня 1998 года падчас рэкансэкрацыі гэтай адноўленай святыні. Сёння яны гучаць як яго айцоўскі і пастырскі наказ, пакінуты не толькі пружанскім парафіянам, да якіх былі звернуты, але і ўсім нам: «Кожны павінен памятаць: святыня трымаецца на нашай моцнай, непахіснай веры ў Бога і на вернасці, адданасці свайму Касцёлу. Няхай жа гэта адроджаная святыня будзе вечна жывою крыніцаю ўзнаўлення ў нашых душах веры, рэлігійнага жыцця і прыналежнасці да Каталіцкага Касцёла».



Кардынал Казімір Свёнтэк падчас рэкансэкрацыі касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Пружаны. 14 верасня 1998 г.

*Крыстына Лялько*

Да 100-годдзя святой памяці кардынала Казіміра Свёнтка



Сучасны выгляд пружанскага касцёла.

Наталля ПРАКАПОВІЧ

# З ГІСТОРЫІ ПРУЖАНСКАГА КАСЦЁЛА

На працягу апошніх дзесяцігоддзяў шмат зроблена ў справе адраджэння гістарычнай памяці беларусаў. Навукоўцы і аматары пастаянна адкрываюць факты, якія дазваляюць па-новаму паглядзець на нашу мінуўшчыну. Не застаецца ў баку ад гэтай справы і музей-сядзіба «Пружанскі палацык», дзе захоўваецца шмат цікавых рэчаў з мінулага і сучаснасці роднага краю. Сярод іх асаблівае месца займае папка з арыгінальнымі дакументамі, прысвечанымі гісторыі рыма-каталіцкага касцёла ў Пружанах, 20 дакументаў асвятляюць невядомыя старонкі з мінулага касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Выяўленне падобных экспанатаў тым больш актуальна, што ў 2011 г. адзначалася 130-годдзе з пачатку будаўніцтва мясцовай святыні.

Першы драўляны касцёл у Пружанах мог існаваць на мяжы XV–XVI стст., аб чым сустракаюцца ўскосныя звесткі, а ў 1522 г. свае дзверы адчыніў мураваны касцёл у гонар св. Жыгімонта і св. Вацлава. Гэты храм некалькі разоў значна пацярпеў падчас войнаў XVI– пачатку XIX ст., а ў 1845 г. быў адабраны на патрэбы рускага ваеннага ведамства. Пад 1851 г. ёсць упамінанне аб драўляным касцёле ў Пружанах.

З падтрымкі пружанскага шляхціца В.Швыкоўскага ў 1857 г. пачалося будаўніцтва новага мураванага касцёла, аднак завяршыць пачатую справу ўладальнік «палацыка» не паспеў — у 1863 г. разгарэлася паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Нацыянальнае выступленне падтрымала значная частка мясцовай шляхты, а таксама пружанскі ксёндз Віталь Гансеўскі, які з 1859 г. служыў у святыні. Менавіта разгром паўстання і новы віток палітыкі русіфікацыі сталі прычынаю перадачы недабудаванага храма праваслаўнаму ведамству ў 1866 г.: замест касцёла была адчынена Прачысценская царква (сёння на яе месцы стаіць універмаг).

Але ўжо 21 снежня 1878 г. царскія ўлады зацвердзілі праект пабудовы новага касцёла ў Пружанах і выдзелілі на яго 22 тыс. рублёў. Дазвол меў абмежаванне: касцёл не павінен быў перавышаць іншыя збудаванні горада. Менавіта таму архітэктар адмовіўся ад ўзвядзення вежаў, скляпенні былі выведзены пад самы дах, каб максімальна выкарыстаць аб'ём будынка. Асноўны архітэктурны акцэнт быў зроблены на галоўны фасад, які атрымаў строгую сіметрычную

---

**Наталля Пракаповіч** — галоўны захавальнік фондаў музея-сядзібы «Пружанскі палацык». Займаецца вывучэннем гісторыі і культуры Пружаншчыны.



Каля пружанскага касцёла. Фота 30-х гг.

двух'ярусную кампазіцыю, характэрную для неакласіцызму. Касцёл узводзіўся на зямлі, выкупленай католікамі ў 1881 г. у памешчыка Быліны.

29 верасня 1883 г. рыма-каталіцкі храм нарэшце сустрэў вернікаў. Праз год адбыліся ўрачыстасці і асвячэнне касцёла ў гонар Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, святой Ганны і святога Караля Барталамея. Усе ўрачыстасці правёў святар Караль Грынявіцкі.

Каля касцёла была ўзведзена амаль 8-метровая двухпавярховая званіца, алтар якой упрыгожвалі старыя іконы: «Маці Божая Вастрабрамская» (дрэва, алей), «Маці Божая» з кляштара ў Бярозе Картузскай, «Маці Божая Ружанцовая», «Святы Антоній», «Святы Міхал» і інш. У 1886 г. за 10 м ад касцёла для ксяндза-пробашча быў пабудаваны драўляны 7-пакаёвы дом-плябанія, крыты гонтаю.

На жаль, у дакументах захавалася няшмат імёнаў ксяндзоў касцёла Унебаўзяцця НПМ. Акрамя К. Грынявіцкага ў XIX ст. ёсць згадка пра Зыгмунда Цасельскага, які служыў у касцёле ў 1889–1892 гг. У больш раннi перыяд упамінаюцца Матэуш Путвіньскі (1835–1836), Антоній Малеўскі (1859–1860), Аляксандр Грынявіцкі (1863), Антоній Гадзіньскі (1871–1872).

Вялікія нястачы касцёл зведаў у час Першай сусветнай вайны: быў пашкоджаны будынак, амаль знішчана арганная частка.

Значныя аднаўленча-будаўнічыя работы ў касцёле распачаліся ў 1929–1930 гг. пры кс. Браніславу Келбасу. З фундацыі шляхціцаў Пружанскага павета Дзяконскага і Марачэўскага ўдалося аднавіць арганнае памяшканне. Касцёл поўнасцю адрамантавалі: патынкавалі, пафарбавалі, замянілі дах і вокны, вымуравалі падлогу і ганкі, правялі электраасвятленне. Прыкладна ў гэты час мог пачацца роспіс касцёльнай столі. З мэтай захавання фундаменту старыя дрэвы, якія раслі на двары па вул. Пацэвіча (цяпер вул. Савецкая), былі выкарчаваны і пасаджаны 30 маладых ліпак. Перабудавалі і плябанію, пры якой з'явілася вялікае дадатковае памяшканне для парафіянаў. Касцёльныя будынкі былі адмежаваныя ад вуліцы плотам з літой агароджаю, варотамі і брамкамі фірмы графа Ледахоўскага.

Касцёлу належала зямля каля вул. Хватка (цяпер вул. Леніна) — фальварак Плябанцы, дзе былі дом (разбураны ў 1915 г.), сад і гарод. Фальварак быў выдзелены касцёлу люстрацыйнай (дзяржаўнай інвентарнай) камісіяй яшчэ ў 1869 годзе. Пры кс. С. Келбасу на гэтай зямлі пабудавалі шэраг гаспадарчых памяшканняў, крытых саломаю. Плошча фальварка складала каля 38 га (2 га займаў гарод, 24 га — ворыва і інш.). Поўны абмер уладання праводзіўся ў 1912 г. землямерам Хацімскім і на пачатку 30-х гг. — Яромам. Да касцёла былі прыпісаны чыншавыя плошчы з дамамі на вул. Шарашоўскай, Рэзцы, Юрыдыцы (раён універмага).

Пружанскія ксяндзы абслугоўвалі таксама мураваныя ка-




Фота пружанскага касцёла, зробленае немцамі. 1915–1918 гг.

пліцы на гарадскіх могілках (з XIX ст. яшчэ існавалі гаспадарчыя будынкі і вартоўня), у маёнтках Букрабаўшчына шляхціца Ляўковіча і Куплін Марачэўскіх. Да 1915 г. існавала капліца Крашэўскіх у Долгім, якую знішчылі казакі пры адступленні расійскага войска ў час Першай сусветнай вайны.

Паводле падрабязнага інвентара 1933 г., які быў зроблены пры ксяндзу Анджэю Ніве, касцёл меў багатае аздабленне. На вялікім алтары знаходзіўся абраз «Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі» (палатно, алей), створаны ў Варшаве ў майстэрні Герсона. За іконай у нішы мясціліся Распяцце Хрыста і абраз «Бог Айцец». У правым баку алтарнай часткі знаходзіліся іконы «Святы Антоній Падуанскі», «Сэрца Езуса Хрыста», «Святая Тэрэза», а ў левай — «Уваскрасенне Хрыстова», «Святы Станіслаў Костка». Усе выявы былі ўпрыгожаныя залачонымі рамкамі. Каля алтара знаходзіліся скульптуры св.Пятра і св.Паўла, захоўваліся рэліквіі св.Казіміра. Разам са шматлікімі іконамі, адзеннем, сцягамі, культавымі прадметамі, мэбляй захоўваліся каштоўныя дакументы — метрычныя і шлюбныя кнігі з 1663 года. Гонарам касцёла быў 10-галосы арган.

Цяжкія выпрабаванні чакалі святыню ў час Другой сусветнай вайны. З 1939 г. ксяндзом у касцёле Унебаўзяцця НПМ служыў Казімір Свёнтэк. У красавіку 1941 г. ён быў арыштаваны органамі НКУС і 2 месяцы прасядзеў у брэсцкай турме, прыгавораны да расстрэлу. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, усе арыштанты былі вызвалены і кс. Свёнтэк пешшу вярнуўся ў Пружаны, дзе працягваў служыць у касцёле. Ужо пасля вызвалення горада ад фашыстаў будучы кардынал ізноў стаў ахвярай рэпрэсіўнай сталінскай машыны: 17 снежня 1944 г. яго арыштавалі і асудзілі на 10-гадовае зняволенне.



Пачатак рэстаўрацыйных работаў. 90-я гг.

Асаблівую старонку гісторыі касцёла складаюць пасляваенныя падзеі. Адрадзіць іх падрабязную храналогію дазволілі дакументы, якія захоўваюцца ў фондах музея-сядзібы «Пружанскі палацык».

26 красавіка 1946 г. прадстаўнікі раённага партыйнага кіраўніцтва разам з польскімі чыноўнікамі і ксяндзом-канонікам касцёла Антоніем Ройкам, які ад'язджаў у Польшчу, склалі акт аб наяўнасці ўсёй касцёльнай маёмасці згодна з інвентарнымі кнігамі. Выключэнне складалі рэчы, якія святар мог узяць з сабою: арнаты, крыжы, альбы, метрычныя кнігі і г.д. Адказнасць за захаванне памяшкання і яго маёмасці прынялі на сябе прадстаўнікі мясцовага касцёльнага камітэта на чале з І.Каралько.

Актам ад 2 сакавіка 1948 г. указвалася, што згодна з рашэннем выканкама Пружанскага райсавета ад 21 лютага 1948 г. № 142 «О закрытии костёла в гор. Пружаны», будынкі святыні і званіцы апячатваліся, а маёмасць захоўвалася паводле вопісу ад 5 студзеня 1948 года. На той час налічвалася 37 адзінак рэлігійнага адзення, 25 іконаў, мэбля, сурвэткі, дываны і інш. Усе рэчы былі складзены ў вартоўні на каталіцкіх могілках па вул. Горка.

Паводле ліста № 1103 ад 24 жніўня 1950 г. Брэсцкага аблвыканкама, памяшканне касцёла ў Пружанах аддавалася пад лекцыйны зал і ствараліся камісія для зверкі наяўнасці апісанай маёмасці і вызначэння яе кошту. Камісія павінна была да 4 кастрычніка 1950 г. завяршыць сваю работу і выказаць прапановы па выкарыстанні выяўленых прадметаў. Было зроблена яшчэ некалькі вопісаў, і адказнасць за часовае захаванне 298-мі прадметаў прыняў на сябе загадчык райаддзела культасветустановаў А. Якуш, а потым дырэктар РДК В. Шабанаў.

Для большай часткі касцёльных рэчаў кошт так і не быў вызначаны. Напрыклад, грыфы «утиль» атрымалі падсвечнікі і крыжы, а «не ценятся» — рэлігійнае адзенне, абразы, сцягі, званы, келіхі, спавядальні. Размеркаванне касцёльнага начыння адбывалася паводле рашэння выканкама Пружанскага райсавета дэпутатаў працоўных 19 красавіка 1951 г., падпісанага старшынёй А.Р. Свергуном. У дакуменце гаварылася: «Передать бесплатно Пружанскому Дому Соцкультуры для создания театральных костюмов ... капы, орнаты, знамена, чехлы, пояса. ...Все остальные предметы, указанные в описи, использовать



Фрагмент роспісу столі, выяўлены экспедыцыяй В. Зіна ў 90-я гг.

при ремонте Дома Соцкультуры, металические и другие негодные предметы сдать в утиль». У дакуменце вызначаўся лёс іншых прадметаў. Напрыклад, «карету рессорную без колес» бясплатна передавалі калгасу імя XIX партз'езда КП(б)Б. Арган патрабавалася разабраць і захоўваць пры Доме культуры. Іншая маёмасць прадавалася...

Складаная сітуацыя склалася з арганам. Пружанскі райфінаддзел неаднаразова на працягу 1951–1953 гг. звяртаўся ў вышэйшыя інстанцыі з просьбаю даць указанні аб кошце і парадку рэалізацыі аргана, бо «в г. Пружаны его реализовать невозможно ...он никому не нужен», а таксама — «куда девать орган, ибо хранить его негде». У выніку 12 мая 1953 г. быў атрыманы ліст з Міністэрства фінансаў БССР за подпісам намесніка міністра П. Камчатава, паводле якога пытанне аб вырашэнні лёсу інструмента ўскладвалася на райвыканкам. 29 лістапада 1954 г. парткамісія склала акт, у якім гаварылася: «...музинструмент „орган" не может быть использован где-либо в культпросветучреждениях республики (т.к. в нем нет нужды) и находится в разобранном виде. ...Его металлические детали окислились, а деревянные — поточены червями и пришли в негодность. ...Имеющиеся металлические части органа сдать по накладной в заготконторе «Вторцветмет», ... деревянные в количестве 1,5$м^3$ заприходовать в РДК как дрова и израсходовать для отопления здания».

Такім чынам, пружанскі касцёл раздзяліў лёс многіх святыняў у былым СССР, якія, калі не былі знішчаны, сталі ўстановамі культуры, складамі, сховішчамі і г.д.

Ужо ў перыяд перабудовы рэлігійная палітыка была перагледжана, а з пачаткам суверэннага існавання Беларусі склаліся ўмовы для адраджэння апаганеных святыняў. З 1991 г. у Пружанах сталі рабіцца захады па вяртанні касцёльнага будынка вернікам. Вялікая роля ў гэтым належала ксяндзу Эдварду Лоеку, разам з якім вернікі пачалі маліцца на прыступках Дома культуры. Такая пазіцыя святара і парафіянаў дала плён: 8 снежня 1991 г. адбылося першае афіцыйнае набажэнства — католікам дазволілі маліцца ў дыскатэчнай зале, калі там не адбываліся «культурныя» мерапрыемствы. А 1 лютага 1993 г. храм быў канчаткова перададзены вернікам — пачаліся працы па рэстаўрацыі. Значны ўклад у аднаўленне касцёла ўнёс прафесар Інстытута кансервацыі помнікаў Кракаўскай палітэхнікі Віктар Зін (памёр увосень 2011 г.). Ён разам з супрацоўнікамі інстытута бясплатна зрабіў поўную інвентарызацыю аб'екта і распрацаваў дакументацыю па рэканструкцыі храма. Экспедыцыя В.Зіна на столі касцёла пад пяццю пластамі тынкоўкі, пабелкі і фарбы знайшла цікавыя роспісы, якія цяпер упрыгожваюць святыню.



Выгляд галоўнага алтара святыні і адрэстаўраваныя фрэскі на столі. Фота 1998 г.

Датай новага нараджэння касцёла Унебаўзяцця НПМ можна лічыць 1998 год. Акт аб яго рэкансэкрацыі ад 14 жніўня на беларускай і польскай мовах беражліва захоўваецца ў храмавым архіве. Ва ўрачыстасцях з нагоды адкрыцця касцёла ўдзельнічаў чалавек, які калісьці пакідаў святыню пад прыцэламі зброі, — кардынал К. Свёнтэк.

Гісторыя касцёла ў Пружанах, як і многіх храмаў іншых канфесій у Беларусі, насычана слаўнымі і трагічнымі старонкамі. Яна яшчэ раз пацвярджае, што сапраўдныя каштоўнасці — высокую духоўнасць і талерантнасць, якія спрадвеку вызначалі характар беларусаў, знішчыць немагчыма.

*Пры напісанні артыкула выкарыстаны матэрыялы з фондаў музея-сядзібы «Пружанскі палацык», архіваў касцёла Унебаўзяцця НПМ у Пружанах, сайта radzima.org.*
*Аўтар выказвае падзяку ксяндзу Роберту Іскшыцкаму за дапамогу ў працы.*

Марына Пашук

# ПАЗАСЛОЎНАЯ МОВА Ў БІБЛІІ

Напэўна, ніхто не будзе аспрэчваць таго, што чалавек можа перадаваць інфармацыю не толькі пры дапамозе словаў (вербальна), але і пры дапамозе жэстаў, мімікі, паставаў цела, позірку, усім сваім знешнім выглядам, захаваннем дыстанцыі падчас размовы — адным словам, пры дапамозе невербальных сігналаў. Паводле вядомага прынцыпу 7-38-55, які сфармуляваў псіхолаг Альберт Меграбян, пры дапамозе слова перадаецца толькі 7% інфармацыі, 38% — праз паралінгвістычныя сродкі камунікацыі: гучанне, інтанацыю і тэмбр голасу, яго тон, мадуляцыю, гучнасць, тэмп маўлення, інтанацыю выразаў, словаў, праз паўзы; пры дапамозе ж «мовы цела», г. зн. праз міміку, жэсты, позірк, рухі, паставы цела, выкарыстанне міжасабовай прасторы — 55%. Пры ўмелым выкарыстанні ведаў пра сродкі невербальнай камунікацыі мы можам атрымаць значную частку інфармацыі пра чалавека і яго намеры. Аднак вельмі часта такая інфармацыя застаецца па-за нашай увагай з прычыны няўмення яе прачытваць і правільна інтэрпрэтаваць. Здараецца, што мы не ўмеем заўважыць нават відавочных рэчаў. Напрыклад, калі чалавек вітае нас з усмешкай, але стаіць перад намі, закруціўшы рукі, гэта сігнал таго, што ён адчувае дыскамфорт, яму з намі няўтульна.

Тое ж здараецца пры чытанні тэксту Бібліі. Звычайна мы засяроджваем большую ўвагу на выказваннях яе герояў, на вялікіх і значных падзеях, але можам не зважаць пры гэтым на паводзіны людзей, іх рэакцыі, паставы. Каб умець заўважыць усё гэта ў тэксце, нам неабходныя веды пра пазаслоўныя формы камунікацыі. Паколькі ёсць дзве крыніцы невербальных спосабаў камунікацыі: індывідуальны досвед і нормы культуры, то зразумець некаторыя невербальныя сігналы дапамагае менавіта пазнанне культуры народу.

Невербальная камунікацыя, асабліва «мова цела» — гэта самая старажытная форма перадачы інфармацыі. Людзі Бібліі, безумоўна, дасканала ведалі гэтую мову, бо яна была часткай іх жыцця. Тут маюцца на ўвазе не толькі інстынктыўныя паводзіны, г. зн. несвядомае пасыланне пэўных сігналаў, але і свядомыя. Сёння, напрыклад, такім свядомым сігналам вучацца акцёры, псіхолагі, сацыёлагі, менеджары. Людзі ж Бібліі невербальнымі сродкамі камунікацыі ўмела карысталіся ў сваім жыцці. Яны вельмі ўважліва сачылі за сваімі эмоцыямі: за тым, дзе і калі можна смяяцца, таньчыць, прамаўляць, з кім і як можна спрачацца і ці ўвогуле варта гэта рабіць з людзьмі знатнага паходжання. Яны кантралявалі свае жэсты, паставы цела, паводзіны, хоць здараліся выключэнні, калі эмоцыі бралі верх над розумам, і сведчанне таму знаходзім у Бібліі. Напрыклад, Давід, апрануты выключна ў ільняны эфод, калі таньчыць прылюдна перад каўчэгам, выклікае згаршэнне сваёй жонкі Мікаль (2 Сам 6, 14. 20). Шчырая малітва Ганны, жонкі Элкана, якая з плачам вымольвае ў Бога дзіця, стварае ўражанне, што яна нібы п’яная (1 Сам 1, 10–13). Саўлам, першым каралём Ізраэля, настолькі авалодвае прарочае захапленне, што ён нават агаляе сябе (1 Сам 19, 24).

Даследаванне невербальнай камунікацыі таго часу дапамагае нам лепш пазнаць канкрэтную рэчаіснасць, зразумець яе, каб правільна інтэрпрэтаваць, каб заўважыць тое, што яна нясе сённяшняму чытачу. На жаль, мы не можам да канца растлумачыць значэнне некаторых формаў невербальнай камунікацыі, а некаторыя з іх увогуле застаюцца для нас таямніцай. Напрыклад, пячаць Каіна. Што гэта было? Татуіроўка? Аднак наколкі на целе былі забаронены Законам (Лев 19, 28). То што ж гэта было?

Прачытанне значэння пэўных жэстаў, паводзінаў людзей Бібліі дапамагае больш глыбока зразумець натхнёны тэкст. Напрыклад, чаму ў Святым Пісанні падкрэсліваецца роля і значэнне правіцы (габр. יַד־יְמִין *[yad y*$^{e}$*mîn]*)? Бо левая рука павінна была вы-

**Марына Пашук** – супрацоўніца Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры ККББ. Выкладчык Святога Пісання (Стары Запавет) Мінскага тэалагічнага каледжа імя св. Яна Хрысціцеля. Закончыла філалагічны факультэт БДУ (1993) і Акадэмію каталіцкай тэалогіі ў Варшаве (1998).

конваць, ужываючы эўфімізм, менш шляхетныя функцыі. Таму левай рукой не падавалі падарунак, не дакраналіся да іншага чалавека, бо гэта расцэньвалася як знявага. А вось жэст пацалунку, які бытаваў сярод родных людзей, быў знакам сардэчнасці: Аарон цалуе Майсея, вітаючы яго (Зых 4, 27), калі той вяртаецца ў Егіпет з пустыні. Аднак праз гэты жэст здзяйсняюцца здрада і забойства Амаса:

«*Ёаб сказаў Амасу: «Як маешся, мой браце?». І ўзяў Ёаб Амаса правіцай*[1] *за бараду, каб пацалаваць яго*» (2 Сам 20, 9).

Ёсць тут і інтэрактыўныя паведамленні, і прасторавыя адносіны — амаль інтымная дыстанцыя, і дотык правай рукой, і жэст добразычлівасці, і пацалунак, якому спадарожнічаюць словы прывітання. Усе гэтыя сродкі невербальнай камунікацыі дапамагаюць Ёабу ўвайсці ў давер да Амаса, які адпаведна прачытвае гэтыя сігналы, таму дазваляе Ёабу прыблізіцца і не заўважае, як той левай рукой дастае меч, каб забіць яго. Колькі ў гэтай сцэне для нас павучання! І ў сённяшнім жыцці ёсць прыклады такой крывадушнасці. Шчыра ўспрымаючы жэсты сардэчнасці і спагады, чалавек дазваляе непрыяцелю падысці так блізка, што не ў стане заўважыць ягоны злы намер. Элементы невербальнай камунікацыі вельмі моцна падкрэсліваюць у гэтай гісторыі крывадушнасць і хітрасць чалавека, які выкарыстоўвае жэст добразычлівасці для таго, каб здзейсніць злачынства.

Некаторыя сігналы невербальнай камунікацыі дапамагаюць адчуць эмацыйны стан герояў Бібліі — напрыклад, жэст закрывання твару[2] ў знак найбольшага болю, пакуты. Давід, які аплаквае свайго сына Абсалома, менавіта закрывае свой твар:

«*Кароль закрыў* (לָאַט *[lāʼat]*) *твар свой і голасна крычаў: «Сыне мой Абсалом! Абсалом, сыне мой, сыне мой!*» (2 Сам 19, 5).

Згадаем таксама фрагмент, які паказвае перажыванні праз апісанне фізічнага стану, калі Давід і ўсе, хто павінен быў уцякаць з Ерузалема ў выніку змовы Абсалома і Ахітафэля, пакрываюць свае галовы, плачуць, а кароль нават ідзе басанож:

«*Калі Давід узыходзіў на Аліўную гару, ён ішоў і плакаў. Галава ягоная была пакрытая. Ён ішоў босы. Таксама ўсе людзі, пакрыўшы галовы свае, калі ўзыходзілі на гару, плакалі*» (2 Сам 15, 30).

Яшчэ адным элементам невербальнай камунікацыі, які ілюструе стан горычы, вялікага жалю, пакуты і вострага болю з прычыны вялікага фізічнага і маральнага цярпення з'яўляецца жэст разрывання шатаў[3]. Рубэн, калі вярнуўся да студні і не знайшоў там свайго брата Юзафа, у знак роспачы і жалобы раздзірае свае шаты (Быц 37, 29). Тое самае робяць браты Юзафа, калі ў торбе Беньяміна знаходзяць келіх, які ён нібыта ўкраў (Быц 44, 13).

У знак вялікага жалю і роспачы Ефтай разрывае свае шаты, калі пасля перамогі над аманітамі вяртаецца дадому, а першай насустрач яму выходзіць яго адзіная дачка, якую ён, згодна з дадзеным абяцаннем, павінен прынесці ў ахвяру:

«*Убачыўшы яе, Ефтай разарваў*[4] *шаты свае і сказаў: “Гора мне, дачка мая, якое няшчасце ты спаслала на мяне! Ты пазбавіла мяне спакою! Бо я пакляўся перад Панам і не змагу ўчыніць інакш!*»» (Суд 11, 35).

Ёў, калі яму паведамілі пра смерць яго сямі сыноў і трох дачок, у знак роспачы не толькі разрывае свае шаты, але і голіць галаву:

«*Тады Ёў устаў і разарваў* (габр. וַיִּקְרַע) *шаты свае, пастрыг галаву і, упаўшы на зямлю, пакланіўся, і сказаў: “Голы я выйшаў з улоння маці маёй і голы вярнуся туды*»» (Ёў 1, 20–21a).

У гісторыі дачкі Давіда Тамар жэст разрывання шатаў азначае таксама сорам і страту годнасці:

«*Тамар пасыпала галаву сваю попелам, разарвала* (габр. קָרְעָה [*qārāʻāh*]) *сваю доўгую туніку, у якую была апранута, і, паклаўшы руку на галаву сваю, хадзіла і галасіла*» (2 Сам 13, 19).

Сярод невербальных сродкаў камунікацыі, называных «моваю цела», у Бібліі згадваюцца яшчэ паставы цела, уласцівыя размове з Богам. Яны сведчаць пра пакору чалавека перад Божай веліччу. Да сённяшняга дня такія паставы як паклон[5] і кленчанне[6] прысутныя ў літургіі хрысціянаў. У цытаваным вышэй фрагменце пра Ёва (Ёв 1, 20) ужо згадвалася адна з такіх паставаў — паклон. Вітаючы, кланяецца анёлам, якія прыходзяць у Садому, Лот:

«*Калі Лот убачыў іх, выйшаў насустрач і пакланіўся ім да зямлі*[7]*...*» (Быц 19, 1b).

На Блізкім Усходзе паклон да зямлі, увасоблены ў кленчанні і датыканні чалом зямлі, лічыцца жэстам вялікай павагі і пашаны да Бога. Так кланяецца перад Панам і кленчыць, паказваючы сваю ўдзячнасць, слуга Абрагама, калі сустракае Рэбэку, будучую жонку Ісаака:

«*І ўпаў гэты чалавек на калені*[8], *і пакланіўся* (габр. וַיִּשְׁתַּחוּ *[wayyištaḥû]*) *Пану*» (Быц 24, 26).

Паклон меў таксама свецкае значэнне: у знак падпарадкавання браты Юзафа кленчаць перад ім і робяць нізкі паклон:

«*Яны сказалі: «Твой слуга, а наш айцец, маецца добра. Яшчэ жыве». І зноў укленчылі* (габр. וַיִּקְּדוּ *[wayyiqqǝdû]*)*, і пакланіліся* (габр. וַיִּשְׁתַּחוּ *[wayyištaḥû]*)» (Быц 43, 28).

Часам для прачытвання пэў-

ных жэстаў цела неабходна падказка іншых фрагментаў Святога Пісання ці іншых крыніцаў. Напрыклад, як выглядаў паклон перад Юзафам Якуба, які ляжаў на ложку?

«*І сказаў: «Прысягні мне!» Той прысягнуў. І пакланіўся* (габр. וַיִּשְׁתַּחוּ *[wayyištaḥû]*) *Ізраэль*[9] *да ўзгалоўя свайго ложа*» (Быц 47, 31).

Тэкст Новага Запавету тлумачыць гэты жэст наступным чынам:

«*Праз веру Якуб, паміраючы, благаславіў кожнага з сыноў Юзафа і пакланіўся перад верхам посаха свайго*» (Гбр 11, 21).

Схіліць перад кімсьці калені, укленчыць[10] — гэта значыць прызнаць чыюсьці перавагу і засведчыць яму сваю павагу. У кнізе Эстэры чытаем, што калі праходзіць Аман, які цешыўся прыхільнасцю караля Артаксеркса, усе павінны схіліць калена і пакланіцца (Эст 3, 2). Такую паставу прымае таксама чалавек, які просіць, моліць аб чымсьці. Пяцідзясятнік падае на калені перад Іллёю (Эліем), просячы аб міласэрнасці (2 Вал 1, 13). Ездра падае на калені і выцягвае свае далоні да Пана ў перапрашальнай малітве, бо габрэі заключалі сужэнствы з чужаземкамі:

«*Я, Ездра, у час вячаровай ахвяры падняўся з месца нядолі сваёй і, разарваўшы шаты і плашч, упаў*[11] *на калені свае, і працягнуў свае рукі да Пана Бога свайго*» (Езд 9, 5).

Малітоўнай паставай, паставай размовы з Богам з'яўляецца таксама прастрацыя — паданне на твар[12]. Калі Бог аб'яўляецца Абрагаму, каб заключыць з ім запавет, Абрагам падае перад Ім на твар:

«*Абрам упаў ніцма*[13] *на зямлю, і Бог сказаў яму: "Вось Мой запавет з табою: ты станеш айцом мноства народаў»*» (Быц 17, 3–4).

Майсей і Аарон падаюць на твар перад сходам Ізраэля (Ліч 14, 5) і перад Богам у знак заступніцтва за ўзбунтаваны народ (Ліч 16, 4; 17, 10).

Пасля паражэння пад Айем Езус Навін і старэйшыны Ізраэля падаюць на твар перад каўчэгам Пана, які з'яўляецца сімвалам Божай прысутнасці:

«*Езус Навін разарваў шаты свае і ўпаў* (габр. וַיִּפֹּל [*wayyippōl*]) *ніцма на зямлю перад каўчэгам Пана і ляжаў аж да вечара, ён і старэйшыны Ізраэля*» (Нав 7, 6).

Праз гэтую паставу перадаецца таксама праслаўленне Бога і прызнанне Яго моцы. Нават перад Божым пасланнікам Езус Навін прымае гэтую паставу:

«*Езус Навін падышоў да яго і сказаў: "Ці ты з намі, ці з ворагамі нашымі?» Той адказаў: "Не, я правадыр войска Пана. Вось цяпер прыйшоў». Тады Езус Навін упаў* (габр. וַיִּפֹּל [*wayyippōl*]) *ніцма на зямлю, пакланіўся* (габр. וַיִּשְׁתַּחוּ [*wayyištaḥû*]) *і сказаў яму: "Што мой валадар скажа слугу свайму?"*» (Нав 5, 14–15).

У пакоры падае на твар Абрагам, калі чуе, што нягледзячы на стары век у яго народзіцца сын:

«*Упаў* (габр. וַיִּפֹּל [*wayyippōl*]) *Абрагам на твар свой і рассмяяўся* (габр. וַיִּצְחָק *[wayyiṣḥāq]*). *І сказаў у сэрцы сваім: "Няўжо ад стогадовага будзе сын, і Сара, дзевяностагадовая, няўжо народзіць?"*» (Быц 17, 17).

Праяўленнем эмацыйнага стану Абрагама становіцца таксама смех. Выкарыстаны ў гэтым выпадку дзеяслоў צחק [*ṣḥq*] «смяяцца» сведчыць пра пэўнае сумненне. Абрагам кажа Богу пра ўжо народжанага ад нявольніцы Агар Ізмаэля, але Бог пярэчыць: «*Менавіта Сара, жонка твая, народзіць табе сына*» (Быц 17, 19), які павінен быць названы Ісаакам — יִצְחָק [*yiṣḥāq*], што азначае «ён смяецца; той, які смяецца» (Быц 17, 21). У наданні сімвалічнага імя бачная гульня словаў, праз якую натхнёны аўтар паказаў, што Бог смяецца апошнім.

Ва ўсходняй культуры смех не быў гучным, хутчэй — далікатным. Таму ўзнікае пытанне, як госці ў Мамрэ пачулі Сару, якая ўсміхалася сама сабе? Тут ужыты той самы дзеяслоў צחק [*ṣḥq*]:

«*Таму засмяялася*[14] *Сара сама сабе, кажучы: "Цяпер, калі я састарэла, і гаспадар мой стары, як магу мець суцяшэнне?"*» (Быц 18, 12).

Вынікае, што смех Сары «меў голас», яму спадарожнічалі нейкія гукі. Сара не можа схаваць свайго здзіўлення, поўнага скептыцызму: як гэта магчыма?

Праз невербальную камунікацыю ў Бібліі паказана таксама іронія. Якуб выходзіць з Месапатаміі з намерам вызваліцца з-пад улады свайго цесця Лабана. Магчыма, тым жа кіруецца і яго жонка Рахэля, якая забірае з сабою, а больш дакладна — крадзе, тэрафімаў свайго бацькі (Быц 31, 19. 34–35). Паводле тэкстаў з Нузі, такія фігуркі бостваў хатняга агменю давалі іх уладальнікам права на спадчыну. Тое, што Рахэля хавае гэтых ідалаў пад сядло вярблюда, на якое потым сядае, сведчыць у нейкай ступені пра абыякавасць і легкадумныя адносіны да гэтых бостваў. Тая самая іронія мае месца і ў кнізе Самуэля (1 Сам 19, 13), калі Мікаль, дачка Саўла, кладзе сямейнага ідала ў ложак Давіда, нацягнуўшы яму на галаву покрыва з казінай воўны. Згадаем таксама, з якой іроніяй апісвае натхнёны аўтар бездапаможны гнеў юдэяў на словы апостала Паўла:

«*... яны з крыкам рвалі адзенне і ўздымалі пыл у паветра...* » (Дз 22, 23).

Хапае ў Бібліі і вельмі вострых жэстаў. Калі, напрыклад, дзевер адмовіцца ўзяць замуж сваю залоўку, яна ў прысутнасці старэй-



Святочная вопратка святара
з дыядэмай на тыяры,
дзе быў змешчаны надпіс:
«Прысвечаны для Пана».

шых «*падыйдзе да яго, здыме сандаль з ягонай нагі, плюне ў твар і скажа: “Так робяць з чалавекам, які не хоча адбудаваць дом свайго брата”. І дадуць яму імя ў Ізраэлі: “Дом таго, катораму знялі сандаль”*» (Дрг 25, 9–10). Жанчына магла таксама ўдарыць знятым з ног сандалем чалавека, які не жадаў выканаць права левірату (Рут 4, 7–8).

Часам драматызм падзеі падкрэсліваецца не апісаннем эмацыйнага стану, а нечаканай рэакцыяй на вельмі горкую навіну. Напрыклад, пасля пачутай навіны аб захопе філістымлянамі Божага каўчэгу Элі паміраe:

«*Калі згадаў яму пра каўчэг Пана, [Элі] упаў з крэсла плячыма на вугал брамы, зламаў сабе шыю і памёр, бо быў чалавекам старым і цяжкім. Ён быў суддзёю ў Ізраэлі сорак гадоў*» (1 Сам 4, 18).

Яшчэ адзін цікавы жэст, які сустракаецца ў тэксце Бібліі, — ускладанне рук на галаву ахвярнай жывёлы (Лев 1, 4; 3, 2; 4, 4; 4, 15). Гэта жэст ахвярадаўцы, праз які выяўляецца яго асабісты ўдзел у ахвяры, просьба прыняць ахвяру, выслухаць мольбы і дараваць грахі. Як выглядаў гэты жэст? Дзвюма рукамі ці адной націскалі на галаву ахвярнай жывёлы. Падобны жэст робіць Аарон з Азазэлем, казлом пустыні, для пазбаўлення ад сваіх грахоў:

«*Няхай пакладзе Аарон абедзве рукі свае на галаву жывога казла і вызнае над ім усе грахі сыноў Ізраэля і ўсе злачынствы іх паводле ўсіх грахоў іхніх, і ўскладзе іх на галаву казла, а вызначаны чалавек выганіць яго ў пустыню*» (Лев 16, 21).

Левіты таксама ўскладалі рукі на галовы ахвярных жывёлаў:

«*Пасля прывёў цяльца для ахвяры за грэх, і Аарон разам з сынамі яго ўсклалі свае рукі на галаву цяльца, ахвяраванага за грахі*» (Лев 8, 14).

Ускладанне рук выкарыстоўвалася яшчэ пры пасвячэнні левітаў (Ліч 8, 10). Майсей на загад Пана Бога ўскладае рукі на Езуса Навіна (Ліч 27, 18), каб перадаць яму ўладу. У Новым Запавеце таксама згадваецца гэты жэст (Дз 6, 6; 1 Цім 4, 14), які да сённяшняга дня захаваны ў абрадзе пасвячэння біскупа, прэзбітэраў і дыяканаў.

Пры апісанні абраду ўстанаўлення святарамі Аарона і яго сыноў выкарыстана шмат элементаў невербальнай камунікацыі. Майсей пасля забіцця ягняці «*ўзяў крыху яго крыві і памазаў ёю верх правага вуха Аарона, вялікі палец яго правай рукі і вялікі палец яго правай нагі*» (Лев 8, 23). Памазанне крывёю вуха азначала паслухмянасць Божаму слову, памазанне вялікага пальца рукі — служэнне Богу, памазанне вялікага пальца правай нагі — крочанне Божымі дарогамі. Так павінны былі паступаць нашчадкі Аарона (Лев 8, 24), гэта значыць, усе святары з пакалення Левія. Тыя самыя жэсты спадарожнічалі абраду ачышчэння ад праказы праз памазанне крывёю і алеем (Лев 14, 14. 17–18. 25–29).

Жэст высока ўзнятай рукі[15] сведчыў пра сілу і ўпэўненасць у сабе. Ізраэліты выходзілі з егіпецкай няволі з высока ўзнятай рукою:

«*Пан учыніў жорсткім сэрца фараона, караля егіпецкага, і ён пагнаўся за сынамі Ізраэля. Сыны ж Ізраэля выходзілі з высока ўзнятаю* (габр. רָמָה [*rāmāh*]) *рукою*» (Зых 14, 8).

Ісая, звяртаючыся да Бога, кажа: «*Пане, Твая рука высока ўзнятая* (габр. רָמָה [*rāmāh*]), *але яны не бачаць. Няхай убачаць Тваю руплівасць аб сваім народзе і спазнаюць сорам...*» (Іс 26, 11).

Хадзіць з паднятай галавою[16] — значыць адчуваць сваю годнасць, правату, справядлівасць. Бог вяртае гэтую годнасць выбранаму народу:

«*Я — Пан, Бог ваш, які вывеў вас з зямлі егіпецкай, каб вы не былі ўжо іх нявольнікамі. Я разбіў вашае ярмо і даў вам магчымасць хадзіць з паднятай галавою* (габр. קוֹמְמִיּוּת [*qômᵉmiyyûṯ*])» (Лев 26, 13).

Знешні выгляд (рысы твару, склад цела, адзенне, вопратка) таксама выконваюць сваю інфармацыйную ролю. У кнізе Зыходу (28, 4–39) пададзена апісанне адзення першасвятара Аарона з дыядэмай на тыяры, дзе быў змешчаны надпіс: «*Прысвечаны для Пана*»[17] (Зых 28, 36). Адзенне падкрэслівае выключную

функцыю Аарона, а дыядэма выконвае пэўную ролю знаку, эмблемы.

Да невербальнай камунікацыі адносіцца таксама апісанне будовы цела чалавека. У кнізе Быцця чытаем:

«*Юзаф меў зграбную постаць і прывабны выгляд* (габр. מַרְאֶה [*mar'eh*] — вонкавы выгляд)»[18] (Быц 39, 6).

Рэбэка, жонка Ісаака, таксама вызначалася прыгажосцю:

«*Гэтая дзяўчына была вельмі прыгожай* (габр. מַרְאֶה [*mar'eh*])»[19] (Быц 24,16).

Тое самае Біблія кажа пра Рахэлю, жонку Якуба: «*Рахэля мела зграбную постаць і прывабны выгляд* (габр. מַרְאֶה [*mar'eh*])» (Быц 29,17b).

Але другая жонка Якуба, Лея, старэйшая сястра Рахэлі, мела як быццам хворыя, гэта значыць сумныя, пазбаўленыя радасці і надзеі вочы, у якіх не было жывога бляску[20]: «*Лея мела сумныя вочы...*» (Быц 29, 17). Таму выслоўе «вочы Леі» азначае стан суму, заклапочанасці і задуменнасці. Відаць, Лея не вельмі хацела быць жонкаю Якуба.

Часам невербальныя сігналы ўзмацняюць моўную камунікацыю ці нават замяняюць яе. Так свіст[21] у Першай кнізе Валадарстваў азначае здзіўленне, пагарду і насмешку:

«*Дом гэты будзе гарою развалін. Кожны, хто будзе ўзыходзіць на яе, напоўніцца страхам, засвішча і скажа: "Чаму Пан учыніў такое з гэтай зямлёю і з домам гэтым?»*» (1 Вал 9, 8).

У кнізе Ёва свіст паказвае адносіны да грэшніка:

«*Пляскаць будзе [Бог] над ім ў далоні свае, засвішча супраць яго са свайго месца*» (Ёў 27, 23).

У Біблії існуе безліч прыкладаў невербальнай камунікацыі, якія немагчыма апісаць на некалькіх старонках. Але і гэтыя прыклады паказваюць, што інтэрпрэтацыя розных відаў камунікацыі — пісьма, слова і асабліва пазаслоўнай мовы — можа дапамагчы ў разуменні Біблії і зрабіць шмат цікавых адкрыццяў пры чытанні яе тэкстаў, хоць гэта і спалучана з цяжкасцямі, бо некаторыя жэсты з біблійнай культуры не маюць адпаведнікаў у культуры нашага народу, ды і не маем поўных ведаў пра тую далёкую культуру, і не можам зазірнуць у псіхалогію тагачасных людзей, пазнаць да канца матывы іх паводзінаў. Аднак, калі мы будзем проста ўважліва знаёміцца з тэкстам Біблії, яна можа адкрыць перад намі больш глыбокі духоўны змест і стане надзвычай цікавай прыгодай на шляху паглыблення нашай веры.

[1] Габр. יַד־יְמִין [*yad yᵉmîn*], יָמִין [yāmîn] – правая рука, правіца.
[2] Габр. לאט אֶת־פָּנָיו [*l't 'et-ppānāyw*] – закрываць твар.
[3] Габр. קרע [*qr'*] – разрываць.
[4] Габр. וַיִּקְרַע [*wayyiqra'*] – і разарваў.
[5] У габрэйскім тэксце для азначэння гэтай паставы выкарыстоўваецца дзеяслоў חוה [*ḥwh*] у хіштафэлі – кланяцца, рабіць нізкі паклон.
[6] У габрэйскім тэксце для азначэння гэтай паставы выкарыстоўваецца дзеяслоў קדד [*qḏḏ*] – схіляць калені, падаць на калені.
[7] Габр. וַיִּשְׁתַּחוּ אַפַּיִם אָרְצָה [*wayyištáḥû ʾappáyim ʾā́rṣāʰ*] – і пакланіўся тварам да зямлі.
[8] Габр. וַיִּקֹּד [*wayyiqqōd*] – укленчыў.
[9] Ізраэль – гэта другое імя Якуба.
[10] Габр. כרע [*kr'*] – схіляць калені, кленчыць.
[11] Габр. וָאֶכְרְעָה [*wā'eḵrᵉ'āh*] – і ўпаў.
[12] У Габрэйскай Біблії ў гэтым выпадку выкарыстоўваецца выраз נפל עַל־פָּנָיו [*npl ʿal-pānāyw*] – падаць на твар.
[13] Габр. וַיִּפֹּל עַל־פָּנָיו [*wayyippōl ʿal-pānāyw*] – і ўпаў на твар, і ўпаў ніцма.
[14] Габр. וַתִּצְחַק [*watiṣḥaq*] – і засмяялася.
[15] Габр. רום [*rwm*] – падымаць высока, узвышаць.
[16] У перакладзе з габрэйскай мовы прыслоўе קוֹמְמִיּוּת [*qômᵉmiyyûṯ*] азначае «[хадзіць] з паднятаю галавою, прама».
[17] Габр. קֹדֶשׁ לַיהוָה [*qṓḏeš lyhwh*] *(la'ḏōnāy)* даслоўна азначае «Святы для Пана».
[18] Або даслоўна: «*Юзаф меў прыгожую постаць і прыгожы выгляд*».
[19] Або даслоўна: «*Гэтая дзяўчына мела прыгожы выгляд*».
[20] Габрэйскі выраз עֵינַיִם רַכּוֹת [*ʿênáyim rakôṯ*] зазвычай азначае «мець завялыя, патухлыя, млявыя, мутныя, заплаканыя, цьмяныя, слабыя, кволыя вочы» ў адрозненне ад чорных бліскучых вачэй, якія на Блізкім Усходзе лічыліся адзнакаю прыгажосці. Паводле перакладу кс. У. Чарняўскага, «вочы Ліі былі гняючыя» («Кніга Роду», 1997); рэдактары яго перакладу паправілі тэкст: «Вочы Ліі былі хворыя» («Пяцікніжжа», 2002); Ж. Некрашэвіч-Кароткая таксама папраўляе тэкст і піша, што Лея «была слабая на вочы» («Біблія», 2012). У перакладзе ж Я. Станкевіча «вочы Лііны былі кволыя» («Святая Біблія», 1973).
[21] Габр. שרק [*šrq*] – свістаць.

Стэфан Свяжаўскі

# СВЯТЫ ТАМАШ, ПРАЧЫТАНЫ НАНАВА

### XII. ПРА АНЁЛАЎ — ЧЫСТЫХ ДУХАЎ

Варта падкрэсліць, што св. Тамаш вялікую частку сваіх твораў прысвяціў справам, якія, уласна кажучы, як ён сам прызнае, выходзяць цалкам за межы філасофскага досведу людзей. Бо філасофія нічога нам не гаворыць ні пра анёлаў, ні пра першародны грэх. Аднак Тамаш вельмі шмат месца прысвяціў разважанням пра чалавека ў стане нявіннасці, ці пытанню пра тое, як выглядаў бы чалавек, калі б не было першароднага граху, а таксама вучэнню пра анёлаў. Здаецца, што такія тыповыя для св. Тамаша, зрэшты выдатныя тэксты, былі напісаныя для таго, каб чалавек лепш усвядоміў сам для сябе свой стан, які не з'яўляецца станам нявіннасці, а станам пасля першароднага граху, і сваю прыроду, якая не з'яўляецца анёльскай прыродай. Каб глыбей спасцігнуць чалавечую прыроду, трэба добра зразумець, якім быў чалавек у Божых намерах да граху, а таксама ўсвядоміць, што такое анёлы.

Чаму св. Тамаш быў названы *Doctor Angelicus* — Анёльскі Доктар? Звычайна кажуць, што гэта таму, што ён даў сведчанне гераічнай чысціні ў сваіх цяжкіх змаганнях, у выпрабаваннях, якія зазнаў з боку сям'і, калі яму не дазвалялі ўступіць у ордэн дамініканаў. Некаторыя бачаць прычыну гэтага ў кульце анёлаў, жывым у дамініканскім ордэне. У дамініканскай традыцыі існуе прыгожая легенда пра тое, як анёлы раздавалі хлеб, калі св. Дамінік і яго паплечнікі аднойчы не мелі чаго есці. Яна паказвае на блізкія духоўныя адносіны дамініканскага ордэну, асабліва ў самых яго пачатках, са светам анёлаў. Іншыя таксама мяркуюць, што св. Тамаш атрымаў гэты тытул таму, што быў спецыялістам у ангелалогіі — вучэнні пра анёлаў. Незалежна ад усіх гэтых меркаванняў, св. Тамаш напэўна таму гэтак рупліва заняўся светам чыстых духаў, што ў традыцыйнай філасофіі і тэалогіі, якая панавала ў лацінскім хрысціянскім свеце, чалавека часта тэндэнцыйна трактавалі на ўзор анёла. Таму Тамаш хацеў паказаць істотную розніцу, якая існуе паміж светам чыстых духаў і чалавечай прыродай. Здаецца, што ў гэтым і крыецца сапраўдная прычына таго, чаму ён заняўся гэтай праблемаю і быў названы *Doctor Angelicus*.

Пра анёлаў на глебе філасофіі мы не ведаем нічога, а даведваемся пра іх толькі на падставе Аб'яўлення. Філасофскае ж разважанне толькі схіляе нас да таго, каб прыняць іх існаванне як праўдападобнае. Анёлы павінны існаваць, калі мы возьмем пад увагу непарыўнасць іерархіі розных бытаў, якія засяляюць сусвет. Тэзы св. Тамаша, што датычаць анёлаў, можна прадставіць у трох пунктах.

*1. Прырода анёлаў. Мы ўжо казалі, што чысты дух не такі просты, як Бог. Ён складзены з сутнасці і існавання. У «Суме тэалогіі»* св. Тамаш піша*: Licet in Angelo non sit compositio formae et materiae <...> adhuc remanet comparatio formae ad ipsum esse, ut potentiae ad actum (S.th. I q.50 a.2 ad 3) — хоць у анёле няма складзенасці з формы і матэрыі, бо яна ёсць толькі ў цялесных бытах, але ў іх застаецца* comparatio *— паяднанне, сувязь формы і існавання, якая з'яўляецца спалучэннем магчымасці і здзяйснення. Гэта значыць, што анёл, калі казаць схаластычнай моваю, ёсць чыстай формай. У ім няма матэрыі. Ён ёсць формаю, і гэта яго сутнасць: быццё самой формаю. У ім няма матэрыі, няма магчымасці быцця нечым прасторавым. Але ў ім ёсць складзенасць з сутнасці, якою і з'яўляецца быццё самой формаю, і існавання. Якраз такая складзенасць і ёсць у анёле. Паколькі шматлікія адзінкі (св. Тамаш выступае тут як верны арыстоцелік) ёсць толькі ў матэрыяльных, цялесных бытах, анёлы не маюць цела, не з'яўляюцца*

---

*Працяг. Пачатак у № 3 за 2011 г.*

*матэрыяльнымі — таму не можа існаваць шмат анёльскіх адзінак. Анёл — гэта не від, які складаецца з шмат мільёнаў ці мільярдаў адзінкавых анёлаў.*

У гэтым пункце тэолагі не згаджаюцца паміж сабою, і на першы погляд гэта выглядае як непатрэбная слоўная спрэчка. Аднак у канцэпцыі св. Тамаша крыецца багаты змест, у які трэба ўдумацца. Кожны анёл, згодна з Тамашавым поглядам, гэта ўвасоблены ў адным экзэмпляры від, выразнік асобнага віду. У дачыненні да людзей гэта было б так, калі б адзін чалавек прадстаўляў усё чалавецтва. Таму розніца паміж анёламі — гэта розніца паміж відамі, а не індывідуальнасцямі. У гэтым павінна выяўляцца неспасціжная для нас магутнасць, моц і багацце жыцця, якое крыецца ў такой асобе, як анёл.

*2. Пазнанне анёлаў. Платон прыпісваў чалавеку найвышэйшую ступень пазнання, якую акрэсліваў як бачанне сутнасці рэчы. Незалежна ад пачуццяў, ад усёй цяжкасці здабывання паняццяў, суджэнняў, высноваў чалавек, паводле Платона, калі адпаведна спрактыкуе свой розум, будзе здольны бачыць сутнасць рэчаў. Вось жа Тамаш мяркуе, што той спосаб пазнання, які Платон хоча прыпісаць чалавечаму розуму, на жаль, не дадзены чалавеку на гэтым свеце і ў гэтым жыцці. Такі спосаб пазнання тыповы якраз для анёлаў. Анёлам не трэба ствараць паняццяў, не трэба абцяжарваць сябе разважаннямі, бо яны бачаць найвялікшыя, самыя таямнічыя справы, як на экране, як у люстэрку, у якім выяўляецца іх сутнасць. Тое, што мы можам атрымліваць з дапамогаю пачуццяў, яны атрымліваюць на ўзроўні найвышэйшага духоўнага пазнання. Гэта пазнанне з дапамогаю пазнавальных формаў, г. зв. notiones infusae — самастойных паняццяў. Анёлу гэтыя паняцці нейкім чынам уліты ў розум, іх не трэба выпрацоўваць гэтак, як мы мусім выпрацоўваць усе нашыя веды.*

У каментары да твора *Пра нябесную іерархію (De hierarchia caelestia)* Псеўда-Дыянісія св. Тамаш разважае над тым, чаму ёсць гэтулькі анёльскіх хораў, і адказвае, што ёсць анёлы менш і больш дасканалыя, а іх дасканаласць тым вышэйшая, чым менш паняццяў ім трэба для пазнання. Люцыферу хапала напэўна найменшай колькасці паняццяў. Богу ўвогуле не патрэбныя паняцці, Ён пазнае ўсё ў Слове, а Слова не адрознае ад Бога, Яно тоеснае з Богам. Мы мусім карыстацца вялікай колькасцю паняццяў. Мы маем *primitia spiritus* — начаткі духу, знаходзімся на найніжэйшай ступені духоўнага пазнання. Анёл пазнае з дапамогаю самастойных паняццяў, і такое сузіральна-інтуітыўнае пазнанне (без ужывання паняццяў, якія выводзяцца з пачуццёвага пазнання) маюць усе чыстыя духі. Такое пазнанне будзе таксама мець чалавек пасля смерці дзякуючы святлу славы, дзякуючы *lumen gloriae,* але, на жаль, ён не можа мець яго тут, на зямлі. Бо ўсё, што ёсць у нашым інтэлекце, павінна прайсці праз дзверы пачуццяў. У інтэлекце няма нічога, што не прайшло б праз пачуцці.

*3. Мова анёлаў. У трактаце пра анёлаў св. Тамаша мы знойдзем таксама цудоўныя разважанні пра мову чыстых духаў, пра іх дзеянні, пра іх кантакты. Мова анёлаў не павінна быць ні артыкуляваная як чалавечая, і не выгуковая як жывёльная. Іх мова — гэта непасрэдная перадача змешчанага ў ёй сэнсу. Per similitudinem <...> lingua in eis dici potest vis, qua manifestant aliis quod habent in mente (пор. S.th. I q.107 a.l ad 2). Таму пра мову анёлаў можна казаць праз падабенства. Іх моваю можна назваць здольнасць, дзякуючы якой яны могуць перsucceededказваць іншым тое, што маюць у сваім розуме. Вось жа іх мова — гэта перказванне, пераліванне паняццяў ад аднаго анёла да другога.*

Чалавек — гэта не жывёла і не анёл. Ён — дзівоснае, асаблівае стварэнне. Ён можа змяняцца, развівацца, паляпшацца. Вялікі філосаф Піко дэля Мірандоля, які жыў на дзвесце гадоў пазней за св. Тамаша, казаў, што чалавек падобны да хамелеона, бо заўсёды мяняецца. Але змяняецца толькі ў межах сваёй прыроды. А прырода чалавека нязменная. Ён не можа эвалюцыянаваць так, каб стаць жывёлай ці анёлам. Пра прыроду чалавека можна сказаць тое самае, што і аўтар Паслання да Габрэяў сказаў пра Хрыста: «Хрыстус учора і сёння, той самы і на векі» (пар. Гбр 13, 8). Гэтак жа і чалавечая прырода ў сваіх істотных элементах не можа падлягаць зменам; пакуль будзе існаваць свет, людзі застануцца людзьмі.

*Пераклад з польскай мовы Алеся Жлуткі.*

Паводле: *Świeżawski Stefan. Święty Tomasz na nowo odczytany. — Poznań, 1995.*

*Працяг будзе.*

# ПАЭТЫЧНЫ КАТЭХІЗІС ЯНА ЧАЧОТА



Ян Чачот (1796–1847) трывала займае пачэснае месца сярод пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Ён адзін з нямногіх першых пісьменнікаў Беларусі XIX ст., які, традыцыйна выкарыстоўваючы польскую мову ў літаратурнай творчасці, свядома пачаў пісаць на беларускай («славянакрэвіцкай», паводле яго вызначэння) мове.

Ян Чачот нарадзіўся ў фальварку Малюшычы Наваградскага павета (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобласці), але неўзабаве яго бацькі пераехалі ў ваколіцу Новая Мыш на рацэ Мышанцы, дзе прайшлі дзіцячыя гады будучага пісьменніка. Пазней у пісьменніцкім асяродку да Чачота прышчэпіцца ласкавая мянушка Ян з Мышы. Вучыўся Ян Чачот у Наваградскай павятовай дамініканскай школе разам з Адамам Міцкевічам, дзе яны і пасябравалі на ўсё жыццё. Далей быў, як вядома, Віленскі ўніверсітэт і стварэнне студэнцкіх тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў, якія зрабілі надзвычайны ўплыў на станаўленне «краёвай» патрыятычнай свядомасці «літвінскай» (беларускай) моладзі. Навуковыя і творчыя задачы, якія ставілі перад сабой удзельнікі таварыстваў, а Чачот быў, поруч з Адамам Міцкевічам і Тамашом Занам адным з арганізатараў і кіраўнікоў, спалучаліся з ідэаламі сяброўства, шчырасці і сумленнасці ва ўзаемаадносінах, з узаемадапамогай, а таксама з велічным ідэалам будучай свабоднай Айчыны, якая страціла сваю вольнасць у выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай і пра вызваленне якой марылі філаматы, кшталтуючы сябе для гэтай высокай і ахвярнай змагарнай місіі. У філамацкім асяродку пісаліся вершы, прысвечаныя сябрам, напоўненыя шчырымі пачуццямі сяброўства, ідэяй служэння Айчыне; ім быў уласцівы гумар і зварот да народных мясцовых паэтычных крыніцаў, да беларускага фальклору.

Ян Чачот, можна сказаць, задаваў тон у паэтычнай модзе, першым паказаў шлях да выкарыстання вусна-паэтычнай народнай творчасці ў высокім прыгожым пісьменстве, і гэта было таксама знакам таго, што і на польска-беларускім літаратурным памежжы выспявае рамантызм з яго зваротам да фальклору, да глыбіняў гісторыі народа, да мясцовых паданняў, — рамантызм, які на той час ужо ўладарыў у літаратурах Еўропы. На хвалі рамантызму менавіта Ян Чачот адкрывае для айчыннага пісьменства жанр балады, стварыўшы восем арыгінальных узораў баладаў, заснаваных на мясцовых гістарычных і ландшафтных рэаліях («Свіцязь», «Наваградскі замак», «Мышанка», «Калдычэўскі шчупак», «Радзівіл, альбо заснаванне Вільні» ды іншыя), і вельмі хутка балада становіцца адным з найулюбёных жанраў усіх паэтаў-філаматаў на чале з Адамам Міцкевічам і іх паслядоўнікаў.

Зварот да мясцовай гісторыі быў таксама знакам рамантызму з яго культам рэгіянальнасці, імкненнем дакрануцца да каранёў народнай памяці. Добра ведаючы помнікі даўняга беларускага-літоўскага летапісання («Летапіс вялікіх князёў літоўскіх», хроніку Мацея Стрыйкоўскага), гісторыяграфічныя працы Тадэвуша Нарбута, іншыя гістарычныя крыніцы, Ян Чачот, маючы за ўзор выразна класіцысцкія «Гістарычныя спевы» Юльяна Урсына Нямцэвіча, што сталіся першым літаратурным адкрыццём мясцовых гістарычных скарбаў, задумвае і стварае ў рамантычным духу вядомы цыкл «Спевы пра даўніх ліцвінаў да 1434 года» — фактычна вершаваную хроніку, летапіс, дзе ў 55-ці вершах знайшлі сваё паэтычнае адлюстраванне найважнейшыя падзеі і асобы беларускай гісторыі часоў Вялікага Княства Літоўскага.

Задуманы яшчэ ў філаматкі перыяд, гэты гістарычны цыкл быў напісаны Чачотам ужо пасля вяртання са ссылкі.

Як вядома, па справе тайных віленскіх студэнцкіх таварыстваў было ўзбуджана следства і ўвосень 1823 г. амаль усе сябры — філаматы і філарэты — былі арыштаваныя, утрымліваліся ў астрогу, а ў кастрычніку 1824 г. пераважная большасць з іх была высланая ў аддаленыя ад роднага краю расійскія губерні. Ян Чачот трапіў на Урал (крэпасць Кізіл, Уфа, іншыя мясціны) і толькі ў 1833 г. атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. Некаторы час ён жыў у Лепелі, служыў у канцылярыі Бярэзінскага канала; потым — у Шчорсах, дзе пад апекай графа Адама Храптовіча працаваў у яго бібліятэцы. Гэты перыяд вяртання быў адметны ў творчасці паэта мэтанакіраваным збіраннем вуснай народнай творчасці — песеннага фальклору беларусаў, які ён выдаў з 1837-га па 1846 гг. у шасці зборніках пад назвай «Сялянскія песенькі з-над Нёмна і Дзвіны» (у некаторых выпусках назва мела варыянты ў залежнасці ад ракі, «з-над» якой збіраліся песні, — толькі Нёман альбо толькі Дзвіна, а ў выпуску 1845 г. да Нёмна далучыліся Днепр і Днестр), паказаўшы ўсё багацце каляндарна-абрадавай і сямейна-побытавай вуснай народнай творчасці беларусаў. І да сённяшняга дня фальклорныя зборы Чачота прываблiваюць увагу фалькларыстаў багаццем і прыгажосцю народнай культуры, арыгінальнасцю падыходу да збірання спадчыны, унікальнасцю выданняў як крыніцы аўтэнтычных тэкстаў.

Усё сваё жыццё Ян Чачот заставаўся адзінокім чалавекам. Пасля смерці графа Храптовіча (1844) ён, вымушаны пераязджаць з месца на месца, хварэе на сухоты — вынік уральскай ссылкі. У 1847 г. Ян Чачот выехаў на лячэнне ў Друскенікі і там памёр. Пахаваны ў Ротніцы. На помніку ў вершаванай форме памятны надпіс сябру зрабіў у 1857 г. Антоні Эдвард Адынец, які нашмат пераўжыў сваіх паплечнікаў філаматаў:

*Сваю маладосць ён аддаў для навукі і Цноты,*
*За век свой ён зведаў і холад, і змрок сутарэння.*
*Спагада да бліжніх — вось існасць ягонай істоты,*
*Цяжкое жыццё яго ўсё — гэта шлях да збавення.*
*Імя яго будзе ў краіне навекі звязана*
*З Адамам Міцкевічам, з іменем Томаша Зана.*
*Хто ведаў яго — перад каменем гэтым схіліся,*
*Пастой, памаўчы і за ўсіх за траіх памаліся.*

(Пераклад Кастуся Цвіркі.)

Паэтычная спадчына Яна Чачота багатая і разнастайная. Вялікая частка яго польскамоўных твораў перакладзеная на беларускую мову і трывала ўвайшла ў асноўныя тэксты беларускай літа-


PIEŚNI
ZIEMIANINA,
PRZEZ
Tłómacza Piosnek Wieśniaczych
Z NAD NIEMNA I DŹWINY.
By Jan Czeczot.
WILNO.
DRUKIEM JÓZEFA ZAWADZKIEGO.
1846.

ратуры XIX ст. (балады, «Спевы...», лірычныя вершы). Уражвае і досыць вялікая колькасць вершаў, напісаных па-беларуску, што для першай паловы XIX ст. было рэдкасцю і выключэннем з правілаў. Гэтыя вершы былі адрасаваныя пераважна сялянам і выконвалі асветніцкую функцыю: навучалі сялянаў асновам пабожнасці, маральнасці жыцця. Чачот выкрываў асабліва настойліва такую загану як п'янства, ад якога паходзяць і многія іншыя заганы — марнатраўства, занядбанні, разбэшчанасць нораваў і да т.п. Асабліва шмат беларускіх вершаў, адрасаваных сялянам, змешчана ў фальклорных зборніках Чачота: 28 тэкстаў пад назвай «Уласныя сялянскія песні» (выпуск 1844 г.) і верш «Да мілых мужычкоў» (выпуск 1846 г.).

Пры ўсёй нязменнай увазе даследчыкаў да творчасці Яна Чачота і прызнанні яго найвялікшых заслугаў у развіцці беларускай літаратуры (у XX ст. гэта літаратурна-крытычныя і навукова-даследчыя працы М.Багдановіча, М.Гарэцкага, Я.Карскага, А.Лойкі, Г.Кісялёва, У.Мархеля, К.Цвіркі ды іншых), усё ж Ян Чачот працягвае заставацца аўтарам у многім загадкавым і невядомым. Нельга не адзначыць таксама падзвіжніцкую перакладчыцкую працу Кастуся Цвіркі, пераствярэнню якога належыць пераважная большасць вядомых на сённяшні дзень паэтычных твораў Яна Чачота (вядомыя таксама пераклады некалькіх вершаў, зробленыя Уладзімірам Мархелем і, побач з перакладамі Кастуся Цвіркі, існуюць перакла-

ды «Спеваў пра даўніх ліцвінаў...», зробленыя Станіславам Суднікам).

Тым не менш вялізная частка польскамоўных вершаў Яна Чачота застаецца невядомай беларускаму чытачу. І найперш застаецца невядомым Чачот-хрысціянін, практыкуючы католік, аўтар паэзіі, якую без перабольшвання можна назваць высокай духоўнай паэзіяй, што працягвае айчынныя традыцыі Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, Сімяона Полацкага, польскамоўнага паэта польска-беларускага сумежжа Францішка Карпінскага ды іншых. Адсутнасць цікавасці да падобнай паэзіі ў ранейшыя часы тлумачыцца тым, што ні атэістычны камуністычны час, ні пазнейшы перыяд перабудовы і пасля перабудовы не былі гатовыя ўспрыняць духоўную паэзію як мастацкую і эстэтычную каштоўнасць. Ян Чачот займеў сваё трывалае амплуа паэта-песенніка і баладыста, цікавасць якога скіраваная выключна да народнай творчасці, схільнага да маралізатарства і выхавання ў сентыментальна-асветніцкім духу добрых нораваў у сялянаў і спагадлівых адносінаў да іх паноў. Творы такога кшталту цаніліся, перакладаліся і інтэрпрэтаваліся. У прынцыпе гэта было слушна і адпавядала ідэйнай накіраванасці творчасці паэта, аднак істотна яе абмяжоўвала. «Маралізатарства» ж Яна Чачота згадвалася хутчэй як загана яго творчасці і разумелася павярхоўна, таму паэт заставаўся невядомым у глыбіні сваёй рэлігійнасці (у савецкія часы — несумненная «загана» і «адсталасць» поглядаў). Сёння мы назвалі б «маралізатарства» Яна Чачота свядомым імкненнем да евангелізацыі праз паэзію — і саслоўя, да якога ён сам належаў — шляхецкага, і сялянаў, якіх шчыра, па-евангельску любіў як бліжніх і якім спагадаў, не толькі заклікаючы паноў да добразычлівасці, але і падкрэсліваючы сваю ўласную блізкасць да сялянства: *«Ды і я ж між вамі ўзрос // Пры бацьку і маці»* (верш «Да мілых мужычкоў»).

Аб шчырай пабожнасці, рэлігійнасці Яна Чачота сведчыць запісанае ім у асабістым альбоме (штамбух) Габрыэлі Пузыні чатырохрадкоўе, якое можна назваць уласнай чачотаўскай малітвай:

*O mój Jezu ukochany,*
*Ucz mie przez Twe swięte rany*
*Znosić boleść i niedolę,*
*Z Twą się świętą zgadzać wolą.*

*О мой Езусе каханы,*
*Праз Твае святыя раны*
*Навучы прымаць нядолю*
*І Тваю святую волю.*
(Пераклад мой. — І. Б.)

Цікавасць у гэтых адносінах уяўляе таксама амаль забыты ўсімі зборнік вершаў Яна Чачота «Pieśni Ziemianina», przez Tłomacza Piosnek Wieśniaczych z nad Niemna i Dzwiny (Wilno, 1846). Менавіта тут змешчаны цыклы вершаў выразнай духоўнай скіраванасці, дзе ў яркай вобразнай форме тлумачацца галоўныя хрысціянскія праўды веры, запаведзі любові да Бога і да бліжняга. Ян Чачот на прыкладах з гісторыі, з жыцця каралёў і вяльможаў, простых людзей і з уласных назіранняў, кіруючыся Божымі запаведзямі, сфармуляванымі ў Дэкалогу, і змагаючыся супраць галоўных грахоў (асабліва супраць пыхі), стварае свой паэтычны «катэхізіс», разлічаны на выхаванне высокіх маральных якасцяў людзей розных саслоўяў (ад каралёў да сялянаў) і важных не толькі для яго сучаснікаў, але і для ўсіх наступных пакаленняў, бо Ян Чачот закранае пытанні ўніверсальныя, вечныя, заснаваныя на біблейскай мудрасці.

Вершы Яна Чачота гучаць па-сучаснаму і сёння, яны актуальныя, як актуальныя ва ўсе часы біблійныя запаведзі любові да Бога і любові да бліжняга праз служэнне бліжняму. Паэт заклікае да міласэрнасці, якая праяўляецца не ў прыгожых словах, а ў рэальных учынках, выкрывае падступнасць і хцівасць, распусту і марнатраўства, неўмеркаванасць у ежы і іншых прыемнасцях. Прычым робіць гэта не дакучліва-ментарскімі павучаннямі, а з прапаведніцкім красамоўствам звяртаецца да яскравых прыкладаў з жыцця вядомых гістарычных асобаў, кіруецца ўласнымі назіраннямі і біблійнымі аналогіямі. Таму вершы Яна Чачота поўняцца жывымі вобразамі, эстэтыкай хараства, імкненнем да дасканаласці праз пераадольванне зла не толькі ў соцыуме, але і ўнутры самога чалавека, хоць вяльможы, хоць селяніна.

Спадзяемся, што чытачам «Нашай веры» будзе цікава пазнаёміцца з перакладамі вершаў Яна Чачота духоўна-рэлігійнай тэматыкі, якія ўпершыню ўводзяцца ў беларускі літаратурны кантэкст (за выключэннем верша «Леў Сапега, ваявода віленскі і гетман літоўскі», пераклад якога зроблены Кастусём Цвіркам).

*Ірына Багдановіч*

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Ліда на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1983), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Сармацкі альбом» (2004), «Прыватныя рымляне» (2006), «Душа лістападу» (2012), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001), укладальнік зборнікаў «Казімір Сваяк. Выбраныя творы»(2010) і «Вінцук Адважны. Выбраныя творы» (2011), «Аляксандр Надсан. Выбраныя творы» (2014). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

# ЯН ЧАЧОТ

## Сціпласць меркавання пра самога сябе

Кожны, о Божа, разумным і добрым быць хоча,
Але не раз яго здрадная сіла сурочыць.
Засцеражы нас ад пыхі, ад страты сумлення,
Каб мы на брата не мелі ў кішэні камення.
«Кіньце ў яе, хто бязгрэшны, камень», — прамаўляе
Збаўца натоўпу, і ў сораме той адступае.
«Я не ахвяр — міласці прагну»...
Мы ж брата —
Бліжняга нашага — ўсё асуджаем зацята.
Надта ж разумнымі часта сябе мы ўяўляем,
А міласэрнасці, як і не мелі, не маем.
Дай дабрыні нам, о Божа, з Табою суладнай,
На грэх уласны відушчай, да іншых спагаднай.
Божа, і розум нам дай справядлівы і правы,
Каб да сябе быў суровы, да іншых ласкавы.

## Людскасць

«Устань, і я чалавек!» — апостал Пётр сказаў,
Калі Карнэлій сотнік да яго ног упаў*.
Хто тых людзей, што падаюць, з зямлі падніме?
«Устань, і я чалавек», — хто скажа ім, абніме?
Хутчэй затопчуць бліжняга з пагардай людзі,
Нібыта шчасце ім за гэта, неба будзе.
Не думаюць аб тым, што пыха і ўзнашэнне
У пекла сцежку сцелюць, а не да збавення.
О чалавек, шануй у бліжнім сваім брата,
Жыццё зямное — міг і вечная расплата,
І слава на зямлі пра добрага трывае,
Ў нябёсах ласку ён таксама атрымае.
Хто бліжняга ўспамог, падняў, быў справядлівы,
Таму спрыяе Бог, ён тут і там шчаслівы.

*Дзеі Апосталаў 9, 25–26 (спасылка Яна Чачота).

## Святая пакора

Ва ўбоганькай стаенaчцы
І на худой пасцелечцы
Ты, Божа, нарадзіўся нам,
Каб ратаваць нас, грэшнікаў.
Вол з вослікам там чмыхалі,
На цельца Тваё дыхалі
І так яго саграваλі,
А пастушкі заспявалі.
Чаму ж нам у нашым горы
Не ўзяць прыклад з той пакоры,
Як ва ўбостве зведаць міласць,
Не зграшыўшы праз пыхлівасць?
Ад калыскі і да крыжа
Быў Ты, Божа наш, прыніжан;
Колькі Ты цярпеў бязмерна,
А да ўсіх быў міласэрны.
Мы ж за нейкае драбносце
Гнеў у сэрцы доўга носім,
Ненавідзім, помсту родзім
І душы збавенню шкодзім.
О, наш Езу міласэрны!
Ты цярпеў за люд свой верны,
Учыні, каб мы трывалі,
З Цябе прыклад жыцця бралі,
Ад калыскі да магілы
Шчыра каб табе служылі
І свой неслі крыж цярпення
На Тваю хвалу й збаўленне.

## Цярплівасць

(Думка з казання ксяндза Скаргі
на 3-ю нядзелю па Вялікадні)

Як пабіліся два хлопцы, бацька ўзяў аднога,
Яго рэмнем адхвастаўшы, кажа да другога:
Ты не сын мне, больш нічога да цябе не маю!
Так зракаецца і Бог нас, калі не карае.
Гаспадар пра дрэва ў лесе дужа не пячэцца,
Хай расце сабе, ён потым спаліць яго ў печцы.
Але ў садзе дрэва песціць, росціць, даглядае;
Так і Бог, каго палюбіць, да сябе схіляе.
Калі лекар пэўна бачыць: хворы паміраe,
Піць і есці, колькі хоча, яму дазваляе.
Калі ж бачыць: ачуняе, — голадам прыморыць,
Нават як не ўпадабае гэткіх лекаў хворы.
Калі Бог каго палюбіць, — дбае пра збаўленне:
Спашле кары, абмяжуе і піццё-ядзенне.
Дык з цярплівасцю прымайма болесць, недаедак,
Верачы, што Бог нас мае за ўлюбёных дзетак.

## Вясновая думка

Цуда прыроды — вясною ад сну абуджэнне,
Зімняй паразы нішто ўжо цяпер не прыпомніць.
Траўка зялёная весціць сваё нараджэнне,
Мушкі лятуць і купаюцца ў сонечных промнях.

Мёртвым было ўсё, і раптам жыццё забруіла,
Думкі няма пра аджыўшае больш у нікога,
Новыя птушкі лятуць, матылі; з новай сілай
Хваліць жывое ўсё Стварцу — Магутнага Бога!

Як жа салодка спачыць у зямлі сваёй, з веццзя
Звялым упасці лістком, што быў некалі пышным.
Хоць і не ўспомняць пра нас, можа,
ў будучым свеце,
Як пра той лісцік, што спее цяпер у пупышцы.

## Попель I і Попель II Хростак

Не кляні, васпан, чарцямі ні сябе, ні брата,
Бо праклянце небяспечна — прыкладаў багата.
Гэтак Попель Стары кляўся, як схлусіць увішна:
«А няхай, калі няпраўда, з'ядуць мяне мышы!»
Хоць яго яны не з'елі, дый загрызлі сына.
Пэўна, злое выхаванне гэтаму прычына.
Так, аднойчы Попель Хростак, малады, бяспутны,
Паканаў дзядзькоў уласных дзіка і акрутна.
Запрасіўшы тых у госці, загадаў ён слугам
Іх у возеры ўтапіці... Аж аднекуль цугам
Пхнецца войска незлічона — армія мышына!
Наляцела, з'ела жонку і самога сына.
Дык калі з кляцьбы мышамі на'т жыццё змадзее,
Што ж казаць тады пра д'яблаў, пане-дабрадзею?!

## Кацярына Ягелонка, дачка Жыгімонта I

Калі з нейкай здраднай сілы
Хоча кінуць мужа жонка,
Хай успомніць, што зрабіла
Кацярына Ягелонка.
Фінляндскага князя Яна
Была жонкай з ласкі Бога,
Брат жа Эрык злою воляй
Яго ўкінуў да астрога.
Хоць акрутны брат дазволіў
Ехаць, дзе сама жадала,
Кацярына ж Ягелонка
Так на тое адказала:
«Прысягала быць з ім разам
Як у шчасці, так ў нядолі,
Горкі лёс майго сужэнца
Падзялю я і ў няволі».
Сем гадоў яна трывала
Годна з мужам у палоне,
Аж пакуль рука Гасподня
Не ўсадзіла іх на троне.
Калі з нейкай здраднай сілы
Хоча кінуць мужа жонка,
Хай успомніць, што зрабіла
Кацярына Ягелонка.

## Кацярына з Сабескіх, княгіня Радзівіл

Гэй вы, кабеткі, гэй вы, кабеткі,
Парожнія балбатухі!
Хоць розум ёсць і між вамі рэдкі,
Натхнення боскага зрухі.

Аб тым, што было не пустое слова,
А праўда сама паўстала,
Слухайце, як жа Радзівілова —
Сястра караля казала:

«Няхай бы дбалі пра душаў збавенне
Сялянаў сваіх палацы,
Бо для багацця іх памнажэння
Яны, як валы, у працы».

Ды каб жа кожна вяльможна пані
Так думала ў шчырай веры,
То, пэўна, ў вёсках усе сяляне
Умелі б казаць пацеры.

## Філіжанка

Утапіўся густ у куфлі, зараз тоне ў шклянцы!
Са стала йсці прэч сказала шклянка філіжанцы.
Бо малая, бо куды ёй да вялікай шклянкі,
Хоць яе аздобна красяць кветкі-маляванкі.
Хоць ад кіпню тая шклянка лопнула, ўсё роўна
Зноў рука яе хапае, бо яна бяздонна!
Ліюць каву ды гарбату туды неашчадна,
Як і іншыя напоі, груба і бязладна.
Хто ж нас верне да культуры? Мілыя кабеткі,
Даставайце філіжанкі, сподачкі, сурвэткі!
Няхай каву ды гарбату стане піць нам звыкла
Не са шклянкі марнатраўнай —
з філіжанкі сціплай!

## Канвалія

Белых канвалій кветачкі дробныя
З пахам чароўным, хоць не аздобныя,
Так і здаецца, Пан Бог тут не надта
Думаў над іхняй шыкоўнай апраткай.
А як тварыў Ён, напрыклад, цюльпаны,
Дбаў, каб прыгожа яны былі ўбраны,
Але рашыў, што ім пах будзе лішні,
Каб не грашылі пагардай да іншых.

Тым жа Ён спосабам нас падзяляе:
Кожны прыкмету адрозную мае,
Каб не ўзносіўся той перад гэтым,
Пэўна ж, не маючы нейкай прыкметы.

Пан Бог адорвае ўсіх нас ласкава,
Бачна ў канваліі гэта яскрава:
Хоць бы і ружа яе тут зацьміла,
Нават пры ёй выглядаць будзе міла.

Мы ж з ім будзем жыць калісьці ў адным часе, краі,
Ён нам болей за чужынцаў там паспагадае.
Як найлепшаму багаццю, здольнасці вучыся:
Хлеба бедным даць, самому ж перніка зрачыся.

### Лён

Лён-лянок найпрыгажэйшы, кветачка нябёс,
Ці ж хто ведаў, што ты будзеш мець шчаслівы лёс?!
З бялюсенькіх валаконцаў найчысцейшы строй
Сведчыць будзе ўсяму свету пра душы настрой —
Светлы, ўзнёслы і ўрачысты, як той Божы дар,
Што расці даў на зямельцы свету Уладар.
Акрываеш наша цела — сціпласць нам даеш,
Сэрцы ласкай аздабляеш, думкі ўвыш снуеш.
І хутчэй гранітны помнік з часам упадзе,
Чым цябе, ляночак, знішчыць моль ці пыл звядзе.

### Кросенка

Не стаў мне, мама, кросенкаў побач
З праллямі нашымі тымі,
Хто не зважаюць на люд убогі,
А снамі жывуць пустымі.

Я не хачу быць між тых дзяўчатак,
Хто свой дыванок, няўдала
Вытканы, кіне сабе пад ногі,
Хоць з нітак каштоўных ткала.

Хоць дагары я не ўзношу носа,
Але й не сцялю пад ногі;
Бо сорам таптаць дарагі каберац,
Калі пад акном убогі!

Дзяўчаты-праллі, нясем астаткі:
Хай стануць кашуляй, пасам
Для ўбогіх — выраб той лепшы Богу,
Чым стаць на яго абцасам.

### Убогі багацей

Спажывай ды весяліся, бо жыццё — мінае! —
Кажа і на стол гарэлку, пернікі стаўляе.
За сняданкамі — абеды, ўвечары — прысмакі,
Каб застаўся па жыцці тым плён зусім ніякі.
Узгадай жа бедака ты, што валяўся ў смецці,
Ад якога адракліся дабрадзеі дзеці.
Каб яны ды мелі розум, пэўна бы прасілі:
Ўспамажы Тваёю ласкай яго, Ойча мілы!

### Бедны чалавечак

Бедны вельмі чалавечак той, што ў страўнік пхае
Ўсё — і прэснае, й квасное — ўсё, што толькі мае:
Хрэн, супы, гарчыцу, рыбу, пернікі, катлеты,
Вантрабянкі, паляндвіцы, шынкі ды паштэты;
Развядзе він ом ды півам, каваю, мадэрай,
Аж вулканам стане бруха, галава — кратэрам.
Нават хто да ежы мкнецца не з падобным спрытам,
Пазірае на закускі ласа, з апетытам.
Але думай пра абжорства гэткага распусту:
Хочаш быць здаровы й моцны?
Дык еш боршч, капусту!

### Заканчэнне

Хай пачнецца наша праца ў Імя Тваё, Божа!
Й гэтак завяршыцца.
Хай у кожную хвіліну з Небам дапаможа
Нам, верным, злучыцца.

Гэта працу нам акрыліць, вартасці падвоіць,
Людскі суд умерыць,
Бо ў тых чыстыя жаданні, хто жыве Табою,
Ў ласку Тваю верыць.

Дай жа, Божа, каб матывы гэтых сціплых спеваў
Праліліся ў душы,
Агарнулі бліжніх, верных дабрыні павевам,
Надзеяй не скрушнай!

У Тваёй то моцы, Божа! — свае песні скончу
На Тваю чэсць, Ойча!

*Вершы з кнігі: Czeczot Jan «Pieśni Ziemianina», przez Tłomacza Piosnek Wieśniaczych z nad Niemna i Dzwiny. — Wilno, 1846.*

*Пераклад з польскай мовы Ірыны Багдановіч.*

Клайв Стэйплз Льюіс

# Чатыры віды любові

## Раздзел III

## Прыязнасць

Можна лёгка заўважыць, што схільнасць да падобных паводзінаў — характэрны элемент мацярынскага інстынкту. Гэта любоў-дар, але такая, якой неабходна даваць, якая патрабуе запатрабаванасці. Аднак сапраўдная мэта давання заключаецца ў тым, каб прымаючы бок з часам перастаў патрабаваць нашага дару. Мы кормім дзяцей, каб з цягам часу яны самі маглі пракарміцца, мы вучым іх, каб хутка ім ужо не была патрэбная нашая навука. Любові-дару даецца цяжкае заданне: усё рабіць дзеля таго, каб яе выракліся. Мэта бацькоў у тым, каб стаць непатрэбнымі. Тая хвіліна, калі мы скажам: «Я больш не патрэбны дзецям», стане нашаю ўзнагародаю. Але інстынкт, проста па самой сваёй прыродзе, не здольны падпарадкоўвацца гэтаму закону. Інстынкт жадае дабра таму, на каго скіраваны, але не проста дабра, а толькі такога, якое ён сам здольны даць. Найвышэйшая любоў — любоў, якая жадае дабра ўлюбёнаму, з якой бы крыніцы гэтае дабро ні сыходзіла, павінна ўмяшацца і дапамагчы мацярынскаму інстынкту або ўтаймаваць яго аж да вырачэння. Зразумела, часта так і адбываецца. Але ў адваротным выпадку хцівая прага ўласнай запатрабаванасці будзе задавольваць сябе, трымаючы ўлюбёных дзяцей у рэальнай патрэбе або выдумляючы для іх ілюзорныя. Мацярынскі інстынкт будзе станавіцца ўсё больш бязлітасным, ствараючы ўпэўненасць (і ў нейкім сэнсе не без падставаў), што ён і ёсць «бескарыслівая» любоў-дар.

Але да гэтага схільныя не толькі маці. Кожная прыязнасць, што выцякае з бацькоўскага інстынкту або выконвае падобнае прызначэнне — патрабаваць уласнай запатрабаванасці, — можа трапіць у гэткую ж пастку. Напрыклад, прыязнасць апекуна — у жаданні апекавацца. У рамане Джэйн Остэн[21] галоўная гераіня Эма жадае шчаслівага жыцця Гарыет Сміт, але толькі такога, якое сама Эма для яе задумала. Мая ўласная прафесія ўніверсітэцкага выкладчыка таксама стварае небяспеку. Добры выкладчык заўжды імкнецца, каб вучні здолелі стаць ягонымі крытыкамі і канкурэнтамі. Мы павінны быць задаволеныя, калі надыходзіць гэты момант, як майстар фехтавання задаволены, калі ў вучня атрымліваецца ўкалоць і абяззброіць яго. Многія выкладчыкі такія.

Але не ўсе. Мне дастаткова шмат гадоў, каб я памятаў сумны прыклад доктара Кварца. Ніводны ўніверсітэт не мог пахваліцца больш руплівым і адданым настаўнікам. Ён усяго сябе ахвяроўваў вучням. Ён амаль ва ўсіх іх пакідаў незабыўныя ўражанні. Яго цалкам заслужана хвалілі і ўшаноўвалі. Само сабою, вучні з радасцю працягвалі наведваць свайго прафесара і пасля таго, як курс навучання завяршыўся. Вечарамі яны хадзілі да яго дамоў і вялі слынныя дыскусіі. Але цікава, што ідылія ніколі не працягвалася доўга. Раней ці пазней — праз некалькі месяцаў або некалькі тыдняў — наставаў фатальны вечар, калі вучні стукаліся ў дзверы, а ім адказвалі, што доктар заняты. І пасля гэтага ён заўжды бываў заняты. Вучні былі вырачаныя на вечнае выгнанне. І ўсё па той прычыне, што падчас апошняй сустрэчы яны запярэчылі настаўніку, пачалі бараніць уласную незалежнасць, застаючыся пры сваім меркаванні, адрозным ад прафесарскага, і, напэўна, не без поспеху. І, сутыкнуўшыся з той самай незалежнасцю, якую ён сваім жа выхаваннем у іх выпрацаваў, якая і была мэтаю настаўніцкіх высілкаў, доктар Кварц не вытрымліваў. Вотан цяжка працаваў, каб стварыць свабоднага Зігфрыда, а сустрэўшыся са свабодным Зігфрыдам, раз'юшыўся. Доктар Кварц быў нешчаслівым чалавекам.

Гэтая жудасная патрэба ва ўласнай запатрабаванасці часта знаходзіць выйсце ў пеставанні хатніх жывёлаў. Калі пра некага гавораць: «ён любіць жывёлаў», гэта нічога нам не скажа, пакуль не будзе вядома, якім чынам. Бо тут існуюць два варыянты. У першым выпадку хатняя жывёла найвышэйшага віду можа быць, як кажуць, «мостам» паміж намі і прыродаю. Мы ўсе час ад часу вельмі балюча адчуваем ізаляванасць чалавека ад астатняга жывога свету — наступства амаль страчаных інстынктаў, вынік нашага разумовага развіцця, празмернага пачуцця самаасэнсавання, незлічоных цяжкасцяў, у якіх мы вымушаныя існаваць,

*Працяг. Пачатак у № 2 за 2013 г.*

нашай няздольнасці жыць цяперашнім часам. Калі б толькі мы маглі пазбыцца ўсяго гэтага! Мы не павінны і, між іншым, не можам стаць жывёламі. Але мы можам быць з жывёламі. Яны дастаткова асабовыя істоты, каб словы «быць з» выступалі ў сваім поўным значэнні, аднак у нашмат большай ступені ўсё адно застаюцца несвядомым малым жмутком біялагічных імпульсаў. Трыма лапамі хатняя жывёла стаіць у свеце прыроды, адною — у нашым свеце. Яна — гэта сувязь, дэлегаваны нам пасланец. Хто не пажадае, як зазначыў Базанкет[22], «мець дэлегата пры двары боства Пана»? Чалавек з сабакам зацiскае дзіру ў сусвеце. Але, зразумела, часта жывёлаў выкарыстоўваюць горшым чынам. Калі вы патрабуеце ўласнай запатрабаванасці, а вашай сям'і ўдаецца вам у гэтым адмаўляць, хатні ўлюбёнец — відавочная замена. Вы можаце прымусіць яго ўсё жыццё ад вас залежаць. Вы можаце трымаць яго ў стане бясконцага інфантылізму, ператварыць яго ў інваліда, пазбавіць усяго, з чаго складаецца шчаслівае звярынае жыццё, і замест гэтага ствараць патрэбу ў незлічоных маленькіх міласцях, якія адзін толькі гаспадар можа яму даць. Няшчаснае стварэнне такім чынам прыносіць вялікую карысць астатняй частцы сям'і, выконваючы функцыі рэзервуара або дрэнажнай трубы — атрымліваецца, што вы так занятыя, псуючы жыццё свайму сабаку, што не маеце часу псаваць яго іншым людзям. Сабакі прыдатныя для гэтага лепш за катоў; кажуць, што лепш за ўсё — малпы, апроч іншага, яны найбольш падобныя да чалавека. Ясна, што вашаму ўлюбёнцу не пашчасціла. Але, магчыма, жывёла не здолее ў поўні асэнсаваць, як моцна вы ёй нашкодзілі. І да таго ж, нават калі і асэнсуе, вы ніколі пра гэта не даведаецеся. Нават самы зацкаваны чалавек, калі доўга з яго здзекавацца, аднойчы можа не вытрымаць і выказаць вам усю жахлівую праўду. Жывёлы не размаўляюць.

Тым, хто кажа: «Чым больш я бачу людзей, тым больш люблю сабакаў», тым, хто ўважае звяроў за жывую палёгку, адпачываючы з хатнімі ўлюбёнцамі ад тых вымаганняў, якія ставяць перад імі адносіны з людзьмі, я дам добрую параду: падумайце аб сапраўдных прычынах такога стаўлення.

Спадзяюся, вы правільна мяне зразумелі. Калі гэты раздзел прымушае хоць некага засумнявацца ў тым, што недахоп «натуральнай прыязнасці» можа лічыцца вялізнаю заганаю, значыць я прайграў. Я ні на імгненне не сумняваюся, што прыязнасць адказная за дзевяць дзясятых тых праяваў трывалага доўгага шчасця, якое толькі існуе ў нашым жыцці. І таму я разумею чытачоў, у якіх апошнія старонкі выклікалі думкі кшталту: «Ну, ясна. Ну, зразумела. Так здараецца. Эгаісты і неўротыкі ўсё перавернуць дагары нагамі, нават любоў, нават яе ператвораць у пакуты і эксплуатацыю. Але дзеля чаго звяртаць увагу на гэтыя выключныя выпадкі? Хоць кропля здаровага розуму, трохі ўмення саступаць адно аднаму — і падобнага не адбудзецца ў коле людзей прыстойных». Аднак мне здаецца, што сам гэткі каментар патрабуе каментавання.

У першую чаргу, адносна неўротыкаў. Не думаю, што справа стане больш яснаю, калі ўсе гэтыя згубныя праявы прыязнасці мы назавем паталагічнымі. Несумненна, існуе такі паталагічны стан рэчаў, калі пэўным людзям неймаверна цяжка і нават немагчыма пазбегнуць спакусы, пра якую мы кажам. Усімі сродкамі накіруйце такога чалавека да доктара. Але будзьце праўдзівымі самі з сабою: я ўпэўнены, што кожны сутыкаўся з падобнымі спакусамі. Тое, што яны ўзнікаюць, — не праява хваробы, а калі і гэтак, імя гэтай хваробе — першародны грэх. Звычайна, калі людзі паддаюцца падобным спакусам (а хто з нас ім не паддаваўся?), — гэта не хвароба, а грэх. Духоўнае кіраўніцтва лепш за медычныя працэдуры дапаможа даць яму рады. Задача медыцыны — аднавіць «натуральную» будову або «нармальныя» функцыі органаў. Але хцівасць, эгаізм, самападман і самашкадаванне не з'яўляюцца незвычайнымі і ненармальнымі ў тым жа сэнсе, што астыгматызм і блукальная нырка. Хто, крый Божа, назаве звычайным і нармальным чалавека, які ніколі не зведаў гэтых заганаў? Ён «нармальны», калі хочаце, але зусім у іншым сэнсе: першасна нармальны, непераможаны. Мы бачылі толькі аднаго такога Чалавека. І Ён быў не падобны да таго, як псіхолагі апісваюць звычайнага грамадзяніна: цэласны, ураўнаважаны, прыстасаваны да асяроддзя, удала жанаты, уладкаваны на працу. Чалавеку нельга быць вельмі добра «прыстасаваным» да свету, калі кажуць, што ён «апанаваны злым духам», і ў рэшце рэшт прыбіваюць яго, распранутага, цвікамі да драўлянага слупа.

А па-другое, ваш адказ па-свойму пацвярджае тое, што я імкнуся давесці. Прыязнасць прыносіць радасць тады і толькі тады, калі ёсць здаровы розум, узаемныя саступкі і «прыстойнасць». Іншымі словамі, толькі тады, калі да прыязнасці дадаецца яшчэ нешта іншае. Аднаго толькі пачуцця мала. Вам патрэбны «здаровы розум», то бок, кемлівасць. Вам трэба ўмець «саступаць адно аднаму», гэта значыць, патрэбная справядлівасць, што падбадзёрыць прыязнасць, калі тая выгарае, і ўтаймуе, калі яна ігнаруе або забываецца пра мастацтва любові. Вам патрэбная «прыстойнасць», і я не падману, калі скажу, што гэта значыць быць

добрым: цярплівым, ахвярным, пакорным і заўжды кіравацца нашмат вышэйшым відам любові, чым прыязнасць здольная быць сама па сабе. У гэтым увесь сэнс. Калі мы будзем імкнуцца жыць адною прыязнасцю, яна «прывядзе нас у заняпад».

Наколькі страшны можа быць яе ўплыў, мы, мне здаецца, рэдка ўсведамляем. Няўжо пані Нэрві сапраўды зусім-зусім не заўважала бясконцыя пакуты і расчараванні, якія яна прыносіла сям'і? Яна ведала, ясна ведала, што ўвесь ваш вечар сапсаваны ад усведамлення, што дома яна бессэнсоўна і дакорліва «чувае». Аднак няшчасная працягвала так рабіць, бо, спыніўшыся, сутыкнулася б з фактам, які ўсімі сіламі намагалася не бачыць. Пані Нэрві ўсвядоміла б уласную непатрэбнасць. Гэта першая прычына. Да таго ж, жыццё, да краёў запоўненае рознымі справамі, суцішвала ўтоеныя сумневы адносна якасці яе пачуцця. Чым больш гарэлі ступакі і балела спіна, тым лепш, бо гэты боль нашэптваў пані Нэрві: «Як жа моцна я мушу любіць іх, каб рабіць усё гэта!». Гэта другая прычына. Але, мяркую, існуюць і больш глыбокія матывы яе паводзінаў. Недаацэненасць з боку іншых людзей, жудасныя балючыя словы, якія так раняць (а пані Нэрві можна было «параніць» чым заўгодна), калі родныя ўмольвалі яе аддаць бялізну ў пральню, — гэта змушала жанчыну думаць, што з ёю дрэнна абыходзяцца. І таму яна заўжды была пакрыўджаная і незадаволеная, упіваючыся асалодаю свайго абурэння. Той, хто скажа, што яму невядомыя падобныя радасці, або хлус, або святы. Праўда ў тым, што крыўдай і абурэннем цешацца толькі тыя, хто ненавідзіць. Але ў любові пані Нэрві ёсць вельмі шмат ад нянавісці. Рымскі паэт сказаў пра каханне: «Я кахаю і ненавіджу», але і іншым відам любові ўласцівае гэткае спалучэнне. Усе яны нясуць у сабе зерне нянавісці. Калі прыязнасць цалкам паглынае чалавечае жыццё, зерне дае парасткі. Любоў, становячыся боствам, становіцца дэманам.

*Пераклад з англійскай мовы Юліі Шэдзько.*
*Паводле: «The Four Loves», C. S. Lewis, 1958.*

*Працяг будзе.*

[21] Джэйн Остэн (*Jane Austen; 1775–1817*) — аўтарка мноства класічных англійскіх раманаў.
[22] Бэрнард Базанкет (*Bernard Bosanquet; 1848–1923*) — брытанскі палітычны і сацыяльны філосаф, оксфардскі выкладчык.

Кс. Тамаш Яклевіч

# СУСВЕТНАЯ

***Палохаюць апісанні злачынстваў і статыстычныя звесткі. У свеце пераследуецца 100 мільёнаў хрысціянаў. Штогод 100 тысяч памірае за веру. Заходняя грамадская думка пра гэта маўчыць. Пра гэта трэба крычаць!***

Эрытрэя, дзяржава ва Усходняй Афрыцы на ўзбярэжжы Чырвонага мора. Там знаходзіцца лагер Метэр. Вязняў трымаюць у металічных кантэйнерах, якія выкарыстоўваюцца для перавозкі грузаў аўтамабілямі і караблямі. Унутры змяшчаюць столькі людзей, што з-за цеснаты яны не могуць ні легчы, ні сесці. Лагер знаходзіцца ў пустыні. Па начах вельмі холадна. У поўдзень метал награецца больш чым да 45 градусаў. Адзін з вязняў, якому ўдалося вызваліцца, распавядаў, што гэтыя кантэйнеры, як «гіганцкія печы, у якіх жыўцом спякаюць людзей». У іх няма туалета, ёсць толькі вёдры, поўныя спражненняў. Вязняў змушаюць да бессэнсоўных працаў або катуюць. Іх прымушаюць кленчыць на пні, б'юць гумовымі шлангамі, вешаюць за рукі, ганяюць босымі па камянях і цернях. Часам гвалцяць. Дзясяткі гінуць ад абязводжвання і сонечнага ўдару. Лагер Метэр у 2009 г. адкрыла рэжымная партыя, якая кіруе Эрытрэяй, або Народны фронт за дэмакратыю і справядлівасць. Гэтыя жахі падрабязна задакументаваныя. Пра іх засведчылі таксама дакументы, якія раскрыла *WikiLeaks*. Чаму свет маўчыць пра гэтыя злачынствы? Чаму ніхто не пратэстуе з такой самай энергіяй, як супраць катаванняў амерыканцамі тэрарыстаў з Аль-Каіды? Адказ просты: гэта тая частка вайны, пра якую свет не ведае або не хоча ведаць. Метэр — гэта лагер смерці для хрысціянаў. Там трымаюць хрысціянаў, якіх прызналі нелегальнымі. Трагедыя працягваецца. У Метэры знаходзіцца ад 2-х да 3-х тысяч чалавек.

Сітуацыя ў Эрытрэі — не выключэнне. Падобных месцаў у свеце так шмат, што можна гаварыць пра глабальную вайну, скіраваную супраць хрысціянаў.

**Рапарты з фронту**

Два вядучыя дэмографы ў галіне рэлігіі

# ВАЙНА З ХРЫСЦІЯНАМІ

— Дэвід Барэт і Тод Джонсан — прааналізавалі гісторыю пераследаванняў хрысціянаў на працягу стагоддзяў. Яны прыйшлі да высновы, што да нашага часу смерць за веру ў Хрыста прынялі 70 мільёнаў чалавек. Больш за палову з іх, 45 мільёнаў, загінула ў XX стагоддзі. Большасць — ахвяры камунізму і фашызму. У XX стагоддзі забітых за веру хрысціянаў больш, чым ва ўсе папярэднія эпохі. Гэтая эскалацыя насілля не спынілася з заканчэннем мінулага стагоддзя. Хрысціяне па-ранейшаму застаюцца самай пераследаванай рэлігійнай супольнасцю ў свеце. Гэта датычыць усіх хрысціянскіх веравызнанняў. Можна адкрыта гаварыць пра экуменізм мучаніцтва. І гэта не беспадстаўнае адчуванне або тэорыя празмерна ўражлівых вернікаў. Вось яшчэ некалькі эпізодаў з фронту гэтай няспыннай вайны.

Багдад. У нядзелю 31 кастрычніка 2010 г. група ўзброеных ісламістаў праводзіць атаку на мясцовую катэдру Каталіцкага Касцёла ў Сірыі. Гінуць 2 святары, якія цэлебруюць святую Імшу, і 56 іншых чалавек. Гэта не прэцэдэнт. З 2003 г. у Багдадзе ў 40 хрысціянскіх святынях з 65-ці дзейных была падкладзена бомба. Кампанія нянавісці і насілля прывяла да знішчэння хрысціянства ў гэтай краіне. Перад першаю вайною ў Персідскім заліве там жыло 1,5 млн хрысціянаў. Сёння засталося максімум паўмільёна, а магчыма, што і 150 тысяч. Большасць іракскіх хрысціянаў уцякла з краіны, многія загінулі.

Штат Арыса ў Індыі стаў арэнаю разгрому хрысціянаў на пачатку XXI стагоддзя. У 2008 г. у масавых беспарадках загінула 500 хрысціянаў, многія з іх — ад рукі ўзброеных нажамі мачэтэ індускіх фанатыкаў, тысячы былі параненыя і 50 тысяч выгнаныя. Знішчана не менш за 5 тысяч хрысціянскіх дамоў, 350 касцёлаў і школаў. Каталіцкая манашка Меена Барва была згвалчаная, затым яе голую цягнулі па вуліцы і білі. Паліцыя адмовілася складаць рапарт і шукаць віноўнікаў нападзення.

Бірма. Этнічныя меншасці чынаў і карэнаў у большасці з'яўляюцца хрысціянамі. У краіне, якой ужо шмат гадоў кіруе вайсковая хунта, яны лічацца ворагамі. Іх катуюць, садзяць у вязніцы і забіваюць. У кастрычніку 2010 г. вайсковыя верталёты правялі атаку на вёскі, у якіх жывуць гэтыя хрысціяне. Дакладных дадзеных няма, але тысячы людзей загінулі.

Нігерыя. Ісламісцкая тэрарыстычная група «Бока харам» з 2009 г. арганізоўвала напады, у якіх загінула каля 3 тысяч хрысціянаў. Лідары «Бока харам» прама гавораць, што іх мэта — ліквідаваць хрысціянаў з тэрыторый, на якіх яны дзейнічаюць.

Паўночная Карэя. Слушна лічыцца адным з самых небяспечных у свеце месцаў для хрысціянаў. Прынамсі чацвёртая частка з 200–400 тысяч хрысціянаў жыве тут у канцлагерах, бо яны адмовіліся ўшанаваць Кім Ір Сэна як боства. У 2005 г. аднаму з абаронцаў правоў чалавека ўдалося ўзяць інтэрв'ю ў жаўнера, што ўдзельнічаў у карных дзеяннях супраць касцёла, вернікі якога адмовіліся прыняць удзел у кульце Кім Ір Сэна. Жаўнеры звязалі пробашча, двух вікарыяў і двух вернікаў і паставілі іх насупраць бульдозера, даючы апошні шанец адрачыся ад веры. Калі яны адмовіліся, бульдозер пераехаў іх на вачах іншых вернікаў касцёла. Каля 300 тысяч карэйскіх хрысціянаў проста знікла — верагодней за ўсё, іх забілі.

**Ці перабольшанне гэта — гаварыць пра вайну?**

Прыведзеныя прыклады ўзятыя з кнігі Джона Алена «Глабальная вайна супраць хрысціянаў. Рапарты з фронту антыхрысціянскіх пераследаванняў» («*The Global War on Christians*», Нью-Ёрк, 2013). Аўтар — амерыканскі ватыканіст, каталік. Ён зусім не з'яўляецца крайнім кансерватарам, а наадварот, звязаны з органам «левых» амерыканскіх каталікаў «National Catholic Reporter». З некаторымі яго меркаваннямі ў іншых публікацыях цяжка пагадзіцца. У новай кнізе апісваюцца перш за ўсё факты апошніх 20 гадоў з апораю на дакументы з многіх крыніцаў. Заслугаю Алена з'яўляецца збор шматлікіх разрозненых звестак, хоць аўтар зусім не прэтэндуе на вычарпальнае апісанне сучасных пераследаванняў. «Кожны дзень падчас працы над гэтаю кнігаю да мяне даходзілі новыя паведамленні з розных бакоў свету па e-mail, у лістах, справаздачах і па тэлефоне», — піша аўтар. І дадае: «Праблема глабальнай вайны не ў тым, што яе падзеі ніхто не дакументуе, а хутчэй у тым, што занадта мала людзей звяртае на яе ўвагу». Кніга — важная спроба паказаць маштаб трагедыі,

пра якую заходняе грамадства не мае дакладнага ўяўлення. Намерам аўтара было выклікаць рэакцыю, заахвоціць да гучнага выказвання на гэтую тэму, у тым ліку нас, хрысціянаў. Асабліва нас!

Ален як журналіст асабіста сустрэўся з многімі ахвярамі пераследаванняў у Сірыі, Нігерыі, Іраку. «Не забудзь пра нас», — гэтыя словы гучалі ў яго вушах. Аднак непасрэдным штуршком да напісання кнігі стала яго размова з кардыналам Цімаці Доланам. Мітрапаліт Нью-Ёрка заўважыў, што хрысціяне не маюць літаратуры, у якой была б задакументаваная гісторыя сучасных мучанікаў, аналагічная габрэйскай літаратуры, прысвечанай Халакосту. Ален вырашыў прыняць выклік. Ён прызнаецца, што справа сучасных мучанікаў стала яго асабістай задачай.

«Ці не з'яўляецца гэта рытарычным перабольшаннем — гаварыць пра глабальную вайну супраць хрысціянаў?» — пытаецца журналіст. Пераследаванні ва ўсім свеце не каардынуюцца якойсьці «цэнтральнаю» варожаю сілаю. Прычыны прыгнёту ў розных кропках зямлі часам нязначна адрозніваюцца. Пераследуюцца таксама і вызнаўцы іншых рэлігій. Аднак жа ўсе статыстычныя звесткі, што датычацца парушэння свабоды рэлігіі, пацвярджаюць адзін неаспрэчны факт — 80 адсоткаў усіх актаў дыскрымінацыі з прычыны рэлігіі ў сучасным свеце скіравана супраць хрысціянаў. Грубыя адносіны да іх у стольких месцах на зямлі даюць усе падставы гаварыць пра глабальную вайну. Калі гутарка пра абарону правоў чалавека і рэлігійную свабоду ўвогуле павінна мець сэнс, то найбольшую ўвагу ў наш час трэба скіраваць на лёс пераследаваных вызнаўцаў Хрыста.

### Якое аблічча ў гэтай вайны і дзе яна вядзецца?

У гэтай вайны розныя аблічча. Міжнародны фонд Барнабы, створаны ў Вялікабрытаніі, аналізуе пераследаванні хрысціянаў ва ўсім свеце. У 2006 г. ён зрабіў іх класіфікацыю, назваўшы 10 спосабаў несправядлівых адносінаў да хрысціянаў: 1) сацыяльная дыскрымінацыя — маецца на ўвазе від сацыяльнага ўціску, які абмяжоўвае рэлігійную свабоду; напрыклад, хрысціянкі ў ісламскіх краінах, выходзячы замуж за мусульманіна, практычна вымушаныя пераходзіць у іслам; 2) інстытуцыянальная дыскрымінацыя — напрыклад, калі хрысціяне не атрымліваюць дазволу на пабудову або рамонт касцёла для нармальнай дзейнасці; 3) дыскрымінацыя ў працаўладкаванні хрысціянаў на вышэйшыя пасады; 4) юрыдычная дыскрымінацыя — немагчымасць доступу да правасуддзя, да следства і суда, калі ўчыняецца шкода; 5) забарона місійнай дзейнасці; 6) забарона навяртаць людзей у хрысціянства; 7) прымусовае адрачэнне ад хрысціянскай веры (напрыклад, у Індыі фундаменталісты арганізавалі масавае прымусовае навяртанне ў індуізм); 8) забарона супольна практыкаваць культ (у Кітаі ці ў Саудаўскай Аравіі ўсялякая форма супольнай малітвы дома забароненая і груба пераследуецца); 9) насілле, скіраванае непасрэдна на веруючых, — арышты, катаванні ажно да смерці; 10) прыгнёт, скіраваны на канкрэтную рэлігійную супольнасць.

Міжнароднае таварыства абароны правоў чалавека (*Internationale Gesellschaft für Menschenrechte, IGFM*) у Франкфурце — пазаўрадавая свецкая арганізацыя, якая займаецца даследаваннем правоў чалавека. Гэтая арганізацыя ў выніку праведзенага аналізу ў 2006 г. вызначыла, што 80 адсоткаў усіх актаў дыскрымінацыі вернікаў датычаць хрысціянаў. Такая вялікая колькасць абумоўлена часткова тым, што хрысціяне — найбольшая рэлігійная супольнасць у свеце, якая налічвае 2,2 млрд чалавек. У рапарце гаворыцца, што колькасць пераследаваных хрысціянаў будзе расці, у тым ліку па той прычыне, што ў ісламскіх краінах узрастае націск на ўвядзенне закона шарыяту.

*The Pew Forum on Religion and Public Form*, незалежны свецкі асяродак у Вашынгтоне, дзе аналізуюцца змены ў рэлігійнасці, у 2012 г. апублікаваў дакумент на тэму ўзрастання хвалі пераследаванняў рэлігіі. У рапарце заўважана, што ў 2006–2010 гг. хрысціяне спазналі дыскрымінацыю ў 139-ці краінах, што складае амаль тры чвэрці краінаў свету. Арганізацыя *Open Doors*, якая аналізуе пераследаванні хрысціянаў, лічыць, што ў наш час 100 мільёнаў хрысціянаў у свеце праслухоўваюцца, церпяць зняволенні, катаванні і часта смерць за веру. Тод Джонсан, пратэстанцкі навуковец, спецыяліст у галіне дэмаграфіі рэлігіі, вызначыў, што ў 2000–2013 гг. кожны год гінула 100 тысяч хрысціянаў. Штогадзіны ў свеце гіне 11 хрысціянаў. Гэта значыць, што з пачатку XXI ст. колькасць мучанікаў павялічылася на 1,3 млн чалавек. Яны загінулі і проста з прычыны нянавісці да хрысціянства, і таму, што праводзілі публічную дзейнасць, прадыктаваную вераю, давалі сведчанне. У новым спісе *Open Doors* называецца 25 краінаў, найбольш варожых да хрысціянаў. Гэта Паўночная Карэя, Афганістан, Саудаўская Аравія, Самалі, Іран, Мальдывы, Узбекістан, Емен, Пакістан, Эрытрэя, Лаос, Нігерыя, Маўрытанія, Егіпет, Судан, Бу-

тан, Туркменістан, В'етнам, Чачня, Кітай, Катар, Алжыр, Каморскія Астравы, Азербайджан. 18 з гэтых 25-ці краінаў — дзяржавы з мусульманскай большасцю.

Аднак нельга лічыць, што хрысціяне знаходзяцца ў бяспецы ў тых краінах, дзе яны складаюць большасць. У 2011 г. мексіканская каталічка Марыя Элізабэт Мацияс Кастра, лідарка свецкага місіянерскага руху, была забітая за тое, што пісала пра закулісны бок дзейнасці наркакартэляў. Гэта адбылося ў Мексіцы, краіне цалкам каталіцкай. У Калумбіі ў 2002 г. перад касцёлам быў забіты арцыбіскуп Ісайас Дуартэ Кансіна, які рызыкнуў пакрытыкаваць верхаводаў мафіі. Дуартэ быў адным з сотні духоўных асобаў, якія з 1984 г. загінулі ў гэтай краіне.

**Чаму свет маўчыць?**

Аўтар слушна адрознівае грубае і крывавае пераследаванне хрысціянаў ад той з'явы, якая ўзмацняецца ў краінах Захаду і часам называецца «хрысціянафобія». Сапраўды, на Захадзе складваецца атмасфера непрыязнасці да прысутнасці рэлігіі ў публічным жыцці, асабліва хрысціянства, і галоўным чынам — каталіцызму. Усё часцей вернікам адмаўляюць у дазволе на выкананне грамадскіх функцый згодна са сваім сумленнем. Вядома выказванне кардынала Фрэнсіса Джорджа з Чыкага: «Я памру ў ложку, мой наступнік — у вязніцы, а яго наступнік памрэ як мучанік на рынку» (радзей цытуецца такая думка: «Чарговы пераемнік пазбірае чарапкі з руінаў грамадства і дапаможа адбудаваць цывілізацыю, як гэта часта ў гісторыі рабіў Касцёл»). Ален не адмаўляе гэтых тэндэнцый, але адзначае, што ў кнізе апісвае выключна выпадкі непасрэднага грубага насілля над хрысціянамі. Ён заахвочвае хрысціянаў на Захадзе, каб яны прысвяцілі больш увагі абароне сваіх братоў па веры, якіх у многіх месцах свету катуюць, садзяць у вязніцы, забіваюць.

Чаму насілле над хрысціянамі ў небывалым для гісторыі маштабе не знаходзіць адэкватнага рэзанансу ў публічнай прасторы, такой чулай да правоў чалавека? Чаму маўчаць мэйнстрымныя сродкі масавай інфармацыі? Адказ вельмі просты. Па-першае, таму што яны знаходзяцца ў руках людзей або абыякавых да рэлігіі, або варожа настроеных у адносінах да яе, асабліва да хрысціянства. Яны больш зацікаўленыя тым, каб паказваць хрысціянаў як агрэсараў, а не ахвяраў. З навязлівай настойлівасцю яны ствараюць вобраз хрысціянства як прыгнятальнай грамадскай сілы, што пагражае чалавечаму прагрэсу. Таму яны бясконца паўтараюць аповеды (зрэшты, гістарычна скажоныя) пра крыжовыя паходы, інквізіцыі, спальванне варажбітак і Джардана Бруна. Перад абліччам суровых фактаў прыйшоў час для таго, каб заходнія эліты перасталі сілкавацца «Кодам да Вінчы», — заклікае Ален. Сёння дзве трэція з 2,2 млн хрысціянаў жывуць па-за заходнім светам. Менавіта гэтыя «незаходнія» хрысціяне з'яўляюцца мэтаю грубага насілля. Аднак для Захаду, нарцысічна сканцэнтраванага на сабе, такія краіны як Шры-Ланка, Мальдывы ці Судан, дзе забіваюць хрысціянаў, знаходзяцца проста задалёка. Французскі «левы» філосаф Рэжы Дэбрэ трапна адказаў на пытанне аб тым, чаму пераследаванне хрысціянаў не ўзрушвае заходніх палітыкаў. Яны «занадта хрысціянскія», каб прыцягнуць увагу «левых». І «занадта замежныя», каб іх абаронаю заняліся «правыя».

Наступная тэма. Чаму мы маўчым пра сучасных мучанікаў у Касцёле? Чаму хрысціянскія Цэрквы на Захадзе не маюць справаў пераследаванняў у спісе сваіх прыярытэтаў? «Як растлумачыць той відавочны парадокс, што самы жудасны аповед пра хрысціянаў пачатку XXI ст., здаецца, цалкам адсутнічае ў хрысціянскай свядомасці?» Прычынаў шмат. Заходнія хрысціяне не пераследуюцца. У атмасферы міжрэлігійнага дыялогу недарэчнаю здаецца гутарка пра пераследаванні хрысціянаў, напрыклад, у краінах з мусульманскай большасцю або ў Ізраілі. Захад успрымае рэлігію як крыніцу ўнутранага супакою, псіхічнага камфорту. Слуханне аповедаў пра тое, як ісламскія фанатыкі паліваюць сернаю кіслатою запясці коптаў, каб выдаліць татуіроўкі крыжоў, не супакойвае.

Час абудзіцца! Не трэба быць габрэем, каб зразумець зло Халакосту і пратэставаць супраць антысемітызму. Не трэба быць хрысціянінам, каб выступіць у абарону пераследаваных вызнаўцаў Хрыста. Тым не менш для нас, хто верыць у Яго, перажыванне за лёс нашых катаваных сясцёр і братоў — маральны абавязак. Неабходная малітва, агучванне фактаў, больш глабальнае мысленне пра Касцёл, дабрачынная дапамога, націск на палітыкаў, захаванне памяці пра сучасных мучанікаў.

*Пераклала з польскай мовы Ганна Шаўчэнка.*

Паводле: *Gość Niedzielny*,
8 чэрв. 2014 г.

Жанна Некрашэвіч-Кароткая



Выгляд на раку Улу.

# «Калі паўстане супраць мяне войска, не збаіцца сэрца маё»:
## памінальная малітва на палях Чашніцкай бітвы

Біблейскі праведнік і пакутнік Ёў, жадаючы наблізіцца да спаўнення самай складанай у жыцці чалавека задачы, — спазнаць самога сябе — прыгадваў усе тыя натуральныя для жывога чалавека парывы душы, якія даволі часта прымушаюць яго зрачыся Бога. Сярод апошніх згадваецца і такое: «калі радаваўся я з падзення таго, хто мяне ненавідзеў, і весяліўся, што яго напаткала няшчасце» (пар. *Ёв 31, 29*).

Не трэба тлумачыць, як цяжка знайсці чалавеку — тым болей ваяру-пераможцу — у сваёй душы пачуцці спагады да бязлітаснага ворага, які вераломна (няхай і пад прыкрыццем высокай, часта ўяўнай, ідэі ці то «вызвалення братняга народа», ці то «аднаўлення (пэўнага) спрадвечнага адзінства») вынішчае агнём бацькоўскія сядзібы, напаўняе крывёю празрыстыя воды блакітных рэк Айчыны. Павінны прамінуць стагоддзі, каб у памяці новых пакаленняў, нашчадкаў даўніх супраціўнікаў, перагарэла-перацёрлася ўзаемная нянавісць, каб прыйшло ўсведамленне неабходнасці пачаць дакопвацца самім, па словах Янкі Купалы, «разгадкі нашых крыўд і бед». Ды каб знайшліся ў сэрцах нашчадкаў ахвяраў былых пабоішчаў словы памінальнай малітвы не толькі за палеглых суайчыннікаў, але і за іх крыўдзіцеляў.

13 мая на філалагічным факультэце БДУ адбыліся Міжнародныя навуковыя чытанні пад назвай «Старонкі гераічнай гісторыі Беларусі ў помніках літаратуры XVI стагоддзя». Падчас пасяджэнняў прыгадваліся славутыя падзеі даўняй гісторыі Беларусі, перадусім — Ульская (Чашніцкая) бітва, якая адбылася 26 студзеня 1564 г. недалёка ад мястэчка Іванск Чашніцкага раёна. У гэтай бітве войска Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам гетмана Мікалая Радзівіла Рудога і гетмана Грыгорыя Хадкевіча разбіла шматтысячную армію маскоўскага ваяводы Пятра Шуйскага. Фактычна чытанні былі прымеркаваныя да 450-годдзя векапомнай баталіі.

Яшчэ некалькі гадоў таму я і сама наўрад ці магла б шмат расказаць пра Ульскую бітву, пра якую маўчалі нашы школьныя і ўніверсітэцкія падручнікі па гісторыі. Пашырыла мой гістарычны кругагляд лацінамоўная паэма Яна Радвана «Радзівіліяда, або Пра жыццё і подзвігі... Мікалая Радзівіла», апублікаваная ў Вільні ў 1592 годзе. Традыцыйны для класічнай эпапеі зварот да

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая** — доктар філалагічных навук, прафесар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Закончыла філалагічны факультэт БДУ, аспірантуру пры кафедры гісторыі беларускай літаратуры, дактарантуру пры кафедры тэорыі літаратуры. Даследуе праблемы гісторыі беларускай літаратуры і культуры XI–XIX стст. Перакладае з лацінскай, польскай, царкоўнаславянскай і старабеларускай моваў. Аўтар манаграфій «Нясвіжская Мельпамена: Драматургія Францішкі Уршулі Радзівіл» (Мінск, 2002), «Беларуская лацінамоўная паэзія: ранні Рэнесанс» (Мінск, 2009), «Беларуская лацінамоўная паэма: позні Рэнесанс і ранняе Барока» (Мінск, 2011); укладальніца кнігі «Ян Вісліцкі. Пруская вайна» (Мінск, 2005), суаўтар акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XVIII ст.» (т. 1; Мінск, 2006), вучэбна-метадычных дапаможнікаў па беларускай літаратуры і лацінскай мове. Навуковы рэдактар перакладу Бібліі, зробленага кс. Уладзіславам Чарняўскім.

Музаў суправаджаецца ў ёй згадкай пра бітву 1564 года:

> О, Каліопа з Эратай, да нас павярніцеся тварам,
> Слаўце шматгучна цяпер ваяводы
> літоўскага подзвіг,
> Зззяе ён славай да неба: герой той і ў міры,
> і з Марсам
> Дбаў пра айчыну сваю; прыгадайце
> яшчэ навальніцу,
> Што праз шматводную Улу
> па землях Іванска ляцела
> *Радзівіліяда, I, 22–26*[1].

Відавочна, што ўпамінанне ваеннай сутычкі («навальніцы») на берагах Улы, пад Іванскам, у складзе істотнай часткі эпапеі — інвакацыі (звароту да Музы) — надае гэтай падзеі калі не сусветнае, то прынамсі агульнаеўрапейскае значэнне. Менавіта так ацэньваецца перамога пад Улаю многімі пісьменнікамі XVI ст.

Лічу неабходным прыгадаць тых людзей, якія на розных узроўнях, але з аднолькавай руплівасцю падтрымалі ініцыятыву правядзення «Ульскіх чытанняў». Найперш — і гэта прыемна ўразіла! — адгукнуліся прадстаўнікі афіцыйных дзяржаўных установаў: начальніца аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Чашніцкага райвыканкама Таццяна Пчолкіна, а таксама начальніца аддзела адукацыі, спорту і турызму Валянціна Каваленка. З іх дапамогай мне ўдалося пазнаёміцца з чашніцкім краязнаўцам, настаўнікам вышэйшай катэгорыі Іванскай сярэдняй школы і адначасова кіраўніком школьнага краязнаўчага музея Віктарам Грыбко. Гэты чалавек, сапраўдны падзвіжнік у справе асветы і выхавання, выдаў некалькі кніг, прысвечаных роднай Чашнiччыне; у адной з іх — гісторыка-краязнаўчым нарысе «Іванск і ваколіцы» (Мінск, 2011) — аўтар распавёў пра Ульскую бітву, а таксама выказаў цалкам праўдападобную здагадку, што месцам гэтай баталіі мог быць луг Маскоўка: такая назва замацавалася за колішнім полем, хутчэй за ўсё, у памяць пра некалькі тысяч палеглых там ваяроў маскоўскага войска. Прыехаўшы ў Мінск, спадар Віктар не толькі распавёў пра родную Чашнiччыну, пра сваю працу ў Іванскай школе, але нават прывёз з сабою некалькі экспанатаў са школьнага музея. Так упершыню мне давялося патрымаць у руках невялікую сякеру каменнага веку. Не абмінуў настаўнік з Іванска сваёй увагай і крывавы 1564 год...

Пра Ульскую бітву як адну з цэнтральных падзеяў Лівонскай вайны (1558–1583), пра помнікі літаратуры XVI ст., у якіх яна апісвалася, распавядалі і шаноўныя госці з Літвы, вядомыя



Будучая каталіцкая святыня ў Чашніках.

вучоныя: дырэктар Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх у Вільнюсе Сігітас Нарбутас, а таксама загадчыца аддзела рэдкіх кніг Бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Урублеўскіх Дайва Нарбуцене. Гісторык Андрэй Янушкевіч удакладніў некаторыя гістарычныя факты, перадусім звесткі пра колькасны склад войскаў, якія былі перабольшаныя творчай фантазіяй літаратараў былых часоў. Успамінам пра гераізм нашых продкаў і трагічнасць тых далёкіх дзён былі напоўнены прамовы і выступленні іншых удзельнікаў чытанняў — выкладчыкаў і студэнтаў філалагічнага факультэта. Кожнае новае выступленне суправаджалася чытаннем фрагментаў з гераічнай паэмы «Радзівіліяда» (1592) Яна Радвана, у якой апісваецца Ульская бітва. Студэнты філфака дэкламавалі ўрачыстыя гекзаметры не толькі ў перакладзе на беларускую мову, але нават у арыгінале, па-лацінску, а таксама ў перакладзе на літоўскую мову.

На наступны дзень удзельнікі чытанняў наведалі гістарычныя мясціны, звязаныя з Ульскай бітвай. Па дарозе Віктар Грыбко шмат распавядаў пра родны край. Найбольш уразіла гісторыя, якую карэспандэнт «Звязды» Ніна Шчарбачэвіч (яна разам з намі наведала Чашнікі і Іванск) трапна назвала «Каталікі будавалі для праваслаўных»: «У 1779 годзе пабудавалі касцёл у гонар Езуса Хрыста, які лічыўся адным з самых вялікіх у Беларусі, пры ім быў і дамініканскі кляштар. Аднак у 1840 годзе згарэла праваслаўная Праабражэнская царква... Было вырашана мясцовы касцёл перарабіць пад царкву. Аднак у той час Чашнікамі і Іванскам валодаў каталік Ігнат Валадковіч. Ён паехаў у Санкт-Пецярбург, у Свяшчэнны Сінод — дамовіцца, каб касцёл не забіралі. Яго просьбу быццам задаволілі, але паставілі ўмову: «Калі пабудуеш новую царкву,



Сустрэча з ксяндзом Анджэем Бульчакам.

касцёл забіраць не будзем»... Так і адбылося, што чашніцкую Свята-Праабражэнскую царкву, якая дзейнічае і цяпер, пабудавалі каталікі»[2].

Гаворка ў гэтым артыкуле ідзе пра касцёл Перамянення Пана. Нягледзячы на намаганні ўладара Чашнікаў і парафіянаў, у 1868 г. касцёл быў зачынены, а ў савецкія часы разрабаваны. У рэшце рэшт, прыкладна ў 60-я гг. XX ст., былы велічны помнік барочнага мастацтва зраўняўся з зямлёю... Аднак у 2001 г. чашніцкая парафія Перамянення Пана была адноўленая. На сённяшні дзень намаганнямі ксяндза Анджэя Бульчака з Гданьска пад каталіцкую святыню перабудавана старая хата (тым часам ідзе пабудова новага касцёла).

Айцец Анджэй сустрэў нас вельмі прыязна і пачаў з невялікай прыватнай размовы, пастараўшыся ўдзяліць увагу кожнаму з гасцей. Неўзабаве была цэлебраваная Імша па-беларуску на ўшанаванне памяці ўсіх загінуўшых на палях пад Іванскам. Успомніўшы ваенныя падзеі розных часоў, што пракаціліся па чашніцкіх землях, святар падкрэсліў, што мір ёсць найвялікшаю каштоўнасцю і дарам Божым. У гэтым кантэксце асабліва глыбокім сэнсам было напоўнена традыцыйнае хрысціянскае пажаданне супакою, якім абмяняліся ўсе прысутныя і якое гэтым разам прагучала ў святыні не толькі па-беларуску ды па-польску, але і па-літоўску. Цалкам натуральна, што, успамінаючы вайну, людзі жадаюць адзін аднаму спакою.

Лацінамоўная паэма Яна Радвана «Радзівіліяда», насычаная батальнымі сцэнамі і апісаннямі шматлікіх бітваў перыяду Лівонскай вайны, вызначаецца надзвычайнай, наўмысна акцэнтаванаю апалогіяй міру. Так, антычны пясняр Мусэй, які выступае ў ролі настаўніка маладога Мікалая Радзівіла, не забываецца пажадаць яму:

Пільна не пніся, не лезь на вяршыні
напышлівай славы:
Міру больш прагна жадай, чым трыумфаў
любой перамогі.
Марса, юнача, не кліч, бо праклянцце
спрадвечнае — войны —
Прыйдуць і самі.

*Радзівіліяда I, 360–363.*

У канцы першай кнігі паэт лічыць немагчымым прыпадобніць свайго героя да ваяводаў былых часоў у першую чаргу таму, што гетман Радзівіл «стаў пераможцам у міры»: злітаваўшыся з ворага, ён пераканаў лівонцаў падпарадкавацца каралю Жыгімонту II і такім чынам пазбегнуў непатрэбнага праліцця крыві.

Гэй! Саступіце вы шлях, о вялікія ў бітвах героі
Лацыя, Фіваў, Афін... Вы не ў міры
былі пераможцы!
Спэцканы бурай крывёй трыумфальныя
ўсе калясніцы!..
Першы з усіх Радзівіл непрыяцеля збавіў
ад смерці,
Славу здабыўшы сабе, трыумфальныя
вечныя лаўры.

*Радзівіліяда I, 922–926.*

Вайна паказана Янам Радванам як ненатуральны стан чалавечага існавання, які парушае спрадвечную гармонію прыроды. Пры гэтым аўтар «Радзівіліяды» даволі адмыслова падводзіць чытача да апалогіі міру. Яшчэ распавядаючы пра подзвігі бацькі гетмана, Юрыя Радзівіла, ён успамінае злачыннага маскоўскага саноўніка Івана Аўчыну-Абаленскага, які пацярпеў праз уласныя «Марсавы гульні», і робіць нечаканую выснову:

Дух таямнічы людскі! Перамога твая на нябёсах
Марсу спрыянне дае, ды ўсё роўна
ты прагнеш спакою!
Смела наперад ідзі з міраноснай
галінкаю лаўра!

*Радзівіліяда I, 192–194.*

Думка пра «перамогу на нябёсах» стасуецца, мяркую, з хрысціянскім уяўленнем пра Збаўцу, які прыйшоў для таго, каб перамагчы сілы зла. Успомнім словы Настаўніка з Евангелля ад Мацвея: «Не думайце, што Я прыйшоў прынесці спакой на зямлю. Не спакой прыйшоў Я прынесці, а меч» (*Мц 10, 34*). Такім чынам, хрысціянства ў пэўным сэнсе «давала дабро» вайне; менавіта гэтая цытата (вядома ж, у яе занадта спрошчанай



Св. Імшу ў памяць пра загінуўшых у Чашніцкай бітве цэлебруе ксёндз Анджэй Бульчак.

трактоўцы) служыла апраўданнем крыжовых паходаў. Аднак паэт-гуманіст падкрэслівае, што натуральная ўмова для жыцця кожнага чалавека — мір, і магчымасць пазбыцца вайны для кожнага даражэйшая за ўсялякую высокую ідэю. У прамову Мусэя паэт уключае адкрытую дэкларацыю пацыфісцкага характару:

Я праклінаю вайну! Праз цябе
найвялікшыя людзі
Трупамі сталі даўно, гарады
без мяшканцаў здзічэлі.
Тое, што неба і Бог надзяляюць
жыццёваю сілай,
З кволай сцяблінкі расце, хоча жыць,
прагна цягнецца ўгору...
Рушыцца ў час навальніцы... Жыццё —
толькі момант, імгненне.

*Радзівіліяда I, 286–290.*

Галоўны герой паэмы, гетман Мікалай Радзівіл, мае шчыльную сувязь з нябеснымі сіламі. Напярэдадні Чашніцкай бітвы да правадыра з'явіўся ў сне вялікі князь Вітаўт, абвяшчаючы Радзівіла «спадзяваннем ліцвінаў і светачам дзяржавы». Абудзіўшыся, натхнёны гетман узносіць словы малітвы:

«Ты, Хто і ноччу, і днём над вірлівым
сусветам чуйнуеш;
Творачы ў небе штогод агняпады,
парадкуеш зоры
Воляй нязменнай сваёй на блішчастых
дарогах паднебных;
Справы людскія пільнуеш,
любое стварэнне, істоту,
Бачыш прастор Акіяна,
суровае царства памерлых.
Будзь жа з народам Тваім, міласэрны!
І нашы маленні
Выслухай толькі таму, што нас любіш,
дзяцей недастойных.
Дай успамогу сваю з прамяністых
вышыняў Алімпа,
Войска маё і мяне Ты ўратуй ад ліхой
небяспекі!»
Так ён сказаў, і нябесны Айцец,
скалануўшы грымотна
Шаты Алімпа, нібыта пацвердзіў:
пачулі малітву!
Неба качнула са звонам сузор'ямі
срэбнымі ціха:
Гэта азваўся сам Бог — ты не мусіш
баяцца! Заранка
Шчодра зрасіла палі і зямлю,
ды паклікала сонца...

*Радзівіліяда III, 306–319.*

Зусім да іншых сілаў апелюе маскоўскі цар Іван Жахлівы, і вынік кантакту з імі стварае цалкам супрацьлеглы душэўны стан. Бадай упершыню ў еўрапейскай літаратуры Ян Радван асэнсоўвае імкненне да войнаў як цяжкую душэўную хваробу, што выклікаецца істотамі з царства мёртвых. Так, у канцы трэцяй кнігі апісваецца алегарычная сцэна: Алекто, адна з эрыній, альбо фурый (міфічных багіняў нянавісці), атаясамленая самім паэтам з сатаною, пралятае над маскоўскім Крамлём злавеснаю птушкаю, прызямляецца на макаўку Кітай-горада і пранікае змяёю ў сэрцы людзей.

Фурыя ў душы пранікла, фармуе
пякельны лад думак,
Людзям распальвае сэрцы нянавісцю,
кепскай парадай:



Віктар Грыбко паказвае гасцям з Літвы меркаванае месца Чашніцкай бітвы.

«Гэй, палюбіце вайну, даставайце мячы свае з похваў,
Хай жа на многа гадоў запануе тут гнеў, каб імкнуўся
Цэлы народ да вайны, каб ставала нянавісці, здрады,
Зброя няхай зазвініць, несупынна сыходзяцца войскі...»;
Шэпча, каб князь уздымаў на падданых жахлівую зброю,
Нават каб сына свайго загубіў ён бацькоўскай рукою;
Хоча, каб цёплай крывёй яго дом быў штодзённа заліты,
Раіць здабыць перамогу праз тысячу розных злачынстваў.
Фурыя гэтак натхняла, з усіх намаганняў пачварных
Гнеў распаляла і злобу, ды прагу вайны абуджала.
Марсавы шалы пануюць у сэрцы бязбожным Івана.
«Войнаў, — раве, — патрабую!» — аж крык па палацы нясецца;
Спаць перастаў, ды адно ўсё забойствамі, бітвамі трызніць,
Зыркае дзіка вачыма, крывёю налітымі, гнеўна,
Аж задыхаецца сам, калі мусіць марудзіць з вайною.

*Радзівіліяда II, 732—748.*

Менавіта Івана Жахлівага абвінавачвае Ян Радван у пагібелі мноства выдатных маскоўскіх ваяводаў. Смерць многіх з іх ён апісвае з гэткім жа шчымлівым спачуваннем і роспаччу, як і смерць сваіх суайчыннікаў. Кожнага канкрэтнага ваяра з варожага войска Ян Радван апісвае найчасцей з пачуццём павагі і спачування — «бо не дазволіў я грашыць языку майму, каб насылаць праклёны на душу яго» (пар. *Ёв 31, 29–30*). Так, Івана Шарамета, аднаго з правадыроў маскоўцаў, падчас апісання бітвы аўтар называе лютым. Аднак у сцэне яго развітання з жыццём ваяр заслугоўвае зусім іншых эпітэтаў.

Вось Шарамет нешчаслівы прыпаў да зямлі сваім тварам.
Тут паміраючы, ён пра Аку сваю родную ўспомніў.
Моцныя рукі яго не пацешацца болей ніколі
Дзюбаю вострай стралы чараміскай з айчынных сядзібаў:
Воіна палкага раптам спакойная куля спаткала.
Выпусціў хтосьці яе — а не спыняць браня, ні даспехі,
Шчыт не расплюшчыць; яна застанецца ў канаючым целе.

*Радзівіліяда III, 392–398.*

Магутная антытэза палкага жывога воіна і спакойнай бяздушнай кулі нясе ў сабе вялізны эмацыйны зарад, характарызуючы Яна Радвана як выдатнага мастака слова.

Апісваючы вайну знутры, паэт дэманструе, як вокамгненна яна абвяргае выслоўе «*Pulchra res homo est*» («Чалавек — прыгожая рэч»), выяўляючы самыя нізкія, цьмяныя бакі чалавечай істоты. У Марса, бога вайны, — вялізная світа, выява якой вартая найжахлівейшых фрагментаў з карціны «Страшны Суд» Ераніма Босха:

Страх ціснe тых, хто баіцца, руйнуе іх душы няшчадна,
Жах падпільноўвае сэрцы, з'яўляецца жудасным монстрам

Чорнага сполаху, прыкрых уцёкаў
ды боязі слізкай.
Побач — пачварныя Фурыі, люты Падман
ды Падступнасць —
Войнаў любых спадарожнікі —
смела ды ўпэўнена крочаць.
Вунь Ахеронта, глядзі, выхаванка ляціць,
Тызіфона[3],
З бледным абліччам, а з ёю на пару —
сястрыца Белона[4];
Вось Лібітына[5] (яна не шкадуе нікога)
і Морта[6] —
Проста сапе ад забойстваў... Ну вось вам
замест прыгажосці,
Праўды ды звычаяў добрых —
смуродных багіняў абліччы,
Мноства ваенных ліхотаў замест
дабрадатнага міру...

*Радзівіліяда III, 486–496.*

Паэт яўна разлічвае на тое, каб, прачытаўшы гэтыя словы, чалавек ніколі не пажадаў бы развязаць новую вайну — калі не з этычных, то хаця б з эстэтычных меркаванняў...

Менавіта ў гэтым эстэтычным плане нам, усім, хто прыехаў цёплым травеньскім днём у Чашнікі і Іванск, вельмі пашанцавала ў параўнанні з нашымі далёкімі гераічнымі продкамі, якія марозным студзеньскім вечарам 1564 года сышліся на чашніцкіх палях, каб абараніць сваю Айчыну. Яны чулі выбухі гарматаў і перадсмяротныя стогны, мы — гукі музыкі і словы паэтычных твораў. Навучэнцы і педагогі Іванскай сярэдняй школы падрыхтавалі для гасцей цудоўны святочны канцэрт. У падарунак мы атрымалі зробленыя рукамі іванскіх школьнікаў вазы з валошкамі ў тэхніцы арыгамі.

На тых лугах, дзе калісьці адбылася Ульская бітва, мы ўбачылі і сапраўдныя жывыя краскі. Іх белыя пялёсткі са здзіўленнем пазіралі на прывезеныя намі чырвоныя ружы, якія мы пакінулі разам з запаленым знічом на стромкім беразе ракі. Побач ляжаў паваленны нядаўняй навальніцай вялізны дуб, а ўнізе ціха плыла Ула; чыстае, не азмрочанае сполахамі ваенных пажараў неба адбівалася ў яе водах. У павольнай задуменнасці рака быццам думала пра нешта, штосьці ўспаміналa. Паблажліва прыслухоўвалася яна да задзірыстага дзынькання маладых, а таму вельмі ж ужо агрэсіўных і напорыстых камароў, якія былі ўпэўненыя, што няма і ніколі не было на гэтых берагах страшнейшай за іх раці...



Кветкі і зніч над водамі Улы
ў памяць пра Чашніцкую бітву.

*Фотаздымкі Вольгі Крычко
і Сігітаса Нарбутаса.*

[1] Паэма «Радзівіліяда» цытуецца на беларускай мове ў нашым перакладзе, які друкаваўся ў 2011—2012 гг. у часопісе «Маладосць». Фрагменты з паэмы публікавала таксама «Наша вера». Пры цытаванні рымскай лічбай пазначаны парадкавы нумар раздзела (кнігі), арабскімі лічбамі — нумары паэтычных радкоў.
[2] Шчарбачэвіч, Н. Там, дзе Радзівіл Шуйскага разбіў // Звязда. — 2014 г., 3 чэрвеня.
[3] *Тызіфона* — адна з эрыній.
[4] *Белона* — старажытнарымская багіня вайны.
[5] *Лібітына* — старажытнарымская багіня пахавання.
[6] *Морта* згадваецца некторымі старажытнарымскімі аўтарамі як багіня лёсу.



# ЛАТЭРАНСКАЯ БАЗЫЛІКА

Сёння мы накіроўваемся ў Латэранскую базыліку — старажытны рымскі сабор, які традыцыйна называюць *San Giovanni in Laterano* (св. Яна ў Латэране). Афіцыйная тытулатура Латэранскай базылікі заслугоўвае поўнага перакладу: *Sacrosanta Cattedrale Papale Arcibasilica Romana Maggiore del Santissimo Salvatore e dei Santi Giovanni Battista ed Evangelista al Laterano, madre e capo di tutte le chiese della Citta e del Mondo* (Найсвяцейшы папскі рымскі вялікі сабор архібазыліка найсвяцейшага Збаўцы і святых Яна Хрысціцеля і Евангеліста на Латэране, маці і звершніца ўсіх касцёлаў горада і свету). Базыліцы належыць выключнае месца ў каталіцкай іерархіі. Яна з’яўляецца першай з чатырох папскіх базылікаў Рыма (важнейшай нават за сабор св. Пятра) і лічыцца самым старажытным і значным саборам Каталіцкага Касцёла. Хаця *дэ юрэ* сабор і ўвесь яго архітэктурны комплекс знаходзяцца на тэрыторыі Італьянскай Рэспублікі, яны маюць правы экстэрытарыяльнасці і падпарадкоўваюцца выключна Дзяржаве Ватыкан.

Гісторыя базылікі пачыналася ў IV стагоддзі. Вялікі ўчастак зямлі належаў сям’і Латэранаў і быў вядомы як *Horti Laterani* (Латэранскія сады). Там знаходзіўся палац гэтай сям’і. Калі імператар Канстанцін у 307 г. пабраўся шлюбам з Фаўстай, сястрой Максенцыя, згаданы палац (які называўся тады *Domus Faustae*) стаўся маёмасцю Канстанціна. У 312 г. Максенцый абвясціў сябе імператарам, але быў разбіты войскам Канстанціна на Мільвійскім мосце каля Рыма. Паводле хрысціянскай традыцыі, перад бітвай Канстанцін меў прарочую візію: на небе з’явіліся выява крыжа і словы «*In hoc signo vinces*» («Пад гэтым знакам пераможаш»). Тады імператар загадаў намаляваць знак крыжа на шчытах сваіх жаўнераў. Пасля перамогі Канстанцін падарыў латэранскі ўчастак і палац рымскім папам. Напярэдадні падпісання Міланскага эдыкту 313 года (паводле якога легалізавалася хрысціянства ў Заходняй імперыі) на месцы старога форта, які быў часткаю палацавага комплексу, была пабудавана першая базыліка, высвечаная папам Мільцыядам у імя Хрыста Збаўцы. Папа Сільвестр I надаў храму і далучанаму да яго Латэранскаму палацу тытул *Domus Dei* (Дом Бога). Латэранскі палац быў галоўнай папскай рэзідэнцыяй да канца XIV стагоддзя, калі Апостальскую Сталіцу перанеслі ў Ватыкан. Першы храм, вядомы ў крыніцах як *Basilica Aurea* (Залатая базыліка), быў аб’ектам дароў мноства папаў, імператараў і іншых данатараў. Базыліка моцна пацярпела падчас захопу Рыма візіготамі ў 410 г., а ў 455 г. вандалы скралі ўсе яе багацці. Папа Леў I Вялікі завяршыў яе рэстаўрацыю ў 460 годзе. У 774 г. у Латэранскай базыліцы прыняў хрост германскі імператар Карл Вялікі. Пасля значных разбурэнняў у выніку землятрусу 896 года пачалася грунтоўная перабудова, у выніку якой паўстала другая базыліка, якая ў цэлым паўтарала план папярэдняй. На пачатку X ст. папа Сергій III дадаў да прысвячэння Латэранскай базылікі культ святога Яна Хрысціцеля, а ў XII ст. папа Луцый II прысвяціў Латэранскі палац і храм св. Яну Евангелісту.

Тады ж у палацы размясціўся бэнэдыктынскі кляштар, які існуе дагэтуль. Аднак у 1308 г. другая базыліка амаль цалкам загінула ў пажары. Папы з свайго авіньёнскага палону дарылі грошы на аднаўленне храма, і пасля вяртання з Авіньёна ў 1377 г. папа Грыгоры XI прыняў гістарычнае рашэнне аб пераносе рэзідэнцыі ў Ватыкан, але ён жа загадаў упрыгожыць трэцюю базыліку велічным фасадам.

Чацвёртую базыліку, якая захавалася да нашых часоў, распачаў будаваць на загад папы Інацэнта X вялікі рымскі архітэктар Францэска Бараміні (1599–1667), які вызначыў барочны стыль храма. У 1734 г. быў завершаны галоўны фасад сабора, паводле праекта Алесандра Галілеі. У выніку зніклі апошнія рысы фасада старажытнай базылікі. У інтэр'еры ад сярэднявечнай базылікі засталіся толькі падлога, ківорый і часткова мазаіка ў апсідзе.

Базыліка адкрываецца на плошчу галоўным фасадам, які мае каласальныя прапорцыі і ў цэлым адпавядае архітэктурнаму вобразу, знаёмаму нам па ватыканскім саборы св. Пятра. Праз два ярусы пад самы антаблемэнт узвышаюцца магутныя пілястры цэнтральнага портыка на высокіх базах. Над фасадам размешчаныя скульптуры Хрыста з крыжам і святых. Яны настолькі вялікія па памерах, што яшчэ больш узмацняюць уражанне цяжкасці цэльнай архітэктурнай формы. У сабор вядуць пяць дзвярэй. Крайнія правыя дзверы — «юбілейныя», яны расчыняюцца толькі ў Юбілейны год. У інтэр'еры сабора захавалася фрэска Джота з выяваю папы Баніфацыя, які абвяшчае Юбілейны 1300 год.

Латэранская базыліка мае пяць наваў. Цэнтральная нава мае плоскую столь з вялікімі



кесонамі. Наступныя дзве навы маюць невялікія купалы, а крайнія зноў маюць плоскую столь. Інтэр'ер (вынік перабудовы пад кіраўніцтвам Бараміні), безумоўна, вызначаецца архітэктурна-пластычным рашэннем галоўнай навы — назіраецца рэдкі сінтэз архітэктуры і пластыкі, прычым скульптура імпэтна імкнецца дамінаваць у архітэктурнай прасторы галоўнай навы. Паўкруглыя аркі, аблямаваныя высокімі, пад самую столь, пілястрамі, даюць галоўны архітэктанічны рытм інтэр'еру. Сцены паміж аркамі маюць нішы, аформленыя як трыумфальныя аркі. У іх узвышаюцца фігуры дванаццаці Апосталаў. Скульптуры выкананы на пачатку XVIII ст. французскімі і італьянскімі майстрамі (П.-Э. Мано, Ф. Мараці, Л. Атоні, Дж. Мацуолі, П. Лягро, А. дэ Росі, К. Русконі). Фігуры вельмі вялікія па памерах. Іх пластыка поўная барочнай экспрэсіўнасці. Здаецца, што ім цесна нават у вялікай прасторы сабора. Над кожнай скульптурнай кампазіцыяй размешчаны таксама вялікія рэльефы, што яшчэ больш узмацняе пластычныя эфекты інтэр'ера.

Ва ўсім будынку найбольш старажытная частка, што захавалася, перажыўшы разбурэнні і рэстаўрацыі, — галоўная апсіда. Яе конха запоўнена прыўкраснай мазаікай, на якой паказана Мадонна са святымі. У цэнтры кампазіцыі — выявы крыжа і голуба — Святога Духа. Мазаіка выканана ў канцы XIX стагоддзя (ад разбуранай мазаікі XIV ст. мастакі выкарысталі ў сваёй працы ў асноўным плакеткі залатога фону).

Побач з базылікай захаваўся баптыстэрый, пабудаваны ў 440 годзе. На плошчы перад базылікай усталяваны абеліск з чырвонага граніту. Ён быў створаны ў XV ст. да н.э. у эпоху фараонаў Тутмаса III і IV і знаходзіўся ў храме ў Карнаку. Імператар Канстанцый II загадаў перавезці яго ў Рым (357 г.) і ўсталяваць у Вялікім цырку. Абеліск знайшлі ў руінах цырка, і папа Сікст V загадаў архітэктару Даменіка Фантана паставіць яго на плошчы перад базылікай (1588 г.).

У базыліцы захоўваюцца свяшчэнныя рэліквіі. Так, у папскім алтары ёсць рэліквіярыі з галовамі святых Пятра і Паўла. У саборы пахаваны 22 Рымскія Папы.

Лёс Латэранскай базылікі з'яўляецца выразным адлюстраваннем драматычных стагоддзяў гісторыі хрысціянства.

*Валеры Буйвал*

**Валеры Буйвал** — мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.

Мікола Купава

# УЖО НЕ ДАЛЁКАЯ ГАРА...



Агульны выгляд польскага мемарыяла на Монтэ-Касіна. У цэнтры крыжа — белы арол.

У траўні гэтага года споўнілася 70 гадоў ад часу штурму гітлераўскай умацаванай цытадэлі ў сярэднявечным кляштары на гары Montecassino за 120 кіламетраў на поўдзень ад Рыма. Тут стратэгічную дарогу на Рым кантралявалі спецыяльныя аддзелы вермахта. Пасля высадкі саюзнікаў на Сіцыліі ў 1943 годзе сітуацыя ў Італіі для немцаў пагоршылася: Трэці Рэйх вымушаны быў падтрымліваць ненадзейнага саюзніка на новым фронце і пасля капітуляцыі маршалка П'етра Бадольё распачаць акупацыю краіны. Але саюзнікі няспынна прасоўваліся на поўнач. Немцы разумелі стратэгічную значнасць узвышша Монтэ-Касіна — на ім і суседніх узгорках была збудавана лінія ўзмацненняў, празваная лініяй Густава. Са студзеня 1944 года было некалькі беспаспяховых спробаў узяць умацаванні. Эфекту не прынеслі і шматлікія бамбаванні з паветра. Напачатку камандаванне альянсу даручыла штурмаваць узвышша новазеландскім і індыйскім злучэнням, якія ўсе там амаль і палеглі. Тады Брытанскае камандаванне для ўзяцця Монтэ-Касіна вызначала Другі польскі корпус пад камандаваннем генерала Уладзіслава Андэрса, у якім служылі тысячы беларускіх вайскоўцаў. Акрамя таго, у атацы прымалі ўдзел брытанскія, амерыканскія, новазеландскія, паўднёва-афрыканскія і французскія аддзелы. Для заходнебеларускіх жаўнераў трапіць у польскае войска азначала вырвацца з савецкага сталінскага пекла. Яны былі ваеннапалоннымі, і хоць лічылі за вялікае шчасце, што не загінулі ў Катыні ці ў іншых лагерах, але штодня адчуваць на сабе прыніжэнне і здзекі было невыносным. Вядома, што з 120-ці тысяч польскіх ваеннапалоных і грамадзянаў розных станаў, дэпартаваных з Заходняй Беларусі, 20 тыс. складалі беларусы. Гэта паводле афіцыйнай статыстыкі. Мы мяркуем, што гэтая лічба магла быць большая. А ў Гразавецкім, Суздальскім, Старабельскім і Южскім лагерах ваеннапалонных на ліпень 1941 г. беларусы складалі 2848 чалавек, і з іх толькі 111 асобаў адмовіліся ўступаць у Польскую армію. Апрача ўсяго, шмат беларусаў запісвалася палякамі для таго, каб трапіць у Польскія ўзброеныя сілы, бо паводле загаду Народнага камітэту абароны СССР было забаронена браць у Польскае войска беларусаў і ўкраінцаў. Вось па гэтай прычыне рэальная колькасць беларусаў у Польскай арміі, што была сфармаваная ў Савецкім Саюзе з грамадзянаў былой Рэчы Паспалітай Польскай да 1939 г., якія трапілі ў савецкі палон, і дэпартаваных грамадзянаў, дакладна невядомая і сёння.

Шлях Войска Польскага з беларускімі жаўнерамі ляжаў праз савецкую Расею, Казахскую ССР, Узбекскую ССР, Іран, Ірак, Егіпет, Палестыну ў Італію. У складзе Войска Польскага пад брытанскім камандаваннем служылі такія вядомыя і выдатныя людзі з Заходняй Беларусі як Пётра Сыч — афіцэр, журналіст і пісьменнік, Вінцэнт Жук-Грышкевіч — гісторык і філолаг, у далейшым грамадска-культурны і палітычны дзеяч, Старшыня Рады БНР (1970–1982), Кастусь Маскалік — грэка-каталіцкі святар, Міхась Ляўдар, Аляксандр Надсан, Пётра Конюх, які служыў да 1945 г. і, атрымаўшы грант на вучобу, паступіў у Рымскую акадэмію мастацтваў (пасля стаў знакамітым мастаком), Яўген Русак і многія іншыя...

Пасля адпаведнай вайсковай падрыхтоўкі брытанскае камандаванне накіравала корпус Уладзіслава Андэрса ў Італію, дзе ўжо пачаліся актыўныя баявыя дзеянні саюзнікаў, і ён быў улучаны ў склад 8-й Брытанскай арміі. 23 сакавіка 1944 г. са згоды генерала Андэрса 2-гі корпус быў накіраваны на ключавыя пазіцыі нямецкай абароны каля ўзвышша Монтэ-Касіна. Тут праходзілі выдатна ўмацаваныя лініі «Густаў» і «Гітлер», якія заміналі праходзіць войскам альянса на поўнач Італіі і практычна кантралявалі тэрыторыю ад Адрыятычнага да Тэрэнскага ўзбярэжжа. Камандаванне пастанавіла штурмам авалодаць узвышшам Монтэ-Касіна, ліквідаваць абарону гітлераўцаў і выйсці на поўнач Італіі для далейшага вызвалення Еўропы.

У ноч з 11 на 12 траўня громам тысячаў гарматаў пачаўся штурм цытадэлі на дзікіх скалах гары Монтэ-Касіна. Перад гэтым амерыканская авіяцыя правяла масіраваную бамбардзіроўку ўмацаванняў вермахта. Беларускія жаўнеры змагаліся ў 5-й крэсавай дывізіі «Зубры». Асаблівую адвагу, спрыт і бясстрашша выяўлялі вайскоўцы 13-га батальёна «Рысь». Пісьменнік і журналіст Мельхіёр Ванькові апісвае адзін

унікальны гераічны эпізод гэтага штурму: 12 траўня напярэдадні батальёна ўжо не засталося аніводнага сапёра, а дарога была ўсыпаная мінамі, таму пяхотнікам давялося прабівацца самім наперад. Рыгор Булак — праваслаўны хлопец з-пад Вільні, якому міна адарвала нагу, стаў на адной назе і павёў батальён наперад, упаўшы ніцма. Другая міна выбухнула пад ім... Гэты выбух адарваў яму руку і выбіў вока... Але жаўнеры батальёна прарваліся наперад. Доўгі час меркавалі, што Булак загінуў, але яго падабралі немцы, падлячылі і трымалі ў палоне...

Нашы жаўнеры ў гэтым змаганні паказалі высокую вайсковую вывучку, бясстрашша і гераізм. Шматлікія з іх загінулі геройскай смерцю. Штурм працягваўся 7 дзён, і 18 траўня фашысты былі выбіты з Монтэ-Касіна. Войскі альянсу рушылі на Рым. Некаторыя жаўнеры ваявалі ў Італіі аж да 11 красавіка 1945 г. і скончылі вайну ўзяццем Балонні.

У 1945 г. яшчэ ў Італіі, а ў 1947–1948 гг. у Брытаніі беларускія жаўнеры актыўна ўключыліся ў беларускае культурнае жыццё. У гэты ж час пачаўся працэс дэмабілізацыі. Многія вайскоўцы вярнуліся на Радзіму, але ў 1950–1951 гг. былыя змагары з фашызмам былі рэпрэсаваныя, асуджаныя на 10 гадоў і высланыя разам з сем'ямі ў Іркуцкую вобласць. Толькі тыя ўдзельнікі італьянскай кампаніі, якія вярнуліся ў Беларусь пасля 1960 года і пазней, пазбеглі рэпрэсіяў бальшавіцкага рэжыму, а таксама тыя, хто застаўся на Захадзе. Па вяртанні на Радзіму з высылкі некаторыя камбатанты Монтэ-Касіна, нягледзячы на раненні і кантузіі пражылі доўгае і плённае жыццё. Так, напрыклад, Якуб Конан з мястэчка Бярэзінскае Маладзечанскага раёна пражыў 100 гадоў і адышоў у іншы свет у 2013 годзе.

У зялёнай даліне, ніжэй за кляштар Монтэ-Касіна (ён займае верхнюю пляцоўку гары на вышыні 527 м), збудаваны мемарыял у памяць польскіх жаўнераў, якія загінулі пры штурме нямецкай цытадэлі, і цвінтар, на якім пахаваныя ўсе жаўнеры і афіцэры Войска Польскага. На гэтым цвінтары пахаваныя і больш за 180 беларускіх жаўнераў. На кожнай магіле стаіць белы крыж з надпісам імя і прозвішча, датаў жыцця і месца нараджэння. На магілах католікаў стаяць каталіцкія крыжы, на магілах праваслаўных — праваслаўныя. Нашыя жаўнеры фактычна былі з усёй Заходняй Беларусі: Вільні, Гародні, Берасця, Ваўкавыска, Баранавічаў, Ліды, Валожына, Пінска, Браслава, Паставаў і іншых гарадоў, мястэчак і вёсак.

Мы павінны быць удзячнымі польскай дзяржаве, якая збудавала гэты мемарыял, увекавечыўшы памяць і нашых жаўнераў!

20 траўня 2014 г. у Італію прыляцела зусім невялікая група мастакоў для правядзення пленэра на месцы баявых дзеянняў на гары Монтэ-Касіна: сябры Беларускага саюзу мастакоў Алесь Цыркуноў і аўтар гэтых радкоў, а таксама сябра Беларускага саюзу народных майстроў Юрась Камандзірчык і Вітаўт Купава — выпускнік Каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка. Перакладчыцай, праваднiцай і зусім незаменным чалавекам у гэтай кампаніі была Наста Цыркунова, якая ўжо 3 гады жыве ў Італіі.



М. Купава разам з брытанскім камбатантам Монтэ-Касіна і яго ўнукам.

Зразумела, што найважнейшай місіяй нашай дэлегацыі было ўшанаванне памяці беларускіх жаўнераў, якія тут загінулі і пахаваныя на цвінтары мемарыяла Монтэ-Касіна. Да падножжа мемарыяла намі былі ўскладзеныя беларускі сцяг, кветкі і бел-чырвона-белая стужка з надпісам. Сёлета на юбілейных святкаваннях ужо не было ні беларускай дэлегацыі камбатантаў Монтэ-Касіна, ні дэлегацыі беларускіх жаўнераў з замежжа. Гэта было відаць і па тых вянках, якія ўсклалі розныя дэлегацыі свету. І мы зразумелі, наколькі важным быў наш прыезд на Монтэ-Касіна. Цяпер клопат па ўшанаванні памяці герояў італьянскай кампаніі ляжыць цалкам на плячах грамадскіх арганізацыяў Беларусі.

Наша ўдзячнасць палеглым і тым нешматлікім былым жаўнерам корпуса Андэрса, якія жывуць у вольным свеце. Нізкі ім паклон!

*Фота В. Купавы і Ю. Камандзірчыка.*



Мастак Алесь Цыркуноў на беларускіх могілках.



# Юлія Шэдзько

Юлія Шэдзько —
супрацоўніца выдавецтва «Pro Christo».
Нарадзілася 29 ліпеня 1986 года
ў Віцебску. У 2008 годзе
скончыла Мінскі дзяржаўны
лінгвістычны ўніверсітэт.
Піша вершы і прозу,
займаецца перакладамі.
Друкавалася ў зборніках
«In Vilnia veritas» (2007),
«Сьвятая праўда ды іншыя казкі»
(2010). Пераможца конкурсаў
маладых літаратараў
да 100-годдзя
газеты «Наша Ніва»
і памяці Карласа Шэрмана.
Жыве ў Мінску.

## Марыя і Марта

Марыя і Марта ў супрацьстаянні:
куды да яго ўсім астатнім дылемам гэтага свету...
Прасцей
даплысці да краю зямлі,
змайстраваць трохкутнае кола,
вынайсці восьмую ноту,
чым іх улагодзіць і звесці ў адно,
прымірыць іх і ўладзіць.

Марыя жыве
у тонкіх адценнях, спакойных развагах,
пастэльных тонах,
у цішы, музычных секундах,
празрыстым паўценю,
дзе самы кволы агеньчык ззяе,
як найярчэйшая з зораў.
Шчасліўца, што заўважае
нябачнае многім вачам,
выбірае лепшую долю;

і Марта —
вада, што ніколі не спыніцца ў руху,
разліецца і ў самым шырокім русле,
абточыць усе камяні,
раздасць нават тое, чаго не мае,
таму, хто не мае патрэбы.
Хутчэй здзівіцца, чым заплача...

Адна не жыве без другой
і з другой не можа ніяк ужыцца...

Як
на адным і тым жа дрэве
месца знайсці для яблыка ды ігрушы?
Як
на адной сцябліне
вырасціць касачы і ружы?
Калі я знайду адказ, то, напэўна, стану шчаслівай.

## Анатомія восені

Анатомію восені крэсляць маршрутамі самалётаў
І праводзяць вачыма ў тузе па ўсім вечным
і цёплым:
Каханні-свабодзе-жыцці – выцягні свой квіток
на рэйс
І ляці з усіх крылаў да іх – ці ад іх, ужо ўпотай.

Анатомію восені пішуць абдымкамі ля калонаў
Ў метро. За Эўрыдыку Арфей коле пікаю парасона
Забыццё і самую смерць,
каб ўрачыста адзначыць крэс
Неапошняга лістападу – і верыць у вернасць
да скону.

Анатомію восені вучаць па жылах кляновых лістоў,
Іх адчайных далонях, працягнутых раптам, без слоў
У апошнім «бывай» ад любімых;
а ў вогнішчах спрэс
Ўсё гарыць і ніяк не згарае іх рэха —
а ў памяці дый пагатоў.

## Іншыя дні

Бываюць іншыя дні,
Калі ўнутры
Вялікай вільготнай рыбінай б’ецца сэрца.
Цягне тванню з-пад кожных дзвярэй
і з-пад кожных павекаў,
Цвіллю зацягвае зрэнкі і вокны суседзяў зверху.
Тонкія стрэлкі аеру
Пускаюць свае карані ў ванным пакоі.
Калі хочацца кавы з карычным цукрам,
А паўсюль прапануюць «*coffee*»,
І дождж за вакном усё ліецца.
І рыбіна ў табе
Выбівае
Хвастом
Скерца
І губляе срэбныя лускі.

Яны кладуцца
Адна на адну на дно, на жаль,
Не стае ліхаманкі срэбнай,
Каб хоць камусьці была карысць.
Застаецца адно пережыць
Гэтую рыбіну ў сабе:
Загалодзіць яе, задушыць яе, засушыць,
Выпусціць у мора — там ёй і месца,
Стужкай перавязаць і падараваць нарэшце,
Пазбыцца нават успаміну аб ёй,
вільготнай і слізкай,
Загаіць гэты шнар і засадзіць кіпарысамі.

Усё!
Сёння час на іншае.
Ужо наліліся квеценню зарасці бэзу,
Распачаліся цудоўныя дні,
Духмяныя поўдні, росныя ранкі,
У Менску пачаўся Парыж,
Раптоўна здарыўся.
Напоўніў алеі ў парках, скразныя аркі ў ар-дэко,
Ваду ў Свіслачы ператварыў у віно,
Заблытаўся ў вузкіх французскіх вокнах
І ў вуснах,
Якія шэпчуць, што адчуваюць сонца
У сабе, у табе, у сэрцы.

## Лёгкасць

Мне падабаецца лёгкасць тваёй рукі,
Лёгкасць, з якою ты пішаш і крэсліш лёсы,
Прынамсі мой. А сэрца губляе рытм,
Збіваючыся з *allegro* на *meno mosso*.

Мне падабаецца жыць з табой у паралель,
Без перспектывы перасячэння. Ні ў адной
з геаметрый.
У супольнай прасторы людскіх скрыжаванняў, але
Без супольных метраў і без супольных метрык.

Мне падабаецца думаць з табою ў такт,
Ў згодзе з адвечнаю філасофіяй рытма:
Крок наперад, паклон, пагляд, два крокі назад,
На адным дыханні, але на сваіх арбітах.

І ўсё ж... Так няпроста заўжды дачакацца, калі
Насуперак ўсім тэорыям, ўсім законам прыроды
Твая рука даткнецца маёй далоні...
І мне падабаецца лёгкасць тваёй рукі.

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Увесну вяртаюцца з выраю птушкі,
Адна адлятае ў вырай,
Увесну нацягваюць лірнікі струны,
Адзін развітаўся з лірай.
Вяртання з далёкага падарожжа
Увесну чакае сэрца.
Адзін выпраўляецца ў шлях далёкі,
Паклічаш — не адзавецца.
Увесну заворваюць сейбіты ніву,
Адзін ён жніво святкуе,
А птушкі падхопліваюць на крылы
Душу і песню жывую.
Адзін выпраўляецца ў край нябліжкі,
Адзін — як прыйшоў у гэты,
Рассыпаўшы звонкія вершаў нізкі —
Аздобу і памяць свету.



# Караліна Комар

Караліна Комар — навучэнка Ліцэя БДУ (Мінск). Нарадзілася 20 снежня 1995 года ў Мінску. Піша вершы, перакладае з польскай мовы.

## Уставай!

Уставай, чалавеча, чаго ты чакаеш?
На што гэтак марна хвіліны губляеш?
Хіба ты не чуеш, як гучна і прагна
цябе кліча вязень пякельнае багны?
Хіба ты не бачыш смяротную роспач,
што поўніць шчаслівыя некалі вочы?
Ці не адчуваеш ты дух паламаны,
які безнадзейна знявечылі раны?
Ратуй жа яго, намагайся няспынна!
Ратуй яго прагна: і словам, і чынам.
Забудзься на ўласныя стому й сумненні,
нясі паратунак таму, хто ў цярпенні!
Схавай свае твар ды імя у заценні,
ачысці душу ад пыхлівых прагненняў.
Дай сэрца таму, хто ў ім мае патрэбу,
хай стане яно для галоднага хлебам!
Чаго ж ты марудзіш? Даволі, спяшайся!
Нібы да Хрыста ты бяжыш, не спыняйся!
Дзе ж ён, хто ў нястачы, хто кволы душою?
Спяшайся, то брат твой, ён побач з табою.

## Нябыт

Што мы бачым, заплюшчыўшы вочы?
Ці не цемру халоднае ночы?
Ці не змрок невымоўнае стомы?
Ці не бездані дух нерухомы?
Што мы бачым, спусціўшы павекі?
Адкажу табе: кволае рэха,
той слабы адгалосак імгнення,
што цягнулася перад стварэннем,
той нябыт, што лунаў перад словам,
той празрысты нябыт, вечна новы,
што меў Духа ў абдымках бяздоння
і для свету стаў мілым улоннем.
Затрымайся ж у ім на хвіліну
і пачуй ціхі шэпт, поўны сілы,
і адчуй усю дробнасць зямнога
перад веліччу Бога.

## Сляпы

Я аднойчы спаткала сляпога.
Ён няпэўна бадзяўся у змроку
й маляваў уяўленнем убога
анікому не бачную зорку.
Прыхаваўшы пячатку цярпення,
без увагі на сум і галечу,
ён казаў у святым захапленні
пра штодзённасці простыя рэчы.
Ён прасіў распавесці пра сонца,
бо стаміўся ад вечнае ночы,
расказаць пра зямлю ды нябёсы,
пра усмешку ды людскія вочы,
пра гаі ды пра шэрагі гораў,
пра аблокаў чароды й азёры,
пра глыбокае соннае мора,
пра ручай мітусліва бадзёры.
Я шукала найлепшыя словы
й не знайшла, ўся замёршы ў здранцвенні,
бо бяссільнаю сталася мова
прад жывой прыгажосцю стварэння,
перад светам, які быў здабыты
мукай Бога й крывёю прарочай,
што раптоўна паўстала з нябыту,
акрапіўшы сасмяглыя вочы
і адкрыўшы крыніцу натхнення
праз убогага зрэнкі пустыя.
У той момант прыйшло разуменне:
маем зрок, але ходзім сляпымі...
Дрэвы ў лесе ды кветкі на полі,
птушкі ў небе ды месяц няпоўны —
глянь вакол: свет мігоча любоўю!
Ён такі невымоўна цудоўны!
Хай жа ўсцешыцца кожны відушчы,
хай у радасці выхваліць Бога,
бо здаровыя вочы расплюшчыў
праз нямогласць і немач сляпога.

## Не праходзь абыякава міма

Не праходзь абыякава міма,
калі ўбачыш жабрачку старую.
Не рабі сваё сэрца маўклівым,
як працягне руку трапяткую.
Не зважай на апухлыя вочы,
на трывалы смурод алкаголю.
Падыдзі ды пачуй, што шапоча
сэрца ейнае, скутае болем.
Можа думаеш, гэткае ліха —
доля горшых ці духам змарнелых?
Крывадушнік! Суціш сваю пыху.
Бог аддаў за яе сваё Цела.
Паглядзі на яе, гэта — маці,
ці дачка, ці сястра, ці бабуля.
Гэта — Езус, табе абіраці,
ці дасі Яму хлеб ды кашулю.
Можа, лёс ёй жыццё перайначыў.
Можа, сэрца старое ў здранцвенні.
Як душу яе Езус прабачыў,
дай і ты ёй сваё прабачэнне.

## Не забі

«Забяры да сябе, без цябе свет не мілы...» —
шэпча маці, забойца дзіцяці свайго,
да улоння пустога, што стала магілай,
да маўклівага ўлоння, што стала ярмом.
Бо не ведала маці дзіцячай любові,
бо не знала цану немаўлячай крыві.
Разважала пустое, а сэрца малое
трапятала старанна ў адчайным біцці.
Дробна цельца было ёй пад сэрца схавана,
каб жыло яго рытмам, ягоным быццём,
існавала любоўю да мілае мамы,
што яго адарыла каштоўным жыццём,
што яго назвала нежаданым сімптомам,
што самая лягла да хірурга на стол,
што спала, калі гэта дзіцятка слабое
змардавана пад матчыным сэрцам было.
Плод прыбраны. Вядома, бо цела любое
нават родная маці ў стане забіць.
Плача дзесьці ў нябёсах дзіцятка малое.
Будзе вечна душа яго маці любіць.
«Забяры да сябе, без цябе свет не любы...» —
шэпча маці, якая забіла дзіця.
«Не забі», — кажа Пан, — бо знойдзеш загубу,
не маўчы, але будзь абаронцам жыцця».

Міхась Скобла



# Дваццацітрохкніжжа Ніла Гілевіча

Кнігі, якіх не знойдзеш у кнігарнях…

*Ніл Гілевіч. Збор твораў у 23-х тамах. — Мінск, «Кніга — Вільня», «Наша будучыня». 2003—2013.*

Навукоўцы сцвярджаюць, што творчыя людзі выкарыстоўваюць свой патэнцыял (дар Божы) усяго на дзесяць адсоткаў. Гэта як знакаміты Ружанскі палац здзіўляе і захапляе наведнікаў адной сваёй брамай, якая пасля рэстаўрацыі слепіць белізною і цешыць вока «Пагоняй» на Сапегавым гербе. Увесь астатні палац — у занядбанні, хоць і спрабуе з апошніх сілаў абняць сваімі мураванымі крыламі кожнага, хто апынецца на прасторным дворышчы.

Выбачаюся за такое параўнанне. Усе параўнанні, як вядома, кульгаюць, а гэтае, мабыць, на абедзве нагі. Палацавая брама відна здалёку, у яе можна зайсці і выйсці, а дар Божы... У якіх адзінках яго можна вымераць, у якіх маштабах разгледзець? А калі ён не вымераны, то адкуль узяліся тыя дзесяць адсоткаў?

Зрэшты, падобныя даследаванні звыклі аперавааць сярэднеарыфметычнымі паказчыкамі. Пэўна, і сярод творцаў гультаяватых хапае — аматараў да абеду ў столь пapляваць, а перад вячэрай верш напісаць ці карціну намаляваць. Але не яны пагоду робяць у краіне мастацтва. Робяць яе тыя, хто адчувае сябе адказным за дадзены ім дар. Каму многае дадзена, з таго шмат і спытаецца.

Хіба ў кагосьці язык павернецца папракнуць у лайдацтве, скажам, Максіма Багдановіча, які за такое кароткае жыццё пакінуў нам тры ёмістыя тамы, у тым ліку непераўзыдзены «Вянок»?

А хто адважыцца звінаваціць у нядбальстве Максіма Гарэцкага, які сышоў з гэтага свету толькі ўвабраўшыся ў сілу — саракапяцігадовым, даўшы нам радасную магчымасць пакласці ў падмурак беларускай літаратуры, як кутнія камяні, ягоны чатырохтомавік? (На жаль, няпоўны, з пазней давыдадзеным дадатковым томам; а колькі іх, дадатковых, яшчэ павінна быць і калісьці будзе?)

А хіба на дзесяць адсоткаў выкарыстаў свой талент Уладзімір Караткевіч, чый 25-томавік акурат цяпер выходзіць у выдавецтве «Мастацкая літаратура»? Ён распланаваў сваю працу на дзесяцігоддзі наперад — пры абавязковай «катаржнай нагрузцы». Вынікам мусілі стаць 78 тамоў — размах бальзакаўскі, але ж і ажыццёўлена з задуманага колькі! Не, не на дзесяць, а на сто дзесяць адсоткаў распарадзіўся сваім дарам Караткевіч — вялікі працаўнік, які сваімі жыццялюбнымі творамі здолеў прышчапіць многім дарэшты зняверaным беларусам нацыянальны аптымізм.

Чаму я згадаў імёны класікаў ды іхнія знакавыя, шмат у чым вызначальныя для айчыннай літаратуры зборы твораў? Бо хачу падзяліцца з вамі сваёй чытацкай радасцю ад падзеі таксама знакавай. Летась з друку выйшаў апошні том Збору твораў у 23-х тамах народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Дваццаць тры кнігі прыемнага воку нябесна-васількавага

---

**Міхась СКОБЛА** — паэт, журналіст, даследчык літаратуры. Нарадзіўся 23 лістапада 1966 г. на хутары каля мястэчка Дзярэчын Зэльвенскага раёна. У 1991 г. закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Выдаў зборнікі паэзіі «Вечны Зьніч» (1990), «Вочы Савы» (1994),«Нашэсьце Поўні», кнігу літаратурных пародыяў «Розгі ў розьніцу» (1993), зборнік вершаў для дзяцей «Камень-перунок» (1998), кнігу гістарычных нарысаў «Дзярэчынскі дыярыюш» (1999). Укладальнік анталогіі беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» (2003), шматлікіх твораў класікаў нацыянальнай літаратуры ў серыі «Беларускі кнігазбор», анталогіі перакладаў сусветнай паэзіі XX ст. на беларускую мову «Галасы з-за небакраю» (2008) і інш.

колеру — цэлая паліца. Вынік больш як паўвекавой галернай працы. Відаць, прыемна аўтару проста паставіць важкія тамы на паліцу і палюбавацца. Ёсць жа чым! Як фельдмаршалу на ратным полі пашыхтаваць свае палкі.

Першы том выйшаў адзінаццаць гадоў таму — у 2003-м. Як на наш кампутарны час, які намнога спрастоўвае шлях твора да варштата Скарыны, то нібыта і даўгавата выходзілі гэтыя 23 тамы. Але тут трэба ўлічыць адну істотную акалічнасць — свой Збор твораў Ніл Гілевіч выдаваў... сваім коштам, за сваю разлічаную хіба на тое, каб не памерці з голаду, пенсію.

І таму гэтыя 23 тамы — факт без перабольшвання ўнікальны за ўсе амаль пяцьсот гадоў беларускага кнігавыдання, сагрэтага скарынаўскім сонцам маладзіковым. Але нават Скарыну на світанні кнігадрукавання было хіба лягчэй выдаць 22 кнігі Бібліі — спрыяў жа яму «сын радцы места Віленскага» Багдан Онкаў. Сёння ж магчымыя мецэнаты над якім-небудзь беларускім праектам сем разоў падумаюць і — ні разу не адрэжуць. Небяспечна стала «адрэзваць». Вось і даводзіцца пісьменніку з імем, нават народным, разлічваць толькі на сябе.

Першы том Збору твораў выйшаў накладам 500 асобнікаў. Апошні па часе (21-ы) — усяго 70 асобнікаў. І каго тут вінаваціць? Хіба пенсійны фонд — за малую пенсію... Такім чынам, поўных камплектаў набярэцца не больш сем дзясяткаў — для галоўных бібліятэк не хопіць, не кажучы ўжо пра бібліяфілаў і зусім не ўспамінаючы пра чытачоў. Прызнаюся, мне пашанцавала апынуцца ў ліку сямідзесяці шчаслíўцаў, але гэта мяне радуе і засмучае адначасова. Так, прыемна мець кніжны рарытэт, але нашмат больш прыемна (прынамсі, мне), калі такі ж рарытэт маюць твае сябры, знаёмыя, чытачы. Таму я з радасцю сустракаю кожнае факсімільнае перавыданне нашай літаратурнай класікі. Што ж, будзем спадзявацца — калісьці і Збор твораў Ніла Гілевіча хтосьці размножыць, каб усім хапіла.

А пакуль — маем што маем. Дваццаць тры тамы-дамы, пад стрэшкамі-вокладкамі якіх знайшлі сабе прытулак паэзія і проза, драматургія і публіцыстыка, пераклады і дзённікі народнага паэта. На жаль, у адным артыкуле немагчыма расказаць пра ўсе тыя творы, якія ўзрушылі, уразілі, якія помняцца здаўна. А што магчыма? Хіба прайсціся ад тома да тома, ад дома да дома, крануцца клямкі, зазірнуць усярэдзіну. Каб чытачы гэтых радкоў займелі хоць прыблізнае ўяўленне пра Дваццацітрохкніжжа Ніла Гілевіча.

«І склаўся з кніг тых велічэзны стос — дзівіўся, гледзячы на іх, Хрыстос», — так эпічна ацаніў зробленае паэтам ягоны равеснік і сам паэт з Божай ласкі Анатоль Вярцінскі ў вершы-прыпавесці «Здарэнне ў Судны дзень, або Ніл Гілевіч як аргумент». У аўтара гэтых радкоў і блізка падобнай эпікі не атрымаецца, але ўзяўся за гуж — не кажы, што не дуж. То паспрабую пацягнуць за той гуж, вазьмуся за клямку, прыадчыню дзверы. Першы том склалі выбраныя (і вельмі патрабавальна выбраныя) вершы, напісаныя за сорак чатыры гады — з 1946-га па 1990-ы. Ужо адны іх назвы гавораць пра галоўны пажыццёвы клопат і боль паэта: «Родны край Беларусі», «Роднае слова», «Мова майго народа», «Страціў слова, страціў спадчыннае слова», «Трывайма, браты!», «Найстрашнейшы грэх»... У іх — заклік да суайчыннікаў абудзіцца, адысці ад прорвы бяспамяцтва, у іх — водпаведзь «ворагам беларушчыны», водпаведзь такой моцы і сілы, што міжволі думаеш — тут і асілак зніякавее, не кажучы пра драбноцце плюгавае. А вось жа — плодзіцца і размнажаецца тое драбноцце, як саранча...

Многія з вершаў удзячна ажываюць у маёй памяці яшчэ з гадоў студэнцтва, са школы — «Не пакідай мяне, мой светлы сум...», «Я хаджу, закаханы ў твае краявіды...», «Апошняе спатканне з Веранікай», «Апошні аўтарскі вечар Івана Мележа». І — як ластаўкі ў стрэсе — жывуць у першым томе, свіргочуць і будзяць светлае рэха ў душах чытачоў радкі, што сталі шырокавядомымі песнямі: без усялякага перабольшвання ўсенародная «Вы шуміце, бярозы», шчымлівa-ўспамінная «У бацькоўскім кутку», трапяткая «Жаўраначка». А на франтоне першага тому-дому (так мне бачыцца) — верш «Першая клятва» (дата пад ім — 1947, аўтару — шаснаццаць), які мог бы стаць эпіграфам да ўсіх без вынятку кніг Ніла Гілевіча: *«А задумае вораг з чужога далёкага краю // адабраць у мяне, знішчыць мову маю // — не дазволю. Не дам. Не прадам. Не змяняю. // І да смерці за волю яе пастаю!»*.

У другі том увайшлі вершы, напісаныя ў самае бурлівае дзесяцігоддзе (1991—2000), калі збылася мара многіх пакаленняў — на геаграфічнай карце свету з'явілася Беларуская дзяржава. Колькі скептыкаў тады заенчыла: не выжывем! без Расіі нам гамон! А Ніл Гілевіч — на той час яшчэ і дэпутат



Ніл Гілевіч і тагачасны міністр культуры Анатоль Бутэвіч каля Музея Максіма Багдановіча ў Гародні. У цэнтры — заснавальніца і дырэктар музея Данута Бічэль.



Васіль Быкаў, Станіслаў Шушкевіч і Ніл Гілевіч.

Вярхоўнага Савета, старшыня парламенцкай камісіі па культуры і захаванні гістарычнай спадчыны — адказаў усім няверцам: «Мы дойдзем! Дойдзем мы да Беларусі!». Гэтыя словы і сёння актуальныя, бо адпявалы Беларусі часам ізноў узнімаюць галас (як тут не згадаць народнае мудраслоўе: толькі ляж пад абразы — адпявалы знойдуцца).

Паэзію супрацьпаказана чытаць у цэйтноце, але калі б з гэтага тома можна было б узяць усяго пяць вершаў (памятаеце, як у школьным падручніку: для абавязковага чытання, для завучвання на памяць), то я рэкамендаваў бы наступныя: «Аповед пра чалавечнасць тырана», «Балада пра Ваньку і Маньку», «Аповед пра трубу» «Сказ пра ўзбекаў», «Малітва». З умовай — і астатнія вывучаць не факультатыўна. Бо ў кожным з вершаў — усё той жа боль, уся тая ж «любоў прасветлая». А яшчэ сваімі прысвячэннямі паэт нібы далучае да нейкага найганаровага почату ўсіх тых, хто гэтага заслугоўвае. Памятаю, завітаў я неяк у падменскую вёску Ганалес да слыннага беларускага сурмача Уладзіміра Пузыні. Гаспадар з гонарам паказаў свой хатні музей. Ведаеце, які галоўны экспанат там быў? Не старажытныя цымбалы, не дуды і жалейкі, зробленыя маэстра, а верш Ніла Гілевіча «Сурма Пузыні»!

Трэці том — гэта найперш «Родныя дзеці», першы беларускі раман у вершах. Лёс беларускай сям'і, за якою — лёс усяе Беларусі. Як жа да месца там лірычныя адступленні-абагульненні, па якіх, нібы па кладках, чытач выходзіць на магістральную дарогу, на «беларускі біты шлях» (паводле Я. Купалы). Першавыданне «Родных дзяцей» з цудоўнымі ілюстрацыямі Уладзіміра Савіча я купіў у менскай «Цэнтральнай кнігарні» 24 траўня 1985 г. (так пазначана на кнізе), перад самым адыходам у войска. Помню, перайшоў праспект, сеў у скверы на лавачку і... так і не ўстаў, пакуль не закончыў чытанне. Чытаў і на палях у адпаведных месцах упісваў цытаты са «Сказу пра Лысую гару», які яшчэ са школы ведаў на памяць. Там столькі перагукванняў было ў тэмах, у вобразах, нават рыфмы часам супадалі. Напэўна, не ў аднаго мяне тады закралася падазрэнне, што аўтар у двух гэтых выдатных твораў — адзін. А яшчэ мне падабалася, як у «Родных дзецях» высмеяна трасянка — пачварная з'ява, якую я не цярплю. Як там герой рамана Мікіта Зміцеравіч (як і купалаўскі Мікіта Зносак) гаворыць у застоллі да маці? *«У ту вужасную разруху, // благадара і вапракі, // ана не пала сілай духу: // пускала нас, как пціц, з рукі»*... Дзіўна, што ўжо ў наш час на абарону трасянкі выступіў сам старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Алег Трусаў. Ледзь не ў кожным інтэрв'ю закранае гэтую тэму. Ці не пара ўжо трасянку перайменаваць у «трусянку» — у гонар абаронцы?

Чацвёрты том адгортваюць — сатыра і гумар: фельетоны, фрашкі, эпіграмы, пародыі, замовы, «гекзаметры XXI стагоддзя». Чытаючы іх, можна было б і пасмяяцца, калі б не адно «але»: і смех Гілевіча-сатырыка прарастае з... болю. З таго самага беларускага болю, якім дарэшты прасякнутая ўся ягоная творчасць. Купалаўскіх «ворагаў беларушчыны» паэт падраздзяліў на віды і падвіды, бо не ўмяшчаюцца ўсе ў адну загародку, бо імя ім — легіён. *«Хрыстапрадаўцы, адшчапенцы, юды, // пярэваратні, выпаўзні, прыблуды, // фальшыўцы, прайдзісветы, ашуканцы, // рабаўнікі, зладзюгі, махляры, // манкурты, прыхвасні, прыстасаванцы, // урвіцелі, хапугі, махляры»* — вось яны, антыгероі твораў Ніла Гілевіча, чыю сатыру даследчыкі назвалі кінжальнай. Менавіта гэтай яе якасцю — біць напавал — захапляўся Васіль Быкаў. Пачытайце «Просьбу вернападданага Амялляна да яснавяльможнага пана», «Яго лексікон», «Быль пра вязня Гулагу і яго канваіра», «Унтэра Кадэбовіча», замалёўку «Па словах анёла» — і самі пераканаецеся: Гілевічу-сатырыку лепш пад пяро не трапляцца.

Наклад пятага тома — 100 асобнікаў, і гэта асабліва ўспрымаецца як недарэчнасць. Чаму? Бо стрыжнявы твор тома — згаданы ўжо «Сказ пра Лысую гару» — біў, б'е і доўга яшчэ будзе біць рэкорды папулярнасці. У свой час ён выходзіў статысячным (!) накладам (1991), а перад гэтым — двойчы па трыццаць тысячаў (1988). І во дзіва — разыходзіўся імгненна. Паэме можна смела прысвойваць званне «паэтычны бестселер Беларусі», бо ні раней, ні пазней ніводзін вершаваны твор не дасягаў такой папулярнасці — знакаміты «Тарас на Парнасе» заняў бы хіба другое месца.

Пра лысагорскую паэму пісалі і крытыкі-пракуроры, і крытыкі-адвакаты (толькі ў №1-2 часопіса «Крыніца» за 1995 г. — 25 артыкулаў), таму свае «тры грошы» я тут дакідаць не буду. Дадам толькі, што ў пятым томе — уся гісторыя стварэння «Сказу...» ды сведчанні яго трыумфальнага паходу ў народ у пачатку 70-х. А тыя, каго цікавіць больш блізкая гісторыя, у пятым томе несумненна звернуць увагу на восем іншых, такіх жа іскрамётных, паэмаў, сярод якіх мне асабліва да душы прыйшоўся «Сказ аб незвычайнай эпідэміі ў старажытнай Тутэміі». О які ён пазнавальны — герой паэмы Васісёр! Як казала мая бабуля — і крошачкі пабраў...

Шосты том — творы для дзяцей, самых патрабавальных чытачоў. Можна было б гаварыць пра дасягненні паэта і на гэтай дзялянцы. Але замест словаў хочацца прывесці адзін красамоўны факт. Роўна сорак гадоў таму на школьнай навагодняй ёлцы аўтар гэтых радкоў дрыжачым голасам дэкламаваў: *«Колькі смеху, колькі песень // чуецца навокала: // «Ой расла ялінка ў лесе, // стройная, высокая. // А сягоння Дзед Мароз // гэту ёлку нам прынёс»*. А летась майму сыну-першакласніку настаўніца даручыла вывучыць... той самы верш. І ён з задавальненнем, ходзячы па кватэры, паўтараў, вяртаючы бацьку ў шчаслівую пару маленства: *«Тут і воўк, і мядзведзь // паварочваюцца ледзь...»*. За дэкламацыю і бацька, і сын атрымалі салодкія падарункі, але і сам верш — як навагодні падарунак паэта беларускім дзеткам.



Пасля выступлення ў Елкаўскай СШ на Зэльвеншчыне. 2005 г.

Сёмы, восьмы і дзявяты тамы — самыя «густанаселеныя», у іх — пераклады. Вершы 175-ці балгарскіх паэтаў, 55-ці славенскіх, 23-х украінскіх, 12-ці расійскіх, 8-мі сербскіх, 8-мі харвацкіх, 8-мі лужыцкіх, 6-ці чарнагорскіх, 5-ці македонскіх, 4-х польскіх, 2-х славацкіх і аднаго чэшскага паэта склалі гэты шматгалосы трохтомавік, фактычна — анталогію славянскай паэзіі. Хто ў нас так «па-донарску» самаахвярна ахвяраваўся дзеля ўзаемаўзбагачэння славянскіх літаратур? «Па-донарску», бо перакладчык у любую хвіліну павінен быць гатовы аддаць часцінку сябе другому. Як акуратна ні перасаджанае дрэўца ў чужую зямлю, а каб прыжылося — трэба паліваць. Прыжывецца, прымецца расці — хвала перакладчыку. Перасаджанае Нілам Гілевічам — прынялося, нездарма яго перакладчыцкая дзейнасць адзначана балгарскім ордэнам Кірылы і Мяфодзія і ўкраінскім ордэнам Яраслава Мудрага.

Немагчыма пералічыць усе творчыя ўдачы Гілевіча-перакладчыка, але хоць адну назаву. Гэта белыя санеты выдатнага ўкраінскага паэта і сябра Беларусі Дзмітра Паўлычкі. Дасведчаны ў сусветным санетапісанні чытач можа затрывожыцца: чуў пра шэкспіраўскі санет, пра перавернуты, суцэльны, безгаловы і хвастаты санеты, ведаю пра вянок санетаў, а што такое — белы санет? Што ж, для ўзору — вось ён, перасаджаны з Украіны ў Беларусь і прыжыўлены тут стараннем перакладчыка. Ды так прыжыўлены, што выглядае на аўтахтона:

Павольненька ідуць сівыя коні,
Упрэжаныя ў пахавальны воз.
Ім гаспадар счасаў на вочы пасмы,
Каб не запомніўся да могліц шлях.

Яны ўсё ж бачаць трохі і праз пасмы,
Але ўдаюць сляпых — так людзям лепш.
Іх дабрыня не суцяшае ў смутку,
Іх мудрасць не развейвае журбы.

А каля воза жарабя малое.
То скубане люцэрну з-пад труны,
То забяжыць, каб да саскоў далезці,
То заіржэ, то паімчыцца ўскач, —
І дзінькае пад капытом малога
Чыясь павесялелая сляза.

Божа мой — як жа хораша! Гаворка пра пахавальную працэсію, а твор атрымаўся — жыццялюбны.

Наступныя тры тамы — дзясяты, адзінаццаты і дванаццаты — аддадзеныя пад публіцыстыку. Жанр нібыта газетны, а газета — як матылёк, жыве ўсяго некалькі дзён. Так звычайна і бывае, калі на яе старонках пануе «плыткая філасофія на глыбокіх месцах». Калі ж актуальная аналітыка спалучаецца з глыбокім веданнем тэмы, а публіцыст умее ў надзённае дадаць «трохі пра вечнае», то падаўжаецца і жыццё газеты.

Зусім нядаўна з ласкі Бібліятэкі Урублеўскіх пры Акадэміі навук Літвы ўсе зацікаўленыя займелі магчымасць «пагартаць» у сецціве падшыўкі беларускай перыёдыкі 20—30 гадоў — 210 выданняў! Большасць з іх мелі кароткі век — выходзілі год ці паўгода, нямала і аднадзёнак. Але вось адгарнуў я «Беларускія ведамасці» Максіма Гарэцкага — чытаюцца! Так і «Народная воля» праз сто гадоў будзе чытацца дзякуючы аднаму са сваіх актыўных аўтараў — Нілу Гілевічу.

І ў публіцыстычным жанры ён зацята б'е ў той самы абарончы звон, што відаць хоць бы па назвах артыкулаў: «Беларуская эстрада павінна быць беларускай» (1957), «Пакуль дзіця маё прыбягае ў сязах» (1965), «Мова, якой мы пішам» (1981), «Хто мае права ставіць крыж на нашым лёсе?» (1987), «Каб не ўмёрлі» (1991), «Калі Божы храм і народ загавораць адной мовай» (1992), «Беларусы, не станьце самазабойцамі» (1995), «Будзем жыць у Расбеле?» (2002), «Пра Купалу, Коласа і іх «музейную архаіку» (2007).

Без перабольшвання можна сказаць, што кожны артыкул Гілевіча-публіцыста меў розгалас, прычым, што называецца, і зверху, і знізу. Спашлюся на адзін толькі прыклад. 19 чэрвеня 1970 г. у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» быў надрукаваны артыкул «У чаканні рашучага павароту» — пра катастрафічнае становішча ў галіне мастацкага перакладу. Беларуская літаратура тады аказалася фактычна ізаляванай

ад замежнай класікі. Забягаючы наперад, скажу, што вынік у таго выступу быў, і вынік капітальны — праз некалькі гадоў пачаў выходзіць альманах «Далягляды». Але быў яшчэ адзін вынік, пра які грамадства не магло ведаць. Лімаўскі артыкул прачытала ў Зэльве Ларыса Геніюш, ён яе зачапіў за жывое... Неўзабаве паэтку наведаў Васіль Быкаў, які на той час жыў у Гародні, і атрымаў ад яе заданне — распаўсюдзіць, давесці да ведама творчай інтэлігенцыі і начальства даволі аб'ёмны (каля 10-ці старонак) тэкст, які меў назву «Ці наступіць ён нарэшце — гэты доўгачаканы рашучы паварот?». Пад тэкстам падпісаліся зэльвенскія настаўнікі, бібліятэкары, нават адзін дэпутат райсавету. Зразумела, што апублікаваны тэкст не быў — начальства не магло дапусціць бунту ў ціхамірнай Зэльве. Праз пэўны час В. Быкаў перадаў той артыкул свайму сябру і аднадумцу Н. Гілевічу — як натхняльніку. А летась Ніл Сымонавіч перадаў яго мне — як нібыта геніюшазнаўцу. Уважліва прачытаўшы тыя пажаўцелыя ад часу старонкі, я найперш падзякаваў паэту за зберажоны твор... Ларысы Геніюш. У мяне і каліва сумнення няма, што напісала артыкул-водгук менавіта яна — і мова, і стыль, і шрыфт машынкі, на якой друкаваны тэкст, сведчаць пра гэта. Цяпер я з дабраславення захавальніка рыхтую публікацыю таго твора-дакумента. Папраўдзе сказана калісьці: «Не дадзена прадбачыць нам, як наша слова адгукнецца».

А цяпер адкажыце мне на дзіўнаватае пытанне — хто з беларускіх пісьменнікаў самы блізкі да айчыннага тэатра? Не трывожце імёнаў Уладзіслава Галубка і Францішка Аляхновіча — яны з кагорты пачынальнікаў. А самы блізкі — Ніл Гілевіч. Ад ягонага дома да Купалаўскага тэатра — метраў з паўсотні, адно скрыжаванне перайсці... Гэта, вядома, жарт, а калі сур'ёзна, то мне незразумела, чаму ніводная з Гілевічавых п'есаў (у трынаццатым томе іх 15, сем з іх апублікаваныя ўпершыню) не была пастаўленая на сцэне. Ніводная! Я не тэатральны рэжысёр, але, на маю думку, гэта відавочная несправядлівасць. Вось я перачытаў п'есу «Начлег на буслянцы» (яна нават уваходзіла ў драматургічную анталогію) — жывыя характары, трапныя рэплікі, дынаміка, якой ва ўсе часы вымагае сцэна. Дарэчы, гэтую п'есу цаніла Зоська Верас, а ўжо яна ў тэатральным мастацтве разбіралася — сама ўдзельнічала ў пастаноўках, з карыфеямі сцэны сябравала. І тым не менш — збітая кімсьці з панталыку беларуская Мельпамена засталася безуважнай да Гілевіча-драматурга. Будзем спадзявацца — адумаецца.

У чатырнаццатым томе — проза паэта: аповесці, апавяданні, абразкі. Калісьці да ўсяго, што трапляла пад вызначэнне «проза паэта», крытыкі ставіліся паблажліва. Пэўна ж, былі ў іх дзеля гэтага прычыны, але калі разгледзецца ўшыркі і ўдоўжкі... Скажам, Міхась Стральцоў (адзін з маіх улюбёных) найперш хто — празаік ці паэт? Сам ён, па-мойму, аддаваў першынство прозе, згадайма: *«Люблю я прозы дух цьвярозы, // яе густы, зямляны дух. // Яна і жартам, як сур'ёзам, // карчы варочае за двух»*. Ну, паэзія таксама «карчы варочаць» здольная, і з прозай на расцяробах яшчэ як можа паспаборнічаць. Да таго ж, як сведчыць гісторыя, творца сам сабе — дрэнны суддзя. Пагодзімся хіба на тым, што таленавітаму пісьменніку паэзія і проза — як два крылы. Творчасць Н. Гілевіча — таксама двухкрылая, а ці не самая пруткая і «пад'ёмная» пярына ў крыле прозы — аповесць «Перажыўшы вайну». Паваеннае жыццё ўбачана ў ёй вачыма падлетка, убачана надзвычай пранікліва, псіхалагічна дакладна, да некаторых эпізодаў хочацца вяртацца. Прыкладам, мне проста ў вачах стаіць, як герой аповесці, прадаўшы два вядры вішань на Камароўцы, купляе том Пушкіна, як чытае пры газоўцы Шаўчэнку і Багушэвіча, а потым круціць жорны і сам сабе паўтарае: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі...».

Пятнаццаты том — самы жанрава разнастайны. Тут і вандроўныя нататкі (падарожжы ў Балгарыю і Славенію), і інтэрв'ю, і мовазнаўчыя абразкі, і невялічкія эсэ пра выдатных дзеячаў беларускай культуры (У. Конана, Я. Глебава, І. Лучанка, Я. Сіпакова, З. Санько), і забаўныя гісторыі з жыцця пісьменніцкай браціі. Апошнія — гэткі сабе «Сказ пра Лысую гару» ў прозе, пачнеш чытаць — не адарвацца.

Бяру ў рукі наступныя тамы — шаснаццаты і сямнаццаты — і міжволі ўспамінаецца эпіграма Н. Гілевіча, што мільгнула недзе ў папярэдніх тамах, але засела ў памяці: *«Паэт на дачы з'еў ранет, // а потым напісаў санет // аб тым, які ён розны, сьвет, // і розныя паэты: // чатырохсоткавы паэт // і паўгектаравы паэт, // зямлі бацькоўскае паэт, // паэт усёй планеты»*. Дык вось, прачытаўшы ў названых тамах 58 эсэ (штрыхі да партрэтаў) пра беларускіх творцаў і 104 эсэ (часам вельмі сціслыя) пра творцаў замежных, кожны можа супаставіць маштабы — хто *«зямлі бацькоўскае паэт»*, а хто *«паэт — на ўвесь свет»*. Праўда, чатырохсоткавых паэтаў у тых эсэ, здаецца, няма ніводнага, ім даніну памяці паэт аддаў у той жа лысагорскай паэме. А тут на покуць свае ўдзячнасці змясціў толькі самых-самых. Калі хто хоча прайсці паскораны курс айчыннай і славянскіх (асабліва балгарскай) літаратур — рэкамендую гэтае Гілевічава двухтом'е пад агульнай назвай «Паэты і пісьменнікі Беларусі і замежных краін».

Майстар-клас па мастацкім перакладзе Н. Гілевіч даў у васямнаццатым томе — на прыкладзе перастварэнняў з паэзіі балгарскай. Шкада — урокі гэтыя, улічваючы досвед майстра, маглі б быць больш разгорнутымі. У тым жа томе — грунтоўнае даследаванне пра «Маладняк» — самую масавую ў гісторыі Беларусі літаратурную арганізацыю (больш за 500 сяброў!). Тамсама — па-бацькоўску цёплыя водгукі на кнігі таленавітай моладзі — Алеся Чобата, Алеся Каско, Паўла Змітрука, Віктара Шніпа, Эдуарда Акуліна... Ведаю, як яны да гэтай пары цэняць гэтыя адрасаваныя ім, сказаныя на дарогу словы.

Чарговыя тамы — дзевятнаццаты і дваццаты — я бяру ў рукі са шкадаваннем. У іх — фальклярыстыка. А шкадую я аб тым, што спазніўся паступіць на філфак БДУ, дзе мае папярэднікі слухалі Гілевічавы лекцыі па фальклоры. Пра гэтыя лекцыі я неаднойчы чуў і на тлумных філфакаўскіх калідорах, і ў студэнцкіх інтэрнатах, пра тыя лекцыі ўспамінаюць і сёння (сам не раз быў сведкам) настаўнікі-беларусаведы па ўсёй краіне. Адна настаўніца ў Слоніме прыгадвала: «Я ж да гэтай пары берагу канспекты тых лекцый. Ніл Сымонавіч адкрываў нам сапраўдную паэзію ў народных песнях. Мне і сёння гучаць у памяці радкі з песні — прызнанне ў каханні: «Я ж твае ножкі не памарожу, я ж твае ножкі ў шапачку ўложу». І сапраўды — якая пяшчота! І як шкада, што не пачуў я своечасова тае паэзіі. Не пачуў, але прачытаць тыя знакамітыя лекцыі, дзякуючы Збору твораў, магу.

Дваццаць першы том склалі выбраныя старонкі з дзённікаў. 536 старонак за амаль паўстагоддзя жыцця — не так і шмат. Праўда, дзённік апублікаваны далёка не ўвесь, скажам, сярод выбранага зусім не аказалася запісаў з 1964-га па 1977 год. Ды і на іншых часавых адрэзках сустракаюцца гадавыя лакуны. Дзённік — гэта заўсёды асабістае, часам занадта суб'ектыўнае, у ім выяўляюцца адносіны аўтара да тых ці іншых асобаў. Рэцэнзаваць дзённік — увогуле справа бессэнсоўная, тым болей што ў запісах Н. Гілевіча фігуруе і аўтар гэтых радкоў — як «Заслужаны Тамада Рэспублікі»...

І ўсё ж пра факталагічную каштоўнасць дзённіка сказаць колькі словаў мушу. Знаходзячыся шмат гадоў у гушчыні падзей (першы сакратар Саюза пісьменнікаў, сябра Прэзідыума Вярхоўнага Савета), Н. Гілевіч шмат што бачыў і чуў, а часам і сам станавіўся эпіцэнтрам тае ці іншае падзеі. Таму чытацкая ўвага ягонаму жыццяпісу (у будучых перавыданнях) забяспечаная — найперш з боку гісторыкаў. А мне, прыкладам, было цікава спраўдзіць афіцыйнае стаўленне СП да той жа Ларысы Геніюш. І яно адшукалася ў запісах ад 7 і 8 красавіка 1983 г.: «Вечарам стала вядома, што памерла Ларыса Геніюш. Пазваніў Мальдзіс, яму Пяткевіч... Цэлы дзень у клопатах пра пахаваньне Л. Г. Толькі з Гародняй — чатыры тэлефонныя размовы. Галоўны клопат ЦК у тым, каб неяк прыбраць, захапіць архіў...». Вакол архіва паэткі тады сапраўды распачалася цэлая эпапея, урэшце «захопнікі» мусілі адступіць, але гэта — зусім іншая тэма.

Працяг (дакладней — пачатак) дзённікаў знаходзім і ў дваццаць другім томе. Запісы, зробленыя цягам трох месяцаў далёкага 1947-га. Прачытаў я і міжволі ўсміхнуўся — які ў падлетка, перажыўшага жахі вайны, поцяг да прыгажосці! Усяго два запісы — чатыры словы: *«1 мая. Чуў зязюлю. 5 мая. Чуў салаўя»*. Усё. А яшчэ ў перадапошні том увайшла новая кніга паэзіі, ці не перадчасна названая аўтарам «З Божай ласкі — дасеўкі» (выйшла сёлета і асобным выданнем). Перадчасна, бо дакладна ведаю — сяўня



Маскоўскі беларус Аляксей Каўка і Ніл Гілевіч. 2014 г.

Ніла Гілевіча далёка не пустая, і яшчэ выйдзе сейбіт сеяць на нівы свае.

Нарэшце, зазірнем у том апошні — дваццаць трэці. Паводле аўтарскага вызначэння, яго склалі «ўспаміны пра жыццёвы шлях і роздум пра лёс Айчыны». Хтосьці з дасціпнікаў у свой час заўважыў, што мемуарамі ў старасці добра выпраўляць памылкі маладосці. Пэўна ж, ёсць і такія мемуарысты, чые запісы не шкодзіла б прапускаць праз «дэтэктар праўды». Што да ўспамінаў Н. Гілевіча, то я чытаў іх без усялякіх дэтэктараў, мне проста цікавае яго жыццё, кола ягоных сяброў, кола інтарэсаў.

Асабліва мне сагрэў душу адзін эпізод — прыём Зоські Верас у Саюз пісьменнікаў. Дзевяностагадовая пісьменніца жыла ў лесе пад Вільняй, зусім не атрымліваючы пенсіі, а сяброўства ў СП хоць неяк забяспечвала б яе старасць. Але ўзнікла праблема — фармальна Зоська Верас не была грамадзянкай Беларусі, чаго патрабаваў статут саюза. І першы сакратар СПБ падказаў бліжэйшаму да Вільні Генадзю Каханоўскаму — прапішыце часова яе ў Маладэчне. Што і было зроблена. Зоська Верас атрымала пісьменніцкі білет і пенсію, а Ніл Гілевіч — вымову ад ЦК КПБ за прыцягненне ў саюз «усякага старэчча і ператтварэнне аўтарытэтнай творчай арганізацыі ў багадзельню».

Удзячная Людвіка Антонаўна са свайго Панарскага лесу пра клапатлівага кіраўніка СПБ напісала яшчэ адной «правінцыялцы» — Ларысе Геніюш, а з Зэльвы ў адказ: «О, Ніл Гілевіч — гэта жывіцель пустыні». Сёння Ніл Сымонавіч мог бы ганарыцца — яго чытачкамі і прыхільніцамі былі гэтыя дзве незвычайныя жанчыны, абедзве — радныя БНР.

Дзве родныя, сугучныя ў беларускай прасторы душы, дзве вялікія беларускі, дзве Антонаўны несумненна парадаваліся б Збору твораў Ніла Гілевіча, ягонаму Дваццацітрохкніжжу. Што ж, за іх давайце парадуемся мы і выкажам аўтару ўдзячнасць — за веліч зробленага.

# Уладзімір Сіўчыкаў



Малюнак Арлена Кашкурэвіча.

Уладзімір Сіўчыкаў — пісьменнік, мастак, выдавец. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Закончыў Мінскую мастацкую вучэльню імя А.К. Глебава (1977) і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта (1986). Аўтар кнігі апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант» (1992), кніг прозы «Лісты да брата» (1998), «Бювар» (2009), кнігі паэзіі «Высакосны год» (2004), слоўніка-даведніка «2000 русских, 2000 белорусских идиом...» (сумесна з А. Баярынай, 2006). Укладальнік (разам з Аляксеем Марачкіным) і адзін з аўтараў альбомаў «Жодзінцы. Жывапіс. Графіка. Мастацкае слова» (2008), а таксама «Рыцары Пагоні і Арла» (2010). Жыве ў Мінску.

## Лёневы наватворы

Паляшук паводле паходжання, Фёдар Дастаеўскі ганарыўся тым, што здолеў увесці ў рускую мову свой аўтарскі неалагізм – слова «стушеваться».

Ураджэнец Давыд-Гарадка Леанід Дранько-Майсюк і ў гутарковай мове, і ў літаратурнай творчасці ўпарта і падкрэслена скарыстоўвае два ўласныя словатворы – «далькажык» у значэнні «мабільнік, мабільны тэлефон» і «асветар» у сэнсе «інтэрнет».

Хочацца ўсклікнуць: «А даражэнечкі ж ты мой Лёнечка! Пры ўсяе да Цябе любові і павазе дазволь усумніцца, што прыжывуцца гэтыя сімпатычныя слоўцы ў нашае мове!».

Чаму? Ды таму, што «далькажык» прапануецца як беларускі аналаг грэцкаму слову «тэлефон» (*tele phone* – далёкі гук). Але, па-першае, і даўно звыклыя, ад часоў Антонія Меучы і Аляксандра Бела, стацыянарныя тэлефоны дазвалялі і дазваляюць не толькі далёка казаць, але і здалёк чуць. Па-другое, мабільнік вызначаецца не толькі тым, што яго можна практычна заўсёды мець пры сабе. Гэта яшчэ ледзь не кампутар у кішэні ці ў дамскай сумачцы. Самая просценькая мадэль дае мажлівасць не толькі аператыўна перамаўляцца, але і абменьвацца тэкставымі і графічнымі пасланнямі, здымаць фота- і відэасюжэты, бавіць час за гульнямі. Сёння можна скарыстоўваць мабільны і як FM-радыё, калькулятар, гадзіннік, будзільнік, таймер, каляндар, слоўнік, даведнік, нататнік, можна выходзіць з яго ў інтэрнэт і ў сацыяльныя сеткі!

А Internet – гэта найперш глабальная сетка для сувязі, атрымання і распаўсюду інфармацыі, а асветніцтва – толькі адна з ягоных шматлікіх функцый. Да таго ж само слова «асветар» успрымаецца хіба што як сінонім слова «асветнік».

Натуральна, лексіколагі могуць увесці абедзве гэтыя лексемы ў слоўнікі і праілюстраваць адпаведныя артыкулы цытатамі з апавяданняў Ленаніда Дранько-Майсюка, але пакуль што не даводзілася чуць, каб карыстаўся імі хтосьці, акрамя самога паэта.

Ды я быў бы зусім не супраць праз колькі год пераканацца, што абодва вынайдзеныя словы па-сапраўднаму прыжыліся ў нашае мове, што імі шырока і ахвотна карыстаюцца не толькі калегі-пісьменнікі і журналісты, але і ўвесь люд паспаліты.

*21 лютага 2010 года,*
*у Сусветны дзень роднае мовы.*



Уладзімір Сіўчыкаў і Генадзь Бураўкін
на выставе «Жодзінцы»
ў Палацы мастацтваў у Мінску.
6 лютага 2008 г. Фота Антона Матолькі.

## Тапанімічныя рэзервы

Атрымаў ад жодзінскага краязнаўцы Галіны Аніскевіч электроннае пасланне. Напісала яна і пра тое, што ў раёне кавальскага завода цяжкіх штамповак работнікі выканкама далі новым вуліцам найменні: Вілейская, Мядзельская, Салігорская, Слуцкая, Смалявіцкая, Смілавіцкая, Пухавіцкая...

Зразумела, гэта куды лепей, чым сталічныя Алтайская, Амурская, Ангарская, Байкальская, Ілімская, Іркуцкая, Томская, Хабараўская... І ўсё ж.

Анічога не маю супраць гарадоў, ухваленых выканкамаўцамі ў назвах вуліц. Больш за тое, можна і трэба вітаць найменне Смалявіцкая, бо з аднайменным горадам Жодзіна крэўна знітаванае, узнікла на ўсходняй ускраіне Смалявіччыны як Жодзіна Слабада. Узнікла ў 1643 годзе пад першапачатковай назваю Багуслаў Поле, якую дасведчаныя гісторыкі лічаць скажоным Багуслаў Полісам (*Boguslaw-polis* — горад, што належаў яго заснавальніку князю Багуславу Радзівілу). Зазначу, што раней найменні вуліц мелі ў сабе канкрэтыку, неслі сэнсавую нагрузку. Калі вуліца звалася Смалявіцкай, дык і вяла яна абавязкова ў бок Смалявічаў. На жаль, сёння гэты прынцып занядбаны: побач паралельнымі ці перпендыкулярнымі могуць аказацца, скажам, Дняпроўская і Нёманская.

Як арганічную можна прымаць і Смілавіцкую. Вуліца з такой назваю ўзнікла ў XVII стагоддзі адной з першых побач з Менскай, Барысаўскай, Жодзінскай.

Але як абгрунтоўваюцца астатнія назвы-наватворы? Проста з павагі да адпаведных гарадоў і іх жыхароў? Тады як вызначаць прыярытэты? У Беларусі ёсць самастойная адміністрацыйная адзінка Мінск, шэсць абласных цэнтраў, дванаццаць гарадоў абласнога падпарадкавання і сто васямнаццаць райцэнтраў — рэзерв для падобных найменняў, лічы, невычарпальны!

Найменні вуліц паводле беларускіх гарадоў, вядома ж, больш мілагучныя і не такія грувасткія, зсаветызаваныя і недарэчныя, як, скажам, «50 гадоў Кастрычніка», на якой давялося жыць і мне.

Але хацеў бы прасіць не толькі жодзінскіх выканкамаўцаў звярнуць увагу на яшчэ адзін натуральны рэзерв для вулічных найменняў. Гэта назвы вёсак, хутароў і ўрочышчаў, якія паглынуў горад. Магу прывесці як мінімум тры-чатыры аргументы на іх карысць.

Па-першае, гэта дазволіла б захаваць этнічную і гістарычную памяць пра іх. Па-другое, гучаць яны прыгожа і натуральна — варта толькі ўслухацца: Дубовы Лог, Дымкаўка, Крушыннікі, Ракітаў Кут, Яловіца. Па-трэцяе, яны непаўторныя. Малаверагодна, што яшчэ недзе знайшліся б вуліцы з назвамі Баршчоўка, Касьё, Ліпавая Клець, Падасоўе, Цітаўка...

І ўрэшце, гэта было б зусім невялікай платаю, прабачэннем за знішчаныя сялібы перад тубыльцамі і прашчурамі, а таксама данінаю памяці пра іх.

*30 траўня 2013 года*

## The are more things...

З электроннай рассылкі атрымаў ліст Анатоля Сідарэвіча, які пазіцыянуе сябе як публіцыста, літаратурнага крытыка, гісторыка, а таксама крытыка камуністычнай ідэалогіі:

«З жніўня.

Пішу, працягваю пісаць успаміны пра Адамовіча. І раптам вельмі захацелася пазваніць ягонай дачцэ, Наталлі. Размаўляем, і я дазнаюся, што сёння сапраўдны, а не пашпартны дзень нараджэння Алеся Міхайлавіча. У дадатак высветлілася, што Наталля сёння на радзіме Алеся Міхайлавіча, у Глушы, толькі што пабывала на бацькавай магіле. Містыка! Чаму менавіта сёння захацелася ўзяцца за стары адкладзены тэкст? Чаму менавіта сёння захацелася патэлефанаваць Наталлі?»

Адказаў спадару Анатолю цытатаю з класіка ў сваім перакладзе:



У катэдральным храме г. Вісбі. 27 верасня 2012 г.

*The are more things in heaven and earth, Horatio,*
*Then are dreamt of in your philosophy.*
(William Shakespeare. Hamlet.)
*Шмат рэчаў ёсць на свеце, мой Гарацыё,*
*Што і не сняцца нашым мудрацам!*
(Уільям Шэкспір. Гамлет.)

Дадаў таксама, што з задавальненнем згадваю колішнюю аўтобусную паездку на вераснёўскае, «пашпартнае» 80-годдзе класіка ў Глушу, куды запрасіла Наталля Адамовіч і пра якую нагадваюць мне найперш архіўныя фотаздымкі. Наведалі тады з Вольгай Іпатавай, Валянцінам Тарасам, Сяргеем Законнікавым і іншымі калегамі-літаратарамі магілы Алеся Міхайлавіча і ягоных сваякоў, пабылі ў бацькоўскім доме класіка і пры зачыненай аптэцы, якую меркавалася пераабсталяваць пад мемарыяльны музей, выступілі на вечарыне ў Доме культуры.

Сеў пераглядаць свае даўнія запісы і неверагодным чынам натрапіў на сваю містычную згадку.

Аніколі не было ні раней, ні пасля, каб у офісе па маім працоўным стале па кнізе «Беларуская літаратура і свет. Папулярныя нарысы» паўзла маленькая, але не чырвона-чорная, а шэрая, з сямю жоўтымі кропачкамі багоўка. У большасці еўрапейскіх моваў гэты сімпатычны і карысны людзям жучок імянуецца як Божае стварэнне. У англамоўных краінах завуць яго *Ladybird*, *Lady Beetle, Ladybug*, дзе *Lady* атаясамліваецца з Дзевай Марыяй, а таму літаральна перакладаецца як птушка ці жук Дзевы Марыі. Мабыць, таму і лічыцца, што забіваць багоўку нельга ні ў якім разе.

Толькі выпусціў яе ў акно, як пачуў званок дамафона.

Завітаў Уладзімер Арлоў, які прынёс і падпісаў мне кніжку сваіх заакіянскіх падарожных нататак і эсэ «Божая кароўка зь пятай авэню»! Можа, і да мяне прылятала багоўка з тае авеню?

Але і на тым дзівосы не скончыліся! Аказваецца, Уладзя парэкамендаваў і мяне дэлегатам на Міжнародную канферэнцыю па дзіцячай культуры і літаратуры краін Балтыйскага рэгіёну, бо дэбютаваў я ў выдавецтве «Юнацтва» кнігаю апавяданняў і п'ес «Гульня ў тастамант», прапрацаваў шэсць гадоў у часопісе для дзяцей і падлеткаў «Бярозка» дый як выдавец і складальнік спрычыніўся да тузіну дзіцячых арыгінальных і перакладных тамоў, да чытанак і хрэстаматый.

Не мінулася і чвэрць гадзіны, як сышоў мой цёзка, — патэлефанавала Лена Пастарнак, дырэктарка і добрая фея Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў, што ў горадзе Вісбі на шведскай выспе Готланд, і афіцыйна запрасіла на канферэнцыю!

Мажліва перакажу тое спадару Сідарэвічу як алаверды на ягоны мэсыдж:

«7 жніўня.

Дзякуй за Ваш ліст. Вярнуўшыся 1 верасня з адпачынку, я пастараюся даць на яго адказ».

Можа, напішу яму і пра іншую містычную праяву.

Здаецца, нямала сіл і часу паклаў, каб папулярызаваць асобу дзяржаўнага і ваеннага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага, мецэната, фактычнага заснавальніка майго роднага Жодзіна князя Багуслава Радзівіла. На мастацкай выставе «Millennium» пабачыў бюст князя Багуслава, які стварыў Аляксандр Бацьвінёнак, і напрасіўся да скульптара ў майстэрню. Там ён прызнаўся, што ствараў вобраз нашага славутага суайчынніка, памятаючы і пра бюст французскага караля Людовіка XIV, аўтар якога — найвыбітнейшы скульптар і дойлід італьянскага барока Джавані Ларэнца Берніні. Пагадзіўся, што было гэта цалкам абгрунтавана. Па-першае, «кароль-сонца» быў у далёкім, але ўсё ж сваяцтве, з нашым славутым земляком, а праз тое ласкава прымаў яго ў Вярсалі. Па-другое, Джавані Берніні і Багуслаў Радзівіл былі сучаснікамі. Яны нават маглі перастрэцца, але Багуславаў дзядзька, выхавацель і апякун Януш Радзівіл, наказаў пляменніку як заўзятаму падарожніку наведваць толькі пратэстанцкія краіны. А Італія, і тым болей Ватыкан, дзе пераважна жыў і працаваў Берніні, былі і ёсць краінамі каталіцкімі. А па-трэцяе, сам князь Багуслаў быў асобаю няўрымслівай, баракальнай!

Аказалася, што і ў Аляксандра Бацьвінёнка ў Жодзіне жывуць сваякі. Больш за тое, князеў бюст разглядаў ён як праект помніка заснавальніку горада і нават распрацаваў архітэктурную прывязку да плошчы з будынкам былога гарсавета, а цяпер краязнаўчага музея.

Перайшлі былі на зусім ужо прыватныя рэчы, і я сказаў, што ўсцешаны тым, што, як і князь Багуслаў, нарадзіўся 3 траўня.

Скульптар моўчкі выцягнуў з нагруднай кішэні свой пашпарт, у якім за дату нараджэння гэтаксама значылася 3 траўня! Хіба не містыка — гэткае неверагоднае супадзенне?!

*7 жніўня, 14 верасня 2013 года*

### Мемуарны дзень

Прыемна было пабачыць праз некалькі гадоў даўняга знаёмца, які завітаў праведаць дый не дужа спяшаўся, што здараецца даволі рэдка.

З Сяргеем Чыгрынам знаёмы яшчэ з універсітэцкага філфакаўскага студэнцтва. Мы з ім аднагодкі дый абодва Мікалаевічы. На сваіх курсах былі старэйшымі за іншых студэнтаў: за плячыма ў яго ўжо было Магілёўскае культасветвучылішча, у мяне — Мінская мастацкая вучэльня і два працоўныя гады, а таксама па два гады салдатчыны.

Пагарталі разам альбом амаль пяцігадовай даўніны «Філалагічны факультэт. Да 70-годдзя заснавання». Згадалі выкладчыкаў, паэтычны гурток «Узлёт» незабыўнага Алега Антонавіча Лойкі, перакладчыцкі семінар Вячаслава Пятровіча Рагойшы, купалаўскія імпрэзы ў Вязынцы.

А іншае адносна нядаўняе паэтычнае свята прыгадвалі з асаблівым задавальненнем. Апошнім вераснёўскім днём 2007 года ў Сынковіцкай царкве-крэпасці ўпершыню прайшоў Дзень беларускай хрысціянскай паэзіі. Быў ён прымеркаваны да 600-годдзя славутага храма, у адкрыцці і асвячэнні якога браў удзел сам вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Вітаўт разам з жонкай Ганнаю!

Дзень хрысціянскай паэзіі таксама пачаўся з набажэнства, якое адслужыў цяперашні настаяцель царквы айцец Арсеній Ананка. Вёў фэст Міхась Скобла, родны хутар якога каля мястэчка Дзярэчын, усяго за некалькі кіламетраў ад Сынковічаў.

Паэты Зьніч (брат Мікалай) і Алесь Клышка прэзентавалі сваю новую супольную кнігу «Шлях да Жыровічаў». Аўтарка аповесці «Прадслава» пра Еўфрасінню Полацкую Вольга Іпатава чытала свае вершы пра знакамітых сыноў Бацькаўшчыны. Анатоль Вярцінскі зацеміў выдатную традыцыю — чытаць вершы ў храмах і, натуральна, агучыў свае паэтычныя радкі. Пранікнёна і ўзнёсла гучала ў храме песня на словы Уладзіміра Дубоўкі «О Беларусь, мая шыпшына!», якую выканала салістка сталічнай філармоніі Тацццяна Матафонава.

На вокладцы маёй паэтычнай кніжкі «Высакосны год» адлюстраваны Сынковіцкі храм, а таму



Каля возера Вітава на Вушаччыне з пісьменнікамі Уладзімірам Арловым, Рыгорам Барадуліным і Ірынай Жарнасек. 22 жніўня 2006 г.

чытаць вершы з яе пад старажытнымі скляпеннямі было надзвычай узрушліва.

Пазнаёміў гасцей свята са сваімі вершамі і мастак-графік Рыгор Сітніца, ахвотна далучыўся да яго фотамайстра Яўген Пясецкі, не маглі не парадаваць землякоў ураджэнцы Зэльвеншчыны Юрка Голуб і Сяргей Чыгрын.

Свята ў царкве скончылася супольным выкананнем гімна на словы Наталлі Арсенневай «Магутны Божа», а доўжылася на пляцоўцы перад адрэстаўраванай званіцаю, дзе спяваў бард Андрэй Мельнікаў, а на дудзе граў Зміцер Сідаровіч.

На развітанне Міхась Скобла прэзентаваў айцу Арсенію зборнік эпісталярнай спадчыны Ларысы Геніюш «Каб ведалі». Слынная паэтка была сапраўднай хрысціянкай і напісала шмат духоўных вершаў. Паэтычная восеньская імпрэза прадоўжылася ў Зэльве, дзе паэты і музыкі ўсклалі кветкі да помніка Ларысы Геніюш пры царкве і на яе месца спачыну на тамтэйшых могілках.

Сяргей Чыгрын нечакана для гасцей Зэльвеншчыны абвесціў яшчэ адзін юбілей — стагоддзе хаты, у якой прайшлі ягоныя дзіцячыя гады, — яна стаіць амаль што па дарозе на Мінск, таму з задавальненнем наведалі і вёску Хадзявічы, прывіталіся з Сяргеевымі сваякамі і аднавяскоўцамі.

А вераснёўскім днём праз шэсць гадоў у маім цяперашнім доме абмяняліся мы з Сяргеем і сваімі сугучнымі навінкамі. Я падпісаў яму «Залатую яблыньку» — чытанку, складзеную з беларускіх казак, легенд і паданняў, а ён пакінуў памятныя дэдыкацыі на «Легендах і паданнях Слонімшчыны» і на «Слонімскім буквары», зборніку гісторыка-краязнаўчых нарысаў і своеасаблівым даведніку па горадзе і раёне.

*15 верасня 2013 года*

Ірына Саматой



# «Калі душы адкрыецца бясконцасць…»

## Філасофская лірыка Яна Чыквіна

Вядомы беластоцкі паэт, перакладчык, гісторык рускай і беларускай літаратур, доктар гуманітарных навук, прафесар Ян Чыквін — адзін з тых, хто стаяў ля вытокаў беларускага адраджэнскага руху ў Польшчы другой паловы XX ст., дзякуючы яго намаганням быў аб'яднаны літаратурны рух на Беласточчыне (з 1989 г. ён старшыня літаб'яднання «Белавежа»). Вершы Яна Чыквіна фарміраваліся на скрыжаванні трох славянскіх культураў — беларускай, польскай і рускай. Гэта вельмі самабытная паэзія, беларуская па сваёй сутнасці і ў той жа час далучаная да агульнаеўрапейскага культуралагічнага кантэксту. Ян Чыквін дэбютаваў на старонках «Нівы» ў 1957 годзе. Аўтар зборнікаў паэзіі «Іду» (1969), «Святая студня» (1970), «Неспакой» (1977), «Кругавая чара» (1992), «Свет першы і апошні» (1997), «Крэйдавае кола» (2002), «Жменя пяску» (2008), «Адно жыццё» (2009), «На беразе Дубіч Царкоўных» (2010), якія выйшлі ў Беластоку. У Мінску быў выдадзены зборнік Яна Чыквіна «Светлы міг» (1989), які адкрыў шырокаму колу беларускіх чытачоў новае імя. У перакладзе на польскую мову выйшлі яго кнігі «На парозе свету» (Варшава, 1983), «Сонечная вязь» (Ольштын, 1988), «Адпачынак ля перасохлай крыніцы» (Беласток, 1996) і інш. Яго пяру належыць кніга крытычных артыкулаў «Далёкія і блізкія: Беларускія пісьменнікі замежжа» (Беласток, 1997), шэраг артыкулаў па гісторыі беларускай і польскай літаратур, выданне анталогіі рускай паэзіі 1840—1895 гг. (на польскай мове; Варшава, 1984), падручнік беларускай мовы для 7 класа (суаўтар; Варшава, 1992).

Паэзія Яна Чыквіна — з'ява адметная, палемічная, з уласнай канцэпцыяй светабачання. Першае месца ў ёй адведзена інтэлектуальнаму і філасофскаму кірунку. Пастаянны зварот да агульначалавечых праблемаў, роздум над вечнымі пытаннямі быцця, пошук нацыянальнай ідэі і яе выяўленне, медытатыўнасць, заглыбленасць у сусветны культуралагічны і філасофскі кантэкст, метафарычнасць, форма- і вобразатворчы эксперымент вызначаюць арыгінальны мастацкі стыль чыквінаўскай паэзіі. Па словах У. Калесніка, «Агульны настрой і стан душы Яна Чыквіна задуменны, медытацыйны, ён адпавядае ладу беларускай песні, балады, паэт выяўляе хібнасць свету, але і яго дасканаласць, гармонію, хараство... Фантазія ў Яна Чыквіна не простая, чытаць яго вобразы часам даводзіцца з напругай, а часам і пакідаць фрагменты неразгаданага падтэксту. Але, нягледзячы на ўскладнёную чытальнасць, а, можа, і дзякуючы ёй, чытача агортвае адчуванне велічнасці лёсу чалавека і фатальнага трагізму пражывання адпушчанага яму часу» [5, с. 19].

Філасофскія аспекты паэзіі Яна Чыквіна, а менавіта элегічную танальнасць, антынамічнасць светабачання, інтэлектуальны трагізм, матывы фатальнасці, расчаравання неаднаразова асэнсоўваліся беларускімі і польскімі літаратуразнаўцамі У. Гніламёдавым, У. Конанам, У. Калеснікам, Л. Зарэмбай, А. Сямёнавай, А. Раманчуком, Т. Занеўскай, В. Смашчам. Падкрэслівалася набліжанасць яго інтэлектуальнай лірыкі да вялікай мудрасці Эклезіяста і філасофіі М. Хайдэгера, Ж.-П. Сартра (У. Конан), да найноўшых літаратурных і філасофскіх пошукаў (Э. Феліксяк, В. Смашч).

Змястоўна даследуе паэтычны свет Я. Чыквіна, як і ўвогуле феномен беластоцкіх пісьменнікаў, Т. Занеўская ў сваіх кнігах «Дарэмнае падарожжа», «А душа знаходзіцца на Усходзе», «Вартавыя памяці». Даследчыца разгледзела ідэйна-эстэтычную сутнасць лірыкі паэта, звярнулася да архетыпаў і ключавых сімвалаў яго паэзіі, да супрацьпастаўлення двух «шляхоў вяртання» — шляху Адысея (у сваю родную Ітаку) і шляху Энея (будаванне «новага дома» — Рыма на ўзор Троі). Крытык адзначыла, што

талент Я. Чыквіна сфарміраваўся на памежжы беларускай і польскай культураў, яго паэзія знаходзіцца на мяжы явы і сну, рэальнасці і мары, дня і ночы, што, як слушна заўважыў У. Конан, уласцівае паэзіі М. Багдановіча. Аднак, разглядаючы паэтычны свет «белавежца» ў кантэксце агульнаеўрапейскага мастацтва і філасофіі, даследчыца павярхоўна закранула нацыянальны аспект яго творчасці, адраджэнскія ідэі.

Такім чынам, можна сцвярджаць, што паэзія Я. Чыквіна выклікала значны рэзананс у літаратуразнаўстве, прымусіла загаварыць аб сабе як аб супярэчлівай, неадназначнай эстэтычнай з'яве, у якой скандэнсаваліся элементы разнастайных мастацка-культуралагічных і філасофскіх кірункаў.

Пяты зборнік паэзіі Я. Чыквіна пачынаецца вершам «Крык начной савы», у якім задаюцца пытанні, што заўсёды хвалявалі філосафаў:

*Што ёсць быццё? Што — чалавек? Што — Бог?*
*Чаму нікому нельга лёсу перайначыць?*
*Не адсумуе смутак нашых усіх зямных трывог —*
*З вачэй злятае белы голуб плачу.*

*І што ёсць час — рака ці акіян?*
*Вытокі дзе яго? І дзе яго скрыжалі?*
*Смыліць бяскрылы лёт жыцця, нібы павеў фіранкі, —*
*З вачэй злятае белы анёл жалю.*

*А чым свабода ёсць? — Для розуму,*
*для сэрца й рук —*
*Цудоўны божы дар? Пыхлівы чалавечы мык?*
*Чаму ўсё жыццё свой камень пхаем пад гару?*
*Адгадкі ў свеце, мабыць, ёсць... Але не выкажа язык.*
[11, с. 7]

Архетып гэтага трагічнага бачання жыцця, непрыманне паэтам злога і бессэнсоўнага ў свеце цесна звязаны з філасофіяй экзістэнцыялізму і знаходзіць сваё ўвасабленне ў вершах, напісаных на мяжы 50–60-х гадоў XX ст., што склалі зборнік «Іду» (1969); яны сведчаць пра схільнасць паэта да аналізу розных праяваў жыцця, пра яго пошукі ў пазнанні сутнасці чалавека. У вершах Яна Чыквіна няма паспешлівых думак і спрагназаваных высноваў. Усе яго творы-зярняты, перад тым як з'явіцца ў друку, доўгі час выспяваюць да залатога колеру збажыны ў душы. Доказ гэтаму і тое, што толькі праз дзесяцігоддзе ўбачыў свет першы зборнік паэта, якому папярэднічалі публікацыі 1959 года. Кожны верш гэтай кнігі вытрымаў праверку высокай патрабавальнасцю аўтара, і чытач адразу зразумеў, што ў плыні «белавежскай» літаратуры сфарміраваўся новы каларытны творца.

Кампазіцыйна зборнік складаецца з двух ідэйна-тэматычных раздзелаў: «А дом наш недзе...» і «Вобраз твой нясу», якія дазваляюць прасачыць пэўныя этапы ў развіцці творчай індывідуальнасці паэта.

Увагу чытачоў і крытыкаў прыцягнула і па-маладому вітальнае, радасна-трывожнае ўспрыманне жыцця, і трагічнае бачанне яго канфліктаў. Відавочна, таму малады паэт шукаў выратавання ў самых светлых успамінах: дзяцінства, бацькі, родны дом — гэтыя вобразы складаюць архетып «малой радзімы» ў паэзіі Я. Чыквіна. Шматколернымі фарбамі малюе ён свой родны кут, рэальнае месца недалёкага яшчэ дзяцінства ў вершы «Гайнаўшчына»:

*Ружамі пахнуць вятры надвячоркамі,*
*Гнездзіцца ў гушчарах маўчанне горкае.*
*Арэшнік да вуха рабіну клоніць,*
*Бяроза ўздыхае ў лёгкім паклоне.*
*Суседка ціхутка суседцы шапоча,*
*На пяску вецер пакідае свой почырк* [7, с. 23].

Рамантычна-замілаваны паказ краіны дзяцінства з уласцівымі яму колерамі, пахамі, гукамі, формамі, настальгія па страчаным гучаць у вершах «Дубічы, Дубічы», «Дзяцінства», «Пакіну на квітненне. Сэксціна». Пагодзімся з У. Конанам, які заўважыў пераклічку гэтых твораў з раннімі вершамі Р. Барадуліна і Н. Гілевіча. Мудрае барадулінскае «Трэба дома бываць часцей», над сутнасцю якога не ўладарны час, стала ідыёмаю, маральнаю формулаю паэтычнай кнігі беластоцкага аўтара:

*Я жыць хачу, як вы жылі:*
*Сярод палёў, звяроў і чыставоддзя,*
*Здалёк ад гарадоў, машын*
*І цывілізаваных паводзін* [7, с. 25].

Адчуваецца і набліжанасць паэзіі Я. Чыквіна да светапогляду нямецкага філосафа М. Хайдэгера, які ў сваіх артыкулах «Час і быццё», «Адлучанасць» гаворыць аб адносінах чалавека, культуры і тэхнікі, заклікае чалавецтва зноў укараніцца ў глебу, з якой яго вырвала імклівае развіццё тэхнічнай цывілізацыі. Праца М. Хайдэгера «Закон тоеснасці» гучыць як непасрэдны расказ аб інтэлектуальным перажыванні, якое выклікана крызісам рацыяналістычнай традыцыі Захаду і ростам адчужэння чалавека ад духоўных прадуктаў сваёй дзейнасці. Асноўная задача філасофіі М. Хайдэгера — сысці з памылковага шляху заходняй цывілізацыі і вярнуцца да забытых вытокаў мыслення, да сапраўднага быцця. Менавіта гэтая думка нямецкага мысляра глыбока выявілася ў творчасці беластоцкага паэта.

Паступова ўсё больш выразна ў зборніку «Іду» пачынае гучаць матыў непазбежнага змянення «вясковай культуры», матыў трагічнасці, безвыходнасці, выкліканы, па словах У. Конана, «канфліктам паміж архетыпамі спрадвечнага сялянскага быцця і сучаснымі цывілізатарскімі тэндэнцыямі, паміж бацькоўскім домам і нацыянальна неабжытым горадам. Гэтыя канфлікты адклікнуліся ў душы паэта дысгармоніяй паміж наяўным жыццём і маральнымі імператывамі» [6, с. 47]. Прадвеснік гэтага трагіз-

му — смерць жаўрука над жнівеньскім полем, які «замоўк раптоўна, струны абарваўшы...» («Дзяцінства»). Вынік пакінутага, разбуранага цывілізацыяй вясковага раю — дом «...як далёкія ўспаміны... // Без дзвярэй, без тынку і вокан» («А дом наш недзе...»), які нагадвае хутчэй труну, чым зямное прыстанішча чалавека. Пра трагедыю беларускага быту загаварыў нават Дом з аднайменнага мадэрнісцкага верша:

*Я роспач, скарга. Я — руіна.*
*Я — боль. Я — слёзы. Я — праклён.*
*Я ток, што не згіне.*
*Я кожны захад нашых дзён.*
*Я сыплюся. Шкілет. Я выбух.*
*Я — сімвал. Я — смяротны ўспамін.*
*Я — крой. Я — наша глыба.*
*Я — песня смутку і ваш гімн* [7, с. 20].

Шматзначна падаецца архетып беларускай хаты ў гэтым маналогу-споведзі. Напаўразбураны дом сімвалізуе страчаную культуру, і паэт намагаецца аднавіць хаця б у сваіх вершах «ойчы дом» і ўсе вобразы, што звязаныя з ім: «светлая студня з жураўлём успамінаў», «садок, душа найлепшая з душ». Паэтычная фантазія паэта надае гэтаму свету большую выразнасць: у ім над роднай вёскай «міску неба трымае бусел», тут «пераліваюцца гадзіны ў вядро юнацтва з возера дзяцінства», «бярозы апускаюць рукі ў крыніцы», «трымае лес над галавой вянцы».

Два архетыповыя планы сустракаюцца ў вершах зборніка «Іду»: бацькоўскае вясковае гняздо і гарадская цывілізацыя, якая не адразу расчаравала паэта. Рэальны свет прымушае яго лірычнага героя клапаціцца пра сваю душу: свядома выбіраць не спосаб прыстасавання, а рашуча ісці па дарозе жыцця, пазбаўленага будзённасці, мітуслівасці, звычайнага існавання. Яго шлях усыпаны перажываннямі, успамінамі і разуменнем немагчымасці вярнуцца ў адносна натуральны свет:

*За акном пустэча,*
*смутак ў пакоі*
*Чым сэрца лячыць*
*у такім спакоі?*
...
*Узбураныя хвалі думак*
*Б'юцца аб бязлюдную прыстань* [7, с. 22].

Другі зборнік Я.Чыквіна «Святая студня» (1970) пацвердзіў уменне паэта эмацыйна, пластычна ўзнаўляць навакольны свет, яго схільнасць да яркай метафарычнасці, канкрэтнага паэтычнага бачання, свежасць светаўспрымання. Поспех Я. Чыквіна перш за ўсе звязаны з вянком санетаў «Святая студня», народжанага ў выніку падарожжа па тых мясцінах Крыма, дзе бываў Адам Міцкевіч. Лірычны герой — самотны вандроўнік, вечны пілігрым — блізкі аўтару сваім тонкім адчуваннем шматграннасці жыцця, пакутлівымі пошукамі «святой студні» — страчанага бацькоўскага дома:

*Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая айчына!*
*Дзяцінства босае, замурзанае лета,*
*Святая студня з жураўлём ўспамінаў,*
*Сезам, дзе ўсё маё ляжыць у фрагментах.*

*Даўно я гэты дзіўны горад кінуў,*
*Як усё, што хочаш ці не хочаш ў Лету.*
*На сценах памяці вісяць партрэты*
*Выразных і яскравых сёння ласк матчыных.*
*Дарога ўсё вышэй, вышэй пад гору...*
*Назад сыйсці, вярнуцца да пралогу?*
*Дык мацярынства — як гарачка ў хворага!*

*Іду сваёй нятоптанай дарогаю*
*І чую праайчыны подых —*
*Бягу на Аю-Даг, гляджу на Чорны воды.*

Архетып страчанага дома як важнейшай маральнай апоры ў катастрафічна зменлівым свеце — адзін з дамінуючых вобразаў у тагачаснай лірыцы Я. Чыквіна. Ён персаніфікуецца, паўстае ў выглядзе гарманічнага ранейшага: «Цалаваць былое так хочацца!» («Даспелае сонца»), прыгожым лесам, які не прымае чалавека, «бо прырода зненавідзела прыроду» («Іду лесам»), восеньскім садам, замкнёным «на ключ журавоў» («Шчасце»).

Пастаяннае прыгадванне віны перад малою бацькаўшчынаю, якую паглынула ўрбаністычная цывілізацыя, не з'яўляецца паэтычнай дэкларацыяй: у пасіянарным светаадчуванні Я. Чыквіна спавядальнасць — вельмі адказны філасофскі матыў. Ён якраз і вымагае пастаяннай працы сумлення ў пагадненні ўзаемаадносінаў лірычнага героя з навакольным светам. Гэтыя ўзаемаадносіны пабудаваныя і на непасрэдным шчырым прызнанні ў любові да малой бацькаўшчыны, і на адчуванні ўласнай віны перад згубленым вясковым дзяцінствам, і на разуменні немагчымасці мастака-творцы эстэтычна ўладкаваць свет па законах гармоніі і хараства:

*На ўсе лады*
*Скуголіць*
*Наша слепата,*
*У зайздрасці*
*Няведама куды*
*Імчыцца.*
*Ніхто на свеце ўжо*
*Не слухае паэтаў* [12, с. 7].

У пошуках сэнсу творчасці, якая б магла супрацьстаяць жорсткай для душы мастака рэчаіснасці, Я.Чыквін роспачна трактуе творчы працэс як «крыж для новага распяцця» ў вершы «Майстэрня паэта»:

*Няма ні славы, ні багацця —*
*адно скрыпучае пяро*
*тырчыць з чарнільніцы рабром*
*і крыж для новага распяцця* [12, с. 21].

Настроем безвыходнасці, трагізму, смутку на-

поўненыя вершы «Сны», «Зноў адзінокі», «Бяздомнасць» , «Трывожная раніца», дзе паэт разважае над крыніцамі літаратурнага таленту, і ўсё ж, на нашу думку, сэнсавай дамінантай і агульным кампазіцыйным стрыжнем сталася яго наступная сентэнцыя: «Агню я аддаю свой груз,// Паверыўшы ў паэзіі крыло». Гэты верш, па словах Л.Зарэмбы, «адрыў ад „грузу“ рэальна-побытавых думак, пераход у мысленне паэтычнае, новае, асэнсаванне ў ім сябе і каштоўнасцяў жыцця».

Абодва першыя зборнікі Я.Чыквіна засведчылі імкненне паэта да аналітычнага аналізу жыццёвых з'яваў, яго тонкае і ўдумлівае пранікненне ў эмацыйна-духоўны свет асобы, што было ўласціва наватарскай думцы XX стагоддзя. Адзін з арганізатараў і ініцыятараў беларускага руху ў Польшчы, былы рэдактар тыднёвіка «Ніва» Г. Валкавыцкі ў сваіх нататках пісаў: «Як пралескі з-пад застойнага снегу прабіліся падвесну паэтычныя зборнікі Яна Чыквіна «Іду» і «Святая студня». Чаму два адразу? Пачынаўся новы раздзел у нашай выдавецкай дзейнасці. Раней паміж «белавежцамі» ішло спаборніцтва, хто выдасць таўсцейшы зборнік. Прыйшоў і Чыквін да святой студні з адным вядзерцам. У міжчассе адбыўся з'езд, змянілася начальства. І калі я параіў прэзідыуму выдаць Чыквіна дзвюма кніжкамі (склад ужо быў гатовы), новы сакратар Янка Зенюк падтрымаў мяне, і мы пачалі намаўляць аўтара на пахудзенне з расчляненнем. Чыквін, як заўсёды, паўпарціўся, але, адчуўшы добры намер, пагадзіўся. Шукальніку настрою і метафар лягчэй цяпер «паэзіі магнітным полем» весці чытачоў да сваёй крыніцы» [12, с. 124].

Трэцяя кніга Я. Чыквіна «Неспакой» (1977) — гэта паглыбленне ў сферу пытанняў агульначалавечай значнасці, спроба даць адказ з пазіцыі разумення свайго «я», яго судачыненняў з існым і вечным. С.Яновіч у прадмове да яе зазначыў: «Чыквін — паэт задуменняў. Паэт пытанняў. Лірык інтэлекту. Выхаваны на сутыку беларуска-польска-рускай традыцыяў» [10, с. 2]. Філасофская, медытацыйная танальнасць зборніка, схільнасць да рэфлексіі, самааналізу абумоўлены жыццёвым вопытам, спасціжэннем набыткаў сусветнай культуры. Лірычны герой — духоўна сталы чалавек — жыве з усведамленнем хуткаплыннасці часу, прызнаннем наканаванасці як непазбежнасці, што абумоўлівае песімістычна-задуменны лад асобных радкоў:

*А людзі, што праходзяць у маўчанні побач*
*Мяне — ужо чвэрць чарвяка,*
*паўдрэва ці мо каменя,*
*Не бачаць, як б'юся аб нябыт я лбом,*
*Як прагна шчэ жыцця чапляюся рукамі.*
*Адно жыццё на ўсё жыццё — як гэтага нямнога!*
[10, с.19]

Разам з тым, відавочныя аптымістычныя сігналы здаровай радасці жыцця, узнёслай акрыленасці: «Мы жывём. Якая радасць гэта...». І тут жа нечаканы алагізм, сугучны экзістэнцыянальным канцэпцыям і вучэнням: «Мы жывём. Аднойчы і нікуды». Непрадказальнасць і зменлівасць знешняга і ўнутранага свету абумоўліваюць «глыбіню падтэкстаў і знарок непадатлівую шурпатасць» [10, с. 2] вершаў Яна Чыквіна, схільнасць да ўраўнаважання трагічнага і гуманістычнага ў светаразуменні:

*А пакуль жывём — няхай са звонам*
*Расшчапляюцца ў лабараторыях атомы.*
*Мы жывём і сілы невядомыя*
*Гатовы запрэгчы ў сані фатановыя* [10, с. 19].

Ян Чыквін — глыбокі, тонкі лірык. У той жа час ён — аўтар эпічных малюнкаў з дакладнымі, «прадметнымі» рэаліямі, абрысамі адлюстраваных з'яваў. Сведчанне таму — вершы «Гурзуф», «Званок. Перапынак» і інш.

Ян Чыквін, выхаваны як паэт на беларускай (М. Багдановіч) і рускай (А. Фет) класіцы, не мог абысці вопыту еўрапейскага неафармізму. Сум і бязвер'е з прычыны непазнавальнасці свету і неразгаданасці чалавечага «я» пераплятаюцца са спакойнай жывапіснасцю, мірнай сузіральнасцю, фальклорна-славянскім бачаннем краявіду. Пейзажныя малюнкі не падаюцца безадносна стану душы лірычнага героя, яго ўнутранага жыцця. Мастацкая ўражлівасць паэта, поўная пантэістычных настрояў, як бы яднае праявы жыцця прыроды і тонкія зрухі душы лірычнага героя. Усё гэта сведчыць аб тым, што лірыка Я. Чыквіна блізкая паэзіі М. Багдановіча. Дакладнае адчуванне прыроды, роздум над «вечнымі» праблемамі і пытаннямі гучаць у наступных радках паэтаў:

*Пала раса; у палёх*
*Загарэліся пацеркі мілых*
*Жоўта-чырвоных агнёў...*
*Час, калі трэба журыцца*
*Душою на свежых магілах*
*Пуста пранёсшыхся днёў.*
М.Багдановіч

*Усе было справядліва ў прыродзе —*
*Далёка дзесьці была недарэчнасць*
*Адвечнай смерці, што прыйдзе і пойдзе,*
*А ўсё-такі нешта пакіне на вечнасць.*
Я.Чыквін

Багдановічаў адзінокі інтэлігент, вытанчаны, далікатны, падвержаны песімізму і смутку з прычыны недасканаласці свету і людзей, а часам акрылены гарманічным зліццём душы чалавека і прыроды, — духоўны брат чыквінаўскага інтэлектуала з трагічным бачаннем жыцця, з імкненнем пазнаць неспазнанае, разгадаць чалавечае «я». Сцвярджэнне Эклезіяста пра тое, што «ў вялікай мудрасці шмат смутку, і хто множыць веды, той шмат пакутуе» (пар. Экл 1, 18) у поўнай меры адносіцца да лірычных персанажаў абодвух паэтаў.

Найбольш удалым у філасофска-духоўным плане атрымаўся зборнік Яна Чыквіна «Кругавая чара» (1992). Гэта кніга чалавека, які глядзіць на свет вачыма тых, «каму за сорак», і тых, хто «пазначаны ўжо ценем смерці», хто ўмее даражыць жыццём.

У зборніку «Кругавая чара» дамінуе матыў катастрофы, смерці, прадбачанне канца жыццёвай дарогі («Калаж», «Геаметрыя пятніцы»), але адносіны лірычнага героя да вызначанага рубяжа спакойныя і мудрыя, нават абыякавыя (вершы «Сядзім...», «За цішынёю самоты», «Трывожная альба»). Сустракаюцца вершы, у якіх пераважае дамінанта гармоніі душы і быцця, імкненне да вечнага руху-змагання.

Канцэптуальнай асновай, ідэйным цэнтрам чарговага зборніка Я. Чыквіна «Крэйдавае кола» (2002) з'яўляецца асэнсаванне пройдзенага жыцця, погляд на мінулае «з вышыні гадоў». Кніга глыбокафіласафічная, з песімістычнымі экзістэнцыянальнымі матывамі, са шматлікімі рытарычнымі пытаннямі. Метафарычнасць і вобразнасць вершаў ускладняе іх успрыманне і разуменне. У спосабе разважання аўтара адсутнічаюць пэўныя строгія законы; у Яна Чыквіна «логіка мастацкага светаўспрымання арганічна суадносіцца не толькі са сферай свядомасці, але і працэсамі падсвядомага, а таксама ўласцівымі крэатыўнаму намаганню праявамі звышсвядомасці [1, с.145]. Першы верш зборніка — «Vita mea» («Маё жыццё») вызначае агульны настрой кнігі. Аўтар разважае над жыццём, якое ўяўляецца яму замкнёным колам, палонам у прамежку чужога лёсу. Экзістэнцыянальныя матывы самоты, імкнення і немагчымасці вырвацца (*«Нідзе не ўцячы, хоць ірвешся...»*, *«Ніхто не заве. І не будзе клікаць...»*) спалучаюцца з усведамленнем няспыннасці жыцця («Замыкаецца кола лёсу»). У гэтым вершы дысгармонію лёсу чалавека паэт параўноўвае з суладнасцю прыроды: лісце бярозы, што серабрыцца пад шаўковым ветрыкам жніўня, проціпастаўляецца чалавеку, які не можа ўцячы з жыцця, як з палону:

*Ніхто не заве. І не будзе клікаць, —*
*Як срэбны вецер кліча бярозы!* [9, с. 5]

Матывы пошуку выйсця, імкнення збегчы з няволі выразна бачацца ў вершах «Прагнасць жыць паўсюль. Але дні грукочуць...» і «Лягла імгла на паплавах...». У тэксце «Трысмутэніі» асэнсаванне пройдзенага шляху, усведамленне таго, што часу застаецца ўсё менш і менш, сканцэнтравана ў пытанні «Ці мог інакш я?» і адказе: «Відаць не мог» [9, с. 19]. Таямнічасць, трагічнасць і разлад у вершы «Фантасмагорыя» перадаюцца лексічным напаўненнем: «усё маркотна», «змрочны лёс», «даўкі жаль», «павуцінне болю», «дрэва смерці». Судакрананне матываў жыцця і смерці вызначае кантраснае, дысананснае гучанне канцоўкі твора:

*— Я памерла б, будзь на тое воля...*
*За акном, там, гэта ці не дрэва смерці?*
*— Хай Гасподзь ратуе і дае надзею!*
*Там усё жывое...іней упрыгожыў голле* [9, с. 14 ].

Крыху змяншае песімістычнае ўражанне і надзейная выснова верша:

*Будзем, будзем, Божа, у Бога верыць!* [9, с.14].

Адным з самых дзейсных спосабаў стварэння мастацкага вобразу ў вершах Я. Чыквіна з'яўляецца метафарызацыя. Так, на аснове агульнай метафары пабудаваны верш «Насільшчык амфары», дзе жыццё, час уяўляюцца як каштоўнае віно, што абачліва нясуць у амфары:

*Але ж ідзеш, нясеш і сябе трымаеш у змане,*
*Што не паспее высахнуць яно ўсё і ўцячы,*
*Што будзе доўгае, яшчэ з віном, вяртанне* [9, с. 37].

У зборніку «Крэйдавае кола» заўважна выразная арыентаванасць аўтара на фарміраванне ідэі адухаўлення рэчаў, надання ім ролі лірычных герояў: тут «прынцыповыя адрозненні паміж з'явамі жывой і нежывой прыроды здымаюцца, а наяўнасць душы лічыцца ўсеагульнай уласцівасцю макра- і мікракосмасу» [1, с. 146]. У рэчах, згодна з гэтай канцэпцыяй, ёсць і розум, і пачуцці; яны падуладныя фізіялагічным працэсам. У вершы «Неспакметна выглянуўшы ў вечнасць...» смуткуе вопратка, кінутая паняй. Жывы, адухоўлены вобраз поля намаляваны ў аднайменным вершы «Поле». Яно ўяўляецца аўтару «зялёнацелай амёбай», якая «штогод прыходзіць пад хату»

*і просіць вады кварту*
*і мяккага ценю дрэваў* [9, с. 33].

Аўтар дасягае эфекту ўзаемадзеяння асобы з нематэрыяльнымі субстанцыямі ў вершы «Прыдарожны бар», дзе бяроза «няшчасніца, што валасы ірве на сабе ззелянелым рухам», [9, с. 42], спазнаўшы недасканаласць боскага свету. Свет прадметаў і з'яў у вершах беластоцкага паэта надзелены душой, здольнасцю ўспрымаць сваё біялагічнае існаванне, арганічна ўліваецца ў каардынаты часу:

*Там рэчы ўсе займелі прастату і шырань*
*І чысты час прымае ўрэшце форму кола* [9, с. 37].

Жывёльна-раслінныя і рэчыўна-прадметныя вобразы ў мастацкай сістэме паэзіі Я.Чыквіна ўспрымаюцца як спроба стварэння ідэальнага свету ўзаемаадносін чалавека з прыродай, як мікрасвет у яго ідэальным праяўленні.

Сакрат Яновіч характарызаваў Яна Чыквіна як «паэта пытанняў». Вызначальным творам у гэтым плане з'яўляецца верш «Размова з сяstriou», у якім сінтэзуюцца ўсе найбольш заўважныя асаблівасці зборніка, акрэсліваецца яго ідэя: «Жыццё імкнецца ў форму кола...» [9, с. 50] Вобраз кола праходзіць праз усю кнігу — так аўтар акцэнтуе ўвагу на ідэі бесперапыннасці жыцця і разам з тым — марнасці,

безвыходнасці. Як жыццё і смерць, трагізм і жыццесцвярджальнасць, кола ў Я. Чыквіна з'яўляецца сінтэзам цёмнага і светлага: белы колер «крэйдавага кола» ахоўвае чысціню, святло, усё становіцца ад цёмных сілаў.

Ян Чыквін праявіў сябе і як стваральнік цікавых неалагізмаў: *асонцаўляецца трава, кругліцца сонца, не матуліцца, не татуліцца, замурашыць, завокнены пакой, абклуненыя людзі, спадзейна, сонцазвон.* З гэтых наватвораў бачна, што ў зборніку «Крэйдавае кола» аўтар працягвае сваю ранейшую «сонечную» сімволіку.

Імкненне спазнаць сябе і свет, высокая эмацыйнасць, спалучэнне трагізму з надзеяй, імкненне адшукаць адказы на спрадвечныя пытанні — вось вызначальныя адметнасці зборніка «Крэйдавае кола». Неяк паэт заўважыў: «У творчасці колькасць не пераходзіць у якасць. Ёсць шмат людзей, у якіх тысячы вершаў, але — святы Божа! — там няма паэзіі» [9, с. 82].

Найноўшая лірыка беластоцкага паэта шырока пададзена ў зборніку «На беразе Дубіч Царкоўных» (2010), цудоўных нізках духоўных вершаў у «Літаратурнай Беларусі», «Тэрмапілах».

Сцвярджаючы хрысціянскія каштоўнасці, творча выкарыстоўваючы біблійныя сюжэты і вобразы, паэт адмаўляецца ад іх гучнай дэкларацыі, напаўняючы мастацкую тканіну твора няўлоўнай боскай прысутнасцю, этыкай Божых паводзінаў. «Дзе скарб ваш, там будзе і сэрца ваша», – узгадваюцца словы са Святога Пісання, калі ўслед за паэтам праз дзясяткі гадоў, пазначаных мудрасцю і пралікамі, вопытам і стратамі, вяртаешся ў незабыўны свет маленства. Матыў успамінаў вярэдліва прысутнічае ў вершы «Калі сонца сыходзіла з дахаў», у якім аднаўляецца фрагмент вясковай ідыліі: сям'я ў вечаровай цішы слухае развагі бацькі пра сакральныя, неспасцігнутыя таямніцы вечнага:

*Ну што ж,–*
*аднойчы сказаў,– і мы*
*яшчэ раз*
*зможам пайсці па вадзе.*
*Збудуем свой дом.*
*І з вокан сваіх*
*будзем на ўвесь гэты*
*дзіўны свет глядзець.*

Сцішанай журбой па былым напоўнены вершы «Жнівень — душны, балючы» з метафарызаваным пейзажным малюнкам, «які быў ратунак-шчасце» з эмацыянальным-натуральным жаданнем дарослага чалавека «забыцца, што свет існуе ў свеце // І пра сябе нічога не ведаць». Успаміны прыводзяць лірычнага героя да драматычнага ўсведамлення ўласных і гістарычных варункаў: «А побач сцежка лёсу // Айчыны маёй без айчыны».

Моцнае ўражанне пакідае верш «Дарагія мае, бяспраўныя, засмучаныя», прасякнуты гарачай любоўю да бліжняга, разуменнем чалавечай і боскай вартасці кожнага. Часам паэт узвышаецца да кранальнай пяшчоты пачуццяў:

*Людзі добрыя, пакрыўджаныя,*
*зняверaныя,*
*Пастаўленыя ў сітуацыю без*
*выбару,*
*Змушаныя валачыць бядотнае*
*існаванне,*
*Хадзіць у цярновым вянку*
*змагароў,*
*Быць прыкладам евангельскай*
*змірэннасці,*
*Быць потам і соллю сваёй зямлі*
*І заўсёды камусьці служыць*
*падсцілкай.*

Жыццё лірычнага героя паэзіі Яна Чыквіна — гэта шлях успрыняцця і ўвасаблення Божых запаведзяў, праяўленне ўнутраных рэфлексій, роздумаў аб трансцэндэнтным, вечным. Часам, з уласцівай яму іроніяй, паэт падкрэслівае ролю «няведамага сусветнага гакера», які правакуе боскія праграмы, «змушае летуценіць, жыць без толку // Ды слоў баяцца — тых, пасланых наўздагон нябёсам». Духоўная лірыка беластоцкага творцы — надзейны сродак ажыццявіць трывалую сувязь з нябёсамі.

Такім чынам, інтэлектуальна-філасофская лірыка Яна Чыквіна — з'ява шматмерная, складаная, палемічная, якая мае неардынарную сферу існавання — беларуска-польскае памежжа, арганічна ўпісваецца ў рэчышча сучаснай беларускай літаратуры, а таксама ў агульнаеўрапейскі культуралагічны кантэкст. Вызначальнымі рысамі яе з'яўляюцца элегічны настрой, меланхалічная танальнасць, антынамічнасць светабачання, інтэлектуальны трагізм і катастрафізм. І ў той жа час паэзія Яна Чыквіна — шчымлівы покліч да святла, дасканаласці, гармоніі чалавечага свету, спадзяванне на вышэйшую справядлівасць і жыццёвую мудрасць чалавецтва.

**ЛІТАРАТУРА**

1. Брадзіхіна, А. Пошук ісціны, або «Сінестэзія пачуццяў і сімультанізм думкі»/ А. Брадзіхіна // Тэрмапілы. — 2003. — №7. — С. 23 — 27.
2. Валкавыцкі, Г. Віры / Г. Валкавыцкі. — Беласток: Белавежа, 1991. — 184 с.
3. Гніламёдаў, У. Літаратурнае жыццё на Беласточчыне: паэзія, проза, крытычныя рэфлексіі / У. Гніламёдаў // Полымя. — 1995. — № 3. — С. 136 — 147.
4. Зарэмба, Л. «Дзень і ноч — два крылы князя...»: Пра мастацкую сістэму «Светлага мігу» / Л. Зарэмба // Сляза пякучая Айчыны: Творчы партрэт Яна Чыквіна. — Беласток: Белавежа, 2000. — С. 102 — 118.
5. Калеснік, У. Два светы Яна Чыквіна / У. Калеснік // Сляза пякучая Айчыны: Творчы партрэт Яна Чыквіна. — Беласток: Белавежа, 2000. — С. 12 — 41.
6. Конан, У. Быццё і час у люстэрку паэзіі: Нататкі пра творчасць Яна Чыквіна / У. Конан // Сляза пякучая Айчыны: Творчы партрэт Яна Чыквіна. — Беласток: Белавежа, 2000. — С. 42 — 57.
7. Чыквін, Я. Іду / Я. Чыквін. — Беласток: Белавежа, 1969. — 88 с.
8. Чыквін, Я. Кругавая чара / Я. Чыквін. — Беласток: Белавежа, 1992. — 50 с.
9. Чыквін, Я. Крэйдавае кола / Я. Чыквін, — Беласток: Белавежа, 2002. — 74с.
10. Чыквін, Я. Неспакой / Я. Чыквін. — Беласток: Белавежа, 1977. — 54 с.
11. Чыквін, Я. Свет першы і апошні / Я. Чыквін. — Беласток: Белавежа, 1997. — 54 с.
12. Чыквін, Я. Святая студня / Я. Чыквін. — Беласток: Белавежа, 1970. — 50 с.
13. Яновіч, С. Неспакой творчасці / С. Яновіч // Чыквін, Я. Неспакой . — Беласток, 1977. — С.2.
14. Чыквін, Я. Вершы / Я. Чыквін // Тэрмапілы. — 2013. — № 17. — С. 83–87.



# ВЯРТАННЕ ДА ВЫСТАВЫ «ДЗЕСЯЦЬ СТАГОДДЗЯЎ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ»

*Выстава «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі», якую прэзентаваў у сакавіку–ліпені Нацыянальны мастацкі музей Беларусі, засталася прыемным успамінам. У нацыянальным маштабе гэта была вельмі значная падзея для жыхароў нашай краіны — яе наведала шмат аматараў мастацтва і проста зацікаўленых людзей. Экспазіцыя пакінула незабыўнае ўражанне і пачуццё гонару ад таго, што і мы маем на што паглядзець і паказаць гасцям. На выставе было прэзентавана каля 500 экспанатаў з 30-ці музеяў Беларусі і прыватных збораў. Экспазіцыя ахоплівала перыяд ад часоў Візантыі і да сучаснасці, былі прадстаўлены стылі рэнесансу, барока і класіцызму.*

*Мастак, мастацтвазнаўца, уладальнік знакамітай ракаўскай «Art-галерэі Янушкевічы» Фелікс Янушкевіч наведаў разам са сваёй сям'ёй выставу ў дзень яе адкрыцця, і таму вельмі хацелася б пачуць яго думку пра гэтую выставу.*

— *Спадар Фелікс, што Вы можаце сказаць пра задуму падрыхтаваць такую экспазіцыю?*

— Выстава сімвалічная, бо яна ўзнікла тады, калі наша рэспубліка дарасла да думкі, што трэба асэнсаваць вынікі развіцця мастацтва ў новай дзяржаве. Кожная дзяржава абапіраецца на нацыянальныя традыцыі. Наша дзяржава дарасла да разумення таго, што трэба прадэманстраваць вялікую рэтраспектыву сваёй дзяржаўнасці. На самай справе, чым большая рэтраспектыва, тым мацнейшы дзяржаўны лад. Праект выставы стаў падвядзеннем выніку развіцця мастацтва за даволі вялікі перыяд, які цяжка ахапіць, але ён сабраў мноства экспанатаў пад дахам аднаго музея. Мастацкі праект аказаўся вялікі па маштабе, але малаваты па плошчы.

— *Ці не здаецца Вам, што старажытнае мастацтва было прадстаўлена больш багата, чым сучаснае?*

— Прадстаўленыя рэчы больш тыповыя для Еўропы тых стагоддзяў, а ў наш час з'явілася шмат новых кірункаў і стыляў, таму амаль усё сучаснае мастацтва засталося па-за выставай. Паўтаруся — гэта грандыёзная задума з малым памяшканнем.

Відавочна, што шмат каштоўных экспанатаў засталося па-за выставачнай плошчай. На гэтай выставе прэзентавалася і мая карціна. Падчас фарміравання выставы мне тэлефанавалі з пытаннем, ці не маю я меншага па памеры твора. Думаў, што маю працу «Янка Купала і Біяніслаў Тарашкевіч. Варшава, Лазенкі. 1927 год» — карціну з выявай незвычайнага спаткання двух волатаў нацыянальнага

адраджэння напярэдадні татальнага пагрому беларускай інтэлігенцыі ў 30-я гады — не выставяць, хоць праца была набытая музеем яшчэ ў 1985 годзе. Карціна займала б шмат месца ў экспазіцыі, а арганізатарам хацелася выставіць як мага больш. Значыць, востра стаяла пытанне выставачнай плошчы.

Згодны з тым, што больш каларытна выглядала мінулае наша мастацтва. Гэта ўсё дзякуючы стылям, якія рэзка мяняліся праз стагоддзі. Арганізатары шыкоўна паказалі папярэднюю мастацкую цывілізацыю, якая была перад нашай, так бы мовіць, авангардавай з'явай, хоць творчасць нашага пакалення мастакоў чамусьці назвалі «Гістарычным рамантызмам».

*— Многіх наведвальнікаў выставы зацікавіла карціна Язэпа Драздовіча «Прарок», якая экспанавалася ўпершыню. Падзяліцеся, калі ласка, Вашымі думкамі наконт гэтай карціны.*

— Сапраўды, я не бачыў гэтай працы раней. У першыя дні пасля адкрыцця выставы карціна была змешчана каля працы Хаіма Суціна, нашага земляка, які праславіўся ў Францыі, бо гэта адзін час, але пасля працу Драздовіча перавесілі — яго карціна «ламала» экспазіцыю, не мясцілася побач з Суціным.

Язэп Драздовіч меў сваё адметнае мысленне, яго карціна не ўпісваецца ў мастацтва 30-х гадоў, хоць і «правільная» па часе. Калі Суцін «даганяў» экспрэсіянізм, працаваў у старым рэчышчы, то Драздовіч перайшоў у новае мастацкае вымярэнне, што пасля назвалі сюррэалізм. Ён пачаў працаваць па-за прасторай, па-за часам. «Прарок» — незвычайная карціна. Я ўвогуле не памятаю працаў Драздовіча, звязаных з хрысціянствам. Драздовіч быў мастаком-фантастам і часам рэалістам. Калі ён рабіў замалёўкі, то яны былі на 100 працэнтаў рэалістычныя. У яго быў дзіўны дыяпазон: ад рэалізму, дакладней ад этнаграфізму, да абсалютна надуманых рэчаў. Пасля Драздовіч завяршыў сваю дзейнасць дэкаратыўнымі дыванамі, што не мае адносінаў да жывапісу, — гэта прыкладное мастацтва. Дарэчы, астатнія яго працы прадстаўлены ў раздзеле дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

*— На карціне намаляваны прарок, а праз яго выяву мы бачым пейзаж са скалістых гораў, пустыні і святыню ўдалечыні.*

— Цяпер мы называем гэта сюррэалістычнаю прастораю. Яшчэ раз паўтару, што гэта нехарактэрная праца для мастака, ён любіў сімвалізм. Драздовіч скарыстаў набор элементаў, якія выкарыстоўвалі мадэрністы Херыко, Сальвадор Далі і іншыя. Тут яшчэ бачны набор касмічных элементаў. Майстра працаваў з космасам заўсёды. Калі не ведаць, што гэтую карціну маляваў Драздовіч, то па дзіўным горным краявідзе можна здагадацца, што аўтарства належыць менавіта яму. Драздовіч заўсёды даследаваў Марс. І на даляглядзе гэтай карціны таксама марсіянскія краявіды. Язэп Драздовіч намаляваў такіх краявідаў шмат. Гэта як бы праход да нябеснай цывілізацыі. Ён лічыў, што жыццё існуе і на Марсе, і на Нептуне, і на іншых планетах.

У 1931 годзе Язэп Драздовіч выкладаў у наваградскай гімназіі, і на даляглядзе ў карціне намаляваны Наваградскі замак. Руіны замка навеялі яму лінію сюжэта з выяваю вежы «Шчытоўка», якую цяпер адбудоўваюць, гэтак званай «Касцёльнай вежы», бліжэйшай да фарнага касцёла. Ён, гледзячы на гэтую вежу, на праломы, убачыў там сілуэт чалавека і прарока.

*— Яшчэ на карціне Драздовіча мы бачым прыступкі, якія ідуць у неба...*

— Так, але гэта праз рэальную вежу, якая мела высокі пралом. Яна была цаглянага колеру. У гэтай вежы можна заўважыць сімволіку друідаў... Калі ўзнік Наваградскі замак — мы ведаем. Спачатку паганства, а пасля — прыход хрысціянства. На карціне шмат сімволікі: гэта і баявая сякера, і шматлікія элементы старажытнай археалогіі.

*— Здаецца, што абрысы прарока нагадваюць Езуса, бо на галаве бачная цярнёвая карона.*

— На карціне сумясціліся тры пласты: язычніцтва, хрысціянства і космас. Цікавы ход і ўдала зроблены Драздовічам. Гэта нечакана!

*— Можам сказаць, што Язэп Драздовіч вывеў наша мастацтва на сусветны ўзровень?*

— На гэтай выставе праца Драздовіча была адною з самых моцных, а калі казаць пра 30-я гады, то нічога роўнага ёй не было. У гэты час нараджаўся сюррэалізм, ці звышрэалізм. Гэта карціна зроблена канкрэтнымі драздовічаўскімі сродкамі.

*— Яшчэ ёсць адна цікавая праца — «Святая Сям'я». Ніякай прывязанасці да часу ў ёй няма. Маленькага Езуса пояць з келіха, стол сервіраваны, на талерках ляжаць грушы і яблыкі...*

— Такую карціну можна было б убачыць па-рознаму, калі б на ёй не было лацінскага подпісу, што гэта Марыя, Езус і Юзаф...

*— Можа, спачатку мастак маляваў персанажаў гэтай карціны як самую звычайную сям'ю, а пасля дамаляваў кароны і німбы?..*




Абраз «Святая Сям'я. Мастак Гілярый Хаецкі. XVII ст. З брыгіцкага касцёла ў Гродне. Музей гісторыі рэлігіі, Гродна.

— У XVII ст. быў распаўсюджаны жывапіс «малых галандцаў», майстроў бытавога, пейзажнага і нацюрмортнага жанру. Гэта праца якраз мае невялікі памер і па традыцыі адлюстроўвае сямейнае жыццё ў малых памерах. Менавіта тады ў Еўропе быў такі класічны жанравы жывапіс. Але тое, што ўнізе карціны стаіць подпіс аўтара і пазначаны імёны намаляваных асобаў, вартае ўвагі для нашых мастацтвазнаўцаў. Калі мы бачым такі жывапіс, то падганяем яго пад уніяцкі. Ва ўніяцкім мастацтве было ўдалае сумяшчэнне кананічнага праваслаўнага мастацтва з еўрапейскай свабодай. Уніяцкае мастацтва мае такія дзіўныя творы, але нават у ім падобнае не сустракаецца. Тым больш што гэта не адпавядае ўніяцкаму канону, бо стол напоўнены, як у каталікаў. Звычайна ўніяты любілі маляваць адзін хлеб, часам дадаць адзін келіх. А тут і келіхаў шмат, і хлеба, і садавіны. Тое, што дзіця пояць з келіха, адлюстравана ў жанравых галандскіх карцінах. Больш карцін, дзе менавіта Езуса пояць, у сусветным мастацтве не знойдзем, гэта беспрэцэдэнтны варыянт. Цяжка растлумачыць яе змест у такім плане. Намаляваны келіх сведчыць аб культуры і шляхетнасці.

Кароны намаляваныя выдатна. Гэта чыста наша ўніяцкае мастацтва, гэта кароны вялікіх князёў літоўскіх! Выдатны паказчык нашага нацыянальнага мыслення! Тое, што бачым на стале, — гэта рэальнае ўрэцка-налібоцкае шкло. Кубкі падобныя да тых, што выраблялiся ў Майнцы, і падсвечнік намаляваны даволі рэалістычна.

*— А што Вас найбольш уражвае ў гэтай карціне?*

— Самае прыемнае на карціне — прапорцыі. Галава сям'і — Юзаф, і самая вялікая карона намалявана на яго галаве, хаця па ідэі і ўсіх законах логікі самая вялікая карона павінна быць калі не ў Езуса, то ў Марыі. Але патрыярхальшчына — цікавая рэч! Такая праца магла ўзнікнуць толькі ў нядаўна ахрышчаным асяроддзі, і недзе ад Наваградка да Ракава, і яшчэ яна мае нехрысціянскую архаіку. Апякун сям'і — гэта гаспадар, а ў хрысціянскай тэматыцы заўсёды пераважаюць два асноўныя героі — Марыя і Езус. Ведаючы ўсё мастацтва, мы не зможам знайсці аналогіі. Можна гаварыць пра такую рэч, як тыпалогія, ці пра тое, што мастакі называюць цяпер плагіятам.

*— Можа, назавём гэта больш далікатна — мастакі прытрымліваюцца канонаў?*

— Рэлігійныя рэчы маюць аналогію. Мастак не будзе думаць пра тое, што ён у кагосьці змалёўвае, — такая сістэма мыслення ў мастакоў. Ведаючы ўсё, ты проста малюеш, а пасля можаш знайсці ў некага аналогію. Аналогію гэтай карціне мы не знойдзем. У гэтым яе ўнікальнасць. Карціна вельмі цёплая па каларыце і выдатна перадае святасць сям'і. Глядзіш і думаеш, што толькі ў такой сям'і мог вырасці Езус...

Тут вельмі сцэментаваная кампазіцыя. На перакрыжаванні дыяганаляў ляжыць хлеб, тое, што Езус пасля разламае. У цэнтры змешчана не груша або келіх, а менавіта хлеб — сімвал Апошняй Вячэры. Гэта карціна як бы дае зразумець: Езус маленькі, але Яму прадвызначана падзяліць рэальны зямны хлеб і зрабіць яго хлебам духоўным і вечным.

*— А як Вам падабаецца гульня з колерамі?*

— Самае цікавае зроблена з колерам: Езус намаляваны ў чырвоным, як заўсёды падаецца на традыцыйных нашых абразах. Сімвал таго, што Яго чакае цяжкі шлях. Усё астатняе намалявана ў кананічным беларускім жывапісе. Марыя прыгожа апранута, як шляхцянкі

тых часоў. Юзаф подобны да людзей, якіх мы сустракаем у іншых нашых карцінах. Адно з сімпатычных вырашэнняў — мне вельмі падабаецца як мастаку — выява свечкі. Звычайна свечку малююць рэалістычна, а тут — чырвоным колерам. Яна столькі цяпла дае! Яна намаляваная ў падтрымку чырвонаму адзенню Езуса — свечка зноў сімвалічна спрацоўвае...

*— А наколькі мастак гэтай карціны, Гілярый Хаецкі, вядомы?*

— Мастак Гілярый Хаецкі якраз зусім невядомы, але тое, што ён рызыкнуў увайсці ў гісторыю, выклікае павагу. У тыя часы мастакі амаль не пісалі свае імёны. Ён напісаў сваё імя і прозвішча адразу пасля імёнаў Езуса, Марыі і Юзафа, прычым імёны святых асобаў пададзеныя маленькімі літарамі, а сваё ён напісаў вялікімі. Гэты мастак ведаў еўрапейскае мастацтва — нагадаю «малых галандцаў», якія малявалі жанравыя карціны, а не святых — і выдатна пераняў іх свабоднае стаўленне да творчасці.

*— Ці памятаеце Вы яшчэ адну вельмі цікавую рэч — скульптуру «Успенне Багародзіцы»?*

— Скульптура з паліхромным роспісам захавалася ў добрым стане, а, як ведаем, рэчы з паліхромным роспісам цяжка захоўваць. Час разбурае, і рэстаўратарам даводзіцца шмат працаваць, пасля чаго знікае аўтэнтыка. Праца зробленая ў класічных традыцыях народнага разьбярства.

*— Гэта скульптура вельмі кранальная, выклікае замілаванне...*

— Яна сапраўды кранальная. Народнае мастацтва прыземленае, ачалавечанае, няма задачы трымання стыляў. Майстар, які



Фрагмент скульптуры «Успенне Багародзіцы». З фондаў Музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ НАН Беларусі. Фота А. Глекава і М. Новікава.

рабіў яе, меў канкрэтную задачу — паказаць прыгожую жанчыну. У нашым выпадку прыгожая беларуская жанчына — гэта Маці Божая. Ён падаў не толькі прыгожы воблік, але і ўпрыгожыў Яе адзеннем. Пасля была прынята на ўзбраенне ў народным дэкараванні гэтак званая набойка. Як вядома, потым набойка з'явілася на шпалерах і іншых рэчах. Кветачкі на адзенні Маці Божай выдатна размеркаваны. Калі пакласці на матрыцу, то заўважым, што яны геаметрычна правільна выкладзены і нагадваюць спакойны луг. Менавіта гэта адзенне надае вобразу Багародзіцы асаблівы ўрачысты спакой.

*— У мастацтве даволі шмат скульптураў «Успення». На Вашу думку, чым наша «Успенне» адрозніваецца ад іншых?*

— Ёсць шмат скульптураў, выкананых прафесійнымі майстрамі, якія імкнуліся добра падаць нейкія складкі, залазілі ледзь не ў натуралізм. Яны былі майстрамі і адчувалі сябе абавязанымі перад Марыяй, і хацелі паказаць Яе ў багацці стылю той эпохі. А ў нас усе стылі адкінутыя і разьбяная скульптура вернутая да чыста народнага прачытання і разумення прыгажосці — гэта спакой, ураўнаважанасць. Гэта вельмі прыгожы твор народнага мастацтва высокага ўзроўню.

*— Дзякуй, спадар Фелікс, за вяртанне да выставы «Дзесяць стагоддзяў мастацтва Беларусі». Спадзяюся, што Вашыя развагі зацікавяць нашых чытачоў і заахвоцяць наведваць музеі, цікавіцца айчынным мастацтвам ды і ўсім, што звязана з культураю Беларусі.*

*Размаўляла Іна Ламака.*

*Фотаздымкі прадстаўлены Нацыянальным мастацкім музеем Рэспублікі Беларусь.*





# Данатэла.
# СВ. ЯН ЕВАНГЕЛІСТ І СВ. ЯН ХРЫСЦІЦЕЛЬ

Данатэла (каля 1386–1466), як называлі сучаснікі і нашчадкі Даната дзі Нікола дзі Бэці Бардзі, быў рэнесансавым наватарам у італьянскай скульптуры. «Засноўваючыся на руплівым вывучэнні натуры і ўмела выкарыстоўваючы антычную спадчыну, Данатэла першым з майстроў Адраджэння здолеў вырашыць праблему ўстойлівай пастаноўкі фігуры, перадаць арганічную цэльнасць цела, яго цяжар, масу. Адным з першых ён стаў выкарыстоўваць у сваіх творах тэорыю лінейнай перспектывы», — напісала пецярбургская даследчыца мастацтва Цэцылія Нэсельштраўс[1].

Данатэла нарадзіўся ў сям'і рамесніка ў Фларэнцыі або ў наваколлі сталіцы Тасканы. Падлеткам ён атрымаў першыя ўрокі мастацтва ў брыгадзе майстроў, што працавала над упрыгожваннем галоўнага сабора горада Санта Марыя дэль Ф'ёрэ. Мяркуецца, што ўжо тады Данатэла пазнаёміўся з крыху старэйшым Філіпа Брунэлескі, заснавальнікам рэнесансавай архітэктуры. Сяброўства праз усё жыццё было шляхам творчага ўзаемаўзбагачэння і сапраўды рэвалюцыйнай дзейнасці двух геніяў ранняга Адраджэння. Пазней юны Данатэла працаваў памочнікам у майстэрні выдатнага скульптара Ларэнца Гібэрці. У 20-гадовым узросце ён выканаў сваю першую самастойную скульптуру для аднаго з парталаў сабора — так распачалася яго творчая дзейнасць у родным горадзе. У 1431–1433 гг. Данатэла разам з Брунэлескі працаваў у Рыме, вывучаючы антычнае мастацтва, што адразу знайшло адлюстраванне ў ягоных творах. Надзвычай плённым было дзесяцігоддзе ягонай працы ў Падуі (1443–1453), дзе Данатэла ўпрыгожыў скульптурамі сабор св. Антонія і стварыў знакамітую статую Гатамэлаты, першы адліты ў бронзе конны помнік эпохі Адраджэння. Падуанцы так моцна палюбілі скульптара, што не хацелі выпускаць яго з свайго горада. Але Данатэла вярнуўся ў Фларэнцыю, дзе плённа працаваў для Касцёла да самай смерці ў 80-гадовым узросце.

Ужо на пачатку свайго творчага шляху малады скульптар стварыў шэдэўр, якому было наканавана роўна праз сто гадоў даць моцны імпульс для развіцця скульптуры Высокага Рэнесансу ў творчасці Мікеланджэла. Статуя «Св. Ян Евангеліст» (1409–1415) — адно з выразных словаў у новай пластычнай лексіцы пасля стагоддзяў Сярэднявечча. Аўстрыйскі класік мастацтвазнаўства Макс Дворжак так ахарактарызаваў скульптуру: «Гэта велічная постаць, якая, безумоўна, аказала ўплыў на «Майсея» Мікеланджэла. Няма ў ёй нічога нестабільнага. Моцна сядзіць на троне святы, а ягоныя масіўныя формы ясна вырысоўваюцца. Каменны блок ажыўляюць пранізлівы позірк вачэй і натуральна пададзеныя пазіцыі галавы і цела. Вось першая рэнесансавая скульптура!»[2].

Немагчыма ўстрымацца, каб не глядзець на твор Данатэла вачыма Мікеланджэла, праз прызму ягонай скульптуры «Майсей». І справа тут не толькі ў падабенстве кампазіцыі. Галоўнае — гэта сіла вобраза. Пасланец Усявышняга паўстае перад чалавецтвам, каб данесці, паведаміць людзям Боскую праўду. У Мікеланджэла пластыка напоўнена каласальнай энергіяй, яна падпарадкавана дынамічнаму рытму, а ў ягонага папярэдніка з ранняга Рэнесанса пераканана ўвасобленая непахісная, спакойная моц. Ёсць пэўная драматычная напружанасць у твары св. Яна: у сціснутых вуснах, нахмураных ілбе і, перш за ўсё, у вачах, скіраваных па-над намі, па-над штодзённым светам людзей. Другі вузел напружанасці — левая рука святога, што абапіраецца на кнігу. Пальцы рукі сціскаюцца амаль у

кулак. Які кантраст з трактоўкай правай рукі, што паслухмяна кладзецца на калена і цалкам уліваецца ў спакойную плынь формы ўсяе правай часткі фігуры!

У кантрастах, якія чытаюцца не адразу, і заключаецца пластычнае багацце гэтага твора. Галава святога вырашана ў цвёрдай статычнасці. Статыка працягваецца ў спакойным развіцці формы пры пераходзе да корпуса фігуры: раздвоеныя пасмы барады не парушаюць гэты ўстойлівы парадак — ён, здаецца, пануе і ў трактоўцы верхняй часткі фігуры. Але ўгледзьцеся: для Данатэла ледзь кранутыя складкамі мантыі грудзі святога — магутная, як рыцарскі панцыр, субстанцыя. Ніжняя частка фігуры завяршае кантрастам усю кампазіцыю. Буйныя складкі цяжка спадаюць хвалямі з каленяў, перасякаюцца і разбіваюцца ў дробны рысунак каля ступняў святога. Сапраўды, у гэтай скульптуры ёсць першапачаткі магутнай энергіі творчасці Мікеланджэла.

Праз трыццаць гадоў ужо пажылы майстар звяртаецца да вобраза св. Яна Хрысціцеля. Мармуровая фігура ў чалавечы рост дае нам даволі рэдкі прыклад трактоўкі тэмы: святы паказаны ў юнацкім узросце. Вобраз перагукваецца з работамі ранняга перыяду творчасці Данатэла, ягонымі двума скульптурнымі выявамі Давіда — юнага героя, пераможцы і выратавальніка народа. Скульптар гаворыць моладзі аб тым, што чалавек здольны на пасіянарны подзвіг з самых ранніх гадоў жыцця. Калі Мікеланджэла ў сваім знакамітым «Давідзе» паказаў спелага мужчыну ў расквіце фізічных і духоўных сілаў, то Данатэла ў выявах сваіх юнакоў падкрэсліў перш за ўсё пяшчотную крохкасць плоці (але і юнацкі імпэт) сваіх герояў.

Св. Ян Хрысціцель — адухоўлены, пазначаны Боскай сілай маладзён. Прыгожая галава, што нагадвае яснасцю рысаў рымскія патрэты, пастаўлена на тонкай шыі над вузкімі плячыма маладога інтэлектуала, для якога духоўнае жыццё важней за фізічныя практыкаванні. Відавочна, што гэта яшчэ зусім падлетак, але потым пачынаецца дзіўная метамарфоза. Данатэла пластычна трактуе рукі святога як найважнейшы цэнтр вобразнай выразнасці. У правай руцэ св. Ян трымае сцябло. Лінія аголенай рукі замыкае правы бок фігуры святога спакойным цячэннем пластычнай масы. Левая рука ахутана плашчом, які спадае з левага пляча, і сагнута ў локці. Як бліскуча вырашана скульптарам кісць гэтай рукі з тонкімі пальцамі! Вялікі Агюст Радэн, безумоўна, натхняўся гэтай пластыкай. Кампазіцыйны баланс фігуры знаёмы нам яшчэ з антычнай скульптуры. Сагнутая левая рука знаходзіць кампазіцыйны працяг у правайназе, якая робіць лёгкі крок, а статыка правай рукі адгукаецца ў выяве левай нагі, на якой трымаецца цяжар усяе фігуры. Але гэта не толькі фізічны баланс: у супярэчлівым суладдзі праяўляецца духоўная сутнасць вобраза. Гэта пачатак шляху вялікага прарока.

Развіццё тэмы св. Яна Хрысціцеля адбываецца праз два гады, у 1457 годзе. «Спелы і навучаны жыццём майстар звяртаецца да чалавечага болю. Бязлітасная праўдзівасць у мастацтве ёсць для яго ажно пакутлівай патрэбай», — напісала пра гэты перыяд славацкая даследчыца Людміла Пэтэраёва[3]. Бронзавая скульптура, выкананая для сабора ў Сіене, — гэта ўжо ўвасабленне вобраза прарока, які прапаведуе чалавецтву. На твары аскетычнага прапаведніка адбілася не толькі натхненне веры, але таксама і горыч, выкліканая неразуменнем многімі ягонай праўды. Фігура св. Яна да самых каленяў ахутана вярблюджай скурай з хвалістымі космамі. Адной рукой ён моцна прыціскае да сябе тонкі, высокі крыж, а правая рука ўзнятая ў жэсце благаслаўлення. Ва ўсёй пластыцы фігуры ёсць нервовая, сутаргавая напружанасць, якая нараджае абвострany драматызм. Святы ідзе да сваёй пакутніцкай смерці і ведае пра гэта, і не баіцца ворагаў веры. Галава св. Яна павернута ў бок, што надае яшчэ большую жыццёвасць вобразу. Гэта своеасаблівае вечнае казанне ў бронзе для ўсіх пакаленняў...

У савецкай мастацтвазнаўчай навуцы і педагогіцы назіраліся рэгулярныя спробы бачыць «перадавую сутнасць» рэнесансавага мастацтва ў параўнанні з сярэднявечным у тым, што «перадавое» было значна больш «свецкім», «натуралістычным», «адыходзіла ад царкоўных канонаў» і да т.п. Каментатары ў Мінску даходзілі да таго, што казалі пра «адсутнасць рэлігійнага», напрыклад, у гравюрах да Бібліі Ф. Скарыны. Каб манаграфія прайшла ў выдавецтве, нават класікі маскоўскай школы мастацтвазнаўства пісалі, што нямецкія гравюры на біблійную тэму «мацней за тэкст біблії» (менавіта з малой літары). Новым пакаленням беларусаў трэба пазбаўляцца ад гэтых навязаных комплексаў, што выйшлі з тэарэтызатарскіх маніпуляцый марксізму. Неабходна пераасэнсаваць з'явы выяўленчага мастацтва славутай мінуўшчыны, усвядоміць сапраўдную сутнасць творчых дасягненняў беларускай і ўсяе еўрапейскай мастацкай класікі.

Творчасць Данатэла і яго сучаснікаў — гэта хрысціянскае служэнне палымяных вернікаў Касцёла. Іх пошукі і адкрыцці ў мастацкай форме неад'емныя ад духоўных пошукаў Боскай ісціны, якую яны знаходзілі і ўслаўлялі ў сваіх несмяротных творах.

*Валеры Буйвал*

[1] История искусства зарубежных стран. Средние века, Возрождение. Под ред. Ц.Г. Нессельштраус. — Москва, 1982. — С. 189.
[2] Max Dvorak i jego teoria dziejów sztuki. — Warszawa, 1974. — С. 324.
[3] Peterajova L., Donatello. — Bratislava, 1970. — С. 21.

## CONTENTS

In the new issue of the quarterly magazine "Our Faith" you will find an article by D. Bichel and K. Lialko "Congratulations from the Motherland", dedicated to the 25th anniversary of the Bishop's Ordination of Metropolitan of the Archdiocese of Minsk-Mohilev T. Kondrusiewicz (p. 2-5).

"Cardinal Stanislaw Dziwisz about the Holiness of John Paul II" is the title of an interview of Marcin Przeciszewski with the former secretary of the great Pope, cardinal S. Dziwisz (p. 6-10).

K. Lialko in the essay "Oh, Those Pruzhany..." tells the readers about the connection of the first Belarusian Cardinal K. Świątek with the town of Pruzhany. N. Prakapovich writes about the history of the church in Pruzhany, where fr. K. Świątek served as a parochial vicar (p. 11-16).

In the article "Nonverbal Language in the Bible" by M. Pashuk the author interestingly tells the readers of nonverbal communication in the Holy Scriptures (p. 17-21).

We also continue to publish the translation of the work by Stephan Svyazhauski «Saint Thomas, re-read» made by A. Zhlutka, Section XII, «About the Angels, Pure Spirits» (p. 22-23).

Literary critic I. Bagdanovich offers the readers the article «Poetic Catechism of Jan Chachot». Here you will also find his poems translated from the Polish language (p. 24-29).

«The Four Loves» is the title of the work by English writer and theologian C.S. Lewis, we propose an excerpt from this work translated by Y. Shedzko (p. 30-32).

Fr. T. Jaklewicz in his article «Global War with Christians» writes about the painful problem of persecution of Christians in the world (p. 32-35).

«If There Is an Army Against Me, My Heart Shall not Fear...» is the title of the article by Doctor of Philology Zh. Nekrashevich-Karotkaya about the poem by Jan Radwan «Radziviliada» and about the visit of the place of Chashniki battle (p. 36-41).

Art critic V. Buival in the essay «The Lateran Basilica» writes about this ancient Roman shrine (p. 42-43).

Artist M. Kupava in his article «It's not Far-away Mountain» returns to the World War II events in Italy, the battle of Monte Cassino, where Belarusian soldiers also took part (p. 44-45).

In column «Poetry» we place verses by young poets J. Shedzko and K. Komar (p. 46-49).

M. Skobla in his article «Twenty three books by Nil Gilevich» writes about the unique edition of works of the national poet of Belarus in 23 volumes (p. 50-55).

Under the column «Prose» we place new works by U. Siuchykau (p. 56-59).

Literary critic I. Samatoy reflects on the philosophical lyric of famous poet from Bialystok professor J. Chikvin (p. 60-65).

Interview of I. Lamaka with artist F. Yanushkevich is dedicated to exhibition «Ten centuries of art of Belarus» (p. 66-69).

V. Buival in column «Gallery» introduces another masterpieces of art, works of Italian sculptor Donatello (p. 70-71).

## RESÜMEE

Die neue Nummer der Vierteljahreszeitschrift „Unser Glaube" beginnt mit dem Artikel von D. Bitschel und K. Lialko „Glückwunsch aus der Heimat", der dem 25. Jubiläum der Bischofsweihe des Metropoliten der Erzdiözese Minsk und Mogiljow T. Kondrusiewicz gewidmet ist (S. 2-5).

„Kardinal Stanisław Dziwisz über die Heiligkeit von Johannes Paul II." heißt das Interview von Martin Przeciszewski mit dem ehemaligen Sekretär des großen Papstes, Kardinal S. Dziwisz (S. 6-10).

Über die Beziehung des belarussischen Kardinals K. Świątek zu Prushany erzählt K. Lialko im Essay „Ach, diese Prushany…". Über die Geschichte der katholischen Kirche in Prushany, wo Kardinal Świątek als Vikar tätig war, schreibt N. Prakapowitsch (S. 11-16).

Im Artikel „Außersprachliche Sprache in der Bibel" erzählt M. Paschuk interessant über die nonverbalen Kommunikationsmittel in der Heiligen Schrift (S. 17-21).

Die Veröffentlichung des von A. Shlutka übersetzten Werkes von Stefan Swjashauski „Heiliger Thomas, neu gelesen" — Abschnitt XII, „Über die Engel — die reinen Geister" — wird fortgesetzt (S. 22-23).

Die Literaturwissenschaftlerin I. Bagdanowitsch präsentiert den Leserinnen und Lesern den Artikel „Der poetische Katechismus von Jan Tschatschot". Darin sind auch die aus dem Polnischen übersetzten Gedichte des Poeten veröffentlicht (S. 24-29).

„Vier Arten der Liebe" heißt das Werk des englischen Schriftstellers und Theologen C.S. Lewis, das in der Übersetzung von J. Schedsjko (Abschnitt III „Freundlichkeit") veröffentlicht wird (S. 30-32).

Über das schmerzhafte Problem der weltweiten Christenverfolgung schreibt Priester T. Jaklewitsch im Artikel „Der Weltkrieg gegen die Christen" (S. 32-35).

Unter dem Titel „Mag ein Heer mich belagern: Mein Herz wird nicht verzagen..." ist der Artikel der Doktorin der philologischen Wissenschaften S. Nekraschewitsch-Karotkaja über das Poem „Radsiwiliada" von Jan Radwan und über den Besuch der Stelle, wo der Kampf von Tschaschniki stattgefunden hat, veröffentlicht (S. 36-41).

Der Literaturwissenschaftler W. Bujwal schreibt im Essay „Die Lateranbasilika" über das altertümliche römische Heiligtum (S. 42-43).

Der Maler M. Kupawa berichtet im Artikel „Nicht mehr ein ferner Berg" über die Kriegsereignisse in Italien auf Monte Cassino, an denen auch belarussische Soldaten teilnahmen (S. 44-45).

Die Rubrik „Poesie" enthält Gedichte der jungen Poetinnen J. Schedsjko und K. Komar (S. 46-49).

M. Skobla schreibt im Artikel „Dreiundzwanzig Bücher von Nil Gilewitsch" über die einmalige Werkausgabe des Poeten in 23 Bänden (S. 50-55).

Die Rubrik „Prosa" enthält neue Werke von U. Siutschykau (S. 56-59).

Über die philosophische Lyrik des bekannten Poeten, Professor J. Tschykwin aus Belastok, reflektiert in seinem Artikel der Literaturwissenschaftler I. Samatoj (S. 60-65).

Der Ausstellung „Zehn Jahrhunderte der Kunst von Belarus" ist das Interview von I. Lamaka mit dem Maler F. Januschkewitsch gewidmet (S. 66-69).

W. Bujwal macht in der Rubrik „Galerie" die Leserinnen und Leser mit weiteren Meisterwerken der Weltkunst bekannt — mit den Werken des italienischen Bildhauers Donatello (S. 70-71).

## PODSUMOWANIE

Nowy numer kwartalnika «Nasza wiara» otwiera artykuł D. Biczel i K. Lalko p.t.«Życzenia z ojczyzny», poświęcony 25-leciu sakry biskupiej Metropolity archidiecezji Mińsko-Mohylewskiej T. Kondrusiewicza (s. 2-5).

«Kardynał Stanisław Dziwisz o świętości Jana Pawła II» — oto nazwa wywiadu Marcina Przeciszewskiego z byłym sekretarzem wielkiego Papieża, kard. S. Dziwiszem (s. 6-10).

O więzi pierwszego białoruskiego kardynała K. Świątka z Prużanami opowiada K. Lalko w eseju «Ach, te Prużany …». A o historii kościoła w Prużanach, gdzie jako wikariusz posługiwał ks. K. Świątek, pisze N. Prokopowicz (s. 11-16).

W artykule p.t. «Pozasłowny język Biblii» M. Paszuk intereresująco opowiada o niewerbalnych środkach komunikacji w Pismie Świętym (s. 17-21).

Kontynuujemy publikację tłumaczenia A. Złutki pracy Stefana Świeżawskiego «Święty Tomasz na nowo odczytany» — rozdział XII. «O aniołach – duchach czystych» (s. 22-23).

Znawca literatury I. Bogdanowicz proponuje uwadze czytelników artykuł «Poetycki katechizm Jana Czeczota». Są tu również umieszczone wiersze poety w tłumaczeniu z języka polskiego na język białoruski (s. 24-29).

«Cztery miłości» — to tytuł utworu angielskiego pisarza i teologa C. S. Lewisa, ciąg dalszy którego podajemy w tłumaczeniu J. Szedźko (rozdział III. «Przywiązanie») (s. 30-32).

O bolesnym problemie przesladowań chrześcijan w świecie pisze ks. T. Jaklewicz w artykule «Wojna światowa z chrześcijanami» (s. 32-35).

«Chociażby stanął naprzeciw mnie obóz, moje serce bać się nie będzie…» — nazwa artykułu, w którym doktor nauk filologicznych Ž. Niekraszewicz-Karotkaja opowiada o poemacie Jana Radwana p.t. «Radziwiliada» oraz zaprasza do zwiedzenia miejsca bitwy pod Czaśnikami (s. 36-41).

Znawca sztuki W. Bujwał w eseju «Bazylika laterańska» opisuje piękno tej starożytniej rzymskiej świątyni (s. 42-43).

Malarz M. Kupawa w artykule p.t. «Już niedaleka góra » wraca do zdarzeń wojennych we Włoszech na Monte-Cassino, w których brali udział również żołnierze białoruscy (s. 44-45).

W rubryce «Poezja» zostały umieszczone wiersze młodych poetek J. Szedźko i K. Komar (s. 46-49).

M. Skobła w artykule «Dwadzieścia trzy książki Niła Gilewicza w jednym» pisze o wydaniu utworów narodowego poety Białorusi w 23-ech tomach (s. 50-55).

W rubryce «Proza» umieszczamy najnowsze utwory U. Siuczykawa (s. 56-59).

Na temat filozoficznej liryki znanego białostockiego poety profesora J. Czykwina rozważa w swoim artykule I. Samatoj (s. 60-65).

Wystawie «Dziesięć wieków sztuki Białorusi» jest poswięcony wywiad I. Łamaki z malarzem F. Januszkiewiczem (s. 66-69).

W. Bujwał w rubryce «Galeria» przedstawia czytelnikom kolejne arcydzieła sztuki światowej — prace włoskiego rzeźbiarza Donatello (s. 70-71).

## SOMMARIO

Il nuovo numero della rivista trimetrale "Naša vera" inizia con l'articolo di D. Bičel e K. Lalko "Un auguri dalla patria" dedicato al 25° anniversario della consacrazione vescovile di T. Kandrusevič, Metropolita della Diocesi di Minsk e di Maghiliou (p. 2-5).

"Il Cardinale Stanislau Dziwisz racconta la santità di Giovanni Paolo II" è il titolo dell'intervista dell'ex Segretario del Sammo Pontefice Cardinale S. Dziwisz presa da Martin Przeciszewski (p. 6-10).

K. Lalko parla del legame tra la città di Pružany e il primo cardinale bielorusso K. Swiontek nel saggio "O questa Pružany...", mentre N. Prakapovič scrive della storia della chiesa cattolica di Pružany dove il prete K. Swiontek ha prestato il servizio di vicario (p. 11-16).

Nell'articolo "La lingua oltre le parole nella Bibbia" M. Pašuk approfondisce l'argomento dei mezzi della comunicazione non verbale nelle Sacre Scritture (p. 17-21).

Continua la pubblicazione della traduzione dell'opera di Stefan Swiezawski "San Tommaso riletto" eseguita da Ales Žlutka. Si pubblica la parte XII, "Degli angeli, puri spiriti" (p. 22-23).

La Dottoressa di ricerca in letteratura I. Bagdanovič presenta il suo articolo "La Catechesi poetica di Jan Čačot" accompagnato dalla pubblicazione delle poesie di quest'ultimo tradotte dal polacco (p. 24-29).

Un altro brano del libro dello scrittore e teologo inglese C. S. Lewis "Quattro Amori" viene offerto ai lettori nella traduzione di J. Šedzko (Parte III. Simpatia) (p. 30-32).

L'articolo "La guerra mondiale agli cristiani" del sacerdote T. Jaklevič è dedicato al dolente problema di persecuzione degli cristiani nel mondo (p. 32-35).

"Quando insorgerà l'esercito contro di me, il mio cuore non avr paura..." è il titolo dell'articolo della Dottoressa di ricerca in letteratura Ž. Nekraševič-Karotkaia dedicato al poema di Jan Radvan "Radziviliada" e alla visita del luogo della battaglia di Čašniki (p. 36-41).

Il critico d'arte V.Bujval nel saggio "La Basilica di San Giovanni in Laterano" scrive dell'antico santuario romano (p. 42-43).

Il pittore M. Kupava nell'articolo "Una montagna ormai non lontana" torna agli eventi della guerra al Monte Cassino in Italia dove hanno partecipato anche i soldati bielorussi (p. 44-45).

Nella rubrica *Poesia* sono collocati i versi delle giovani poetesse J. Šedzko e K. Komar (p. 46-49).

M. Skobla nell'articolo "I ventitre libri di Nil Ghilevič" scrive della singolare edizione in 23 volumi delle opere del Poeta del Popolo Bielorusso (p. 50-55).

Nella rubrica *Narrativa* sono collocate nuove opere di U. Siučykau (p. 56-59).

Il critico letterario I. Samatoy riflette nel suo articolo sulla poesia filosofica del famoso poeta di Belastok, Professore universitario J. Čykvin (p. 60-65).

L'intervista del pittore F. Januškevič presa da I. Lamaka è dedicata alla mostra "Dieci secoli dell'arte bielorussa" (p. 66-69).

Il critico d'arte V.Bujval nella rubrica *Galleria* presenta ai lettori altri capolavori dell'arte mondiale, le opere dello scultore italiano Donatello (p. 70-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — рымская базыліка *San Giovanni in Laterano* (св. Яна ў Латэране).

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 3 (69)/2014.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 24.09.2014 г. Фармат 60х84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 768.*
*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж»Ліцэнзія № 02330/250 ад 27.03.2014.*
*Вул. Каліноўскага, д. 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

# ДАНАТЭЛА



*Св. Ян Хрысціцель у юнацтве.*
*Каля 1455 г., мармур, выш. 173 см.*
*Нацыянальны музей, Фларэнцыя.*



*Св. Ян Евангеліст.*
*1409–1415 гг., мармур, выш. 210 см.*
*Музей сабора,Фларэнцыя.*

